# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 1 (81)** **СТУДЗЕНЬ - САКАВІК** **2018 г.**

100 год БНР

БЕЛАРУСЬ + НАВЕЧНА!



*Кастусь Езавітаў, відны дзеяч БНР, у 1919 годзе камісар Плянты - Шчучынскага павета (заходняй часткі Лідскага павета, вольнай ад бальшавікоў)*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 1 ( 81 )** **СТУДЗЕНЬ - САКАВІК** **2018 г.**


## У НУМАРЫ:



На першай старонцы выкладкі камень “100 год БНР”, устаноўлены на Лідчыне да 25 сакавіка 2018 г.
*Здымак С. Судніка.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 250 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2490.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.03.2018 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.08.2018 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 2,47 руб.**
**індывід. 6 мес. - 4,94 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792





# "Лідская хроніка" Леаніда Лаўрэша

*У канцы 2017 года выйшла фундаментальная кніга Леаніда Лаўрэша "Шэпт пажоўклых старонак", створаная на аснове публікацый пра Лідчыну ў прэсе 1900-1939 гг.. Прэзентацыя прайшла ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі 28 лютага 2018 г.*




*Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. / Л.Л. Лаўрэш. - Гродна: ТАА "ЮрСаПрынт", 2017. - 432 с.*

Кніга Леаніда Лаўрэша ў пэўным сэнсе ўнікальная. Гэта свайго роду хроніка мінулага Ліды, складзеная карэспандэнтамі шматлікіх газет і часопісаў, у якой адлюстравалася жыццё горада і наваколляў у першае саракагоддзе XX ст.

Перыядычны друк - даволі спецыфічная гістарычная крыніца, з якой не вельмі любяць працаваць гісторыкі. Як правіла, яны імкнуцца да аб'ектыўнага асвятлення мінулага, але часта не ўсведамляюць таго, што кожны гістарычны дакумент непазбежна ўтрымлівае "пячатку" ягонага стваральніка. Апошні звычайна не імкнуўся да аб'ектыўнасці, а спрабаваў давесці ўласную правату ці правату той супольнасці, да якой належаў. На самой справе аб'ектыўнасць для гісторыка - недасягальная мэта. Фактычна, ён займаецца рэканструкцыяй мінулага на падставе тых слядоў, якія яно пакінула ў пісьмовых дакументах, у памяці, у рэштках матэрыяльнай культуры ды інш. Аднак гістарычны дакумент, знойдзены ў архіве, як правіла, лічыцца "аб'ектыўным" ўжо толькі дзякуючы месцу ягонага знаходжання. Іншая справа - перыядычны друк. Тут адсутнасць аб'ектыўнасці навідавоку. Рэдакцыя кожнага выдання імкнулася данесці да чытачоў уласнае бачанне сітуацыі, асабліва калі гэта датычыла сацыяльна-палітычных ці нацыянальных і канфесійных падзей. Але менавіта гэтая відавочная суб'ектыўнасць і ствараe тую шматколерную карціну мінулага, якая ў найбольшай ступені перадае дух і атмасферу мінулай эпохі і максімальна набліжае нас да яе разумення.

Горад Ліда - слаўны сваёй гісторыяй, якая мае таленавітых даследчыкаў. І Леанід Лаўрэш - адзін з іх. Ягонымі намаганнямі ўжо адноўлены многія важныя старонкі мінулага Ліды і Лідскага краю. Постаць даследчыка прысутная і ў гэтай кнізе. Праўда, яна знаходзіцца на другім плане, і чытач мае магчымасць самастойна ацэньваць тыя падзеі і здарэнні гісторыі Лідчыны, якія адлюстраваліся на старонках шматлікіх газет і часопісаў. Але іх адборам і ўкладаннем займаўся якраз даследчык, і іх прысутнасць у кнізе, безумоўна, з'яўляецца пэўным адлюстраваннем аўтарскіх прыярытэтаў як у разуменні ролі гісторыка, так і ў выбары найбольш актуальных гістарычных сюжэтаў. Дык вось сярод гэтых прыярытэтаў відавочнае імкненне да самастойнасці ў даследаваннях. Яно спалучаецца з жаданнем распавесці пра тое, што можа вызваліць чытача з палону ідэалагічных шаблонаў, сфармаваных яшчэ ў савецкія часы, пераадолець бяспамяцтва, якое на нашай зямлі навязвалася амаль усімі ўладамі XX стагоддзя. Даследчык з дапамогай перыядычнага друку раскрывае перад чытачом новыя далягляды мінулага і дапамагае яму ўбачыць прыгажосць і веліч айчыннай беларускай гісторыі, адчуць яе боль, часта схаваны пад накінутымі ідэалогіямі, якія ігнаруюць агульначалавечыя каштоўнасці і самую вялікую з іх - каштоўнасць чалавечага жыцця.

Прапанаваная хроніка Ліды дазваляе зазірнуць у малавядомыя старонкі гісторыі горада і наваколляў у апошнія гады існавання Расійскай Імперыі, у часы ваенных выпрабаванняў, якія працягваліся для Лідчыны доўгія сем гадоў - з 1914 па 1921. Шмат месца ў кнізе займае хроніка горада міжваеннага перыяду, калі Ліда знаходзілася ў складзе Польскай Рэспублікі. Гэтыя старонкі прыцягваюць асаблівую ўвагу ў сувязі з тым, што ў ранейшыя часы гэты перыяд гісторыі звычайна адпраўлялі ў забыццё. Кніга заканчваецца падзеямі, у якіх адчувальны подых Другой сусветнай вайны... Маю надзею, што аўтар працягне сваё даследаванне, і мы атрымаем працяг "Лідскай хронікі".

***Доктар гістарычных навук***
***Алесь Смалянчук.***

# 100-годдзе БНР на Лідчыне

## На Лідчыне ўсталявалі памятны камень "100 год БНР"

Лідчына адгукнулася на ўсебеларускі заклік ўсталяваць памятныя камяні - "100 год БНР". Актывісты і фундатары адшукалі вялікі валун патрэбнай формы ў вёсцы Дакудава, каля Нёмана. Затым перавезлі яго на прыватны падворак у Ёдкі, што каля Ліды. А майстар з Бярозаўкі вырабіў на камені адпаведны надпіс - "100 год БНР" і "БЕЛАРУСЬ НАВЕЧНА". Такім чынам Лідчына прачала адзначаць памятную дату ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ідэя ўсталявання памятных камянёў з нагоды 100-годдзя БНР належыць палітыку Зянон Пазняку. Мяркуецца, што цягам гэтага года падобныя манументы паўстануць па ўсёй Беларусі, а таксама па свеце, дзе жывуць беларусы. Такім чынам, Лідчына - першая мясціна, дзе здзейснілі такую задуму. Вядома, што патрыёты з Наваградчыны таксама выступілі з падобнай ініцыятывай. Але там паспелі толькі падабраць камень, улады анулявалі папярэдні дазвол на ўстаноўку.







## Памяці герояў нацыянальнага адраджэння

24 сакавіка, напярэдадні Дня Волі актывісты ТБМ і іншых грамадскіх арганізацый з Лідчыны, а таксама сябар ТБМ Віталь Куплевіч з Радуні наведалі памятныя мясціны, звязаныя з нацыянальным беларускім адраджэннем.

У Лідзе на праваслаўных могілках быў запалены зніч на магіле дзеячоў Беларускай незалежніцкай партыі Юльяна Саковіча, Валерыя Маракова і інш.

У Воранаве ўсклалі кветкі і запалілі зніч на магіле міністра абароны БНР, генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Кандратовіча.

У вёсцы Пагародна наведалі музей у мясцовай школе, дзе ёсць экспазіцыя, прысвечаная генералу Кандратовічу. Генерал Кандратовіч валодаў маёнткам Гародна, тут у мясцовым парку пахавана урна з прахам дачкі генерала.

Наступным пунктам стала магіла Алаізы Пашкевіч (Цёткі) ў Старым Двары Шчучынскага раёна. Большасць актывістаў была тут упершыню. А разам з тым Цётка, хоць і не дажыла непасрэдна да БНР, але для таго, каб БНР адбылася, зрабіла не менш, а мо і больш за многіх з тых, хто прымаў 3-ю Устаўную





грамату. Тут таксама былі ўскладзены кветкі і запалены зніч. Адгэтуль пераехалі да магілаў паўстанцаў каля Малога Ольжава ў Лідскім раёне, каб запаліць знічы, а таксама ацаніць аб'ём работ па добраўпарадкаванні мемарыяла, бо работы, якія вяліся восенню, не закончаны.

## *100 год БНР у Лідскім гістарычна-мастацкім музеі*

Святкаванне 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі ў Лідзе арганізоўваў Лідскі гістарычна-мастацкі музей. Ліда - адзіны горад у краіне, дзе святкаванне юбілею БНР ладзіла выключна дзяржаўная структура, грамадскасць актыўна дапамагала.

Вечарыну вялі паэт Алесь Хітрун і дырэктар музея Ганна Драб. Падчас святкавання ў гэты дзень гучалі патрыятычныя песні ў выкананні Сяргея Чарняка і Зміцера Захарэвіча. Артыст Алег Лазоўскі выдатна выканаў вершы лідскіх паэтаў Уладзіміра Васько, Станіслава Судніка, а таксама класікаў Анатоля Бутэвіча і Ніла Гілевіча.

Кароткую лекцыю пра гісторыю БНР прачытаў навуковы супрацоўнік музея Ілья Пузаткін, а пра ўклад























лідзян у справу БНР распавёў прызнаны гісторык Леанід Лаўрэш, які некалькі месяцаў таму назад быў прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Таму важным пунктам імпрэзы стала ўручэнне Леаніду Лаўрэшу пасведчання сябра Саюза пісьменнікаў, для чго з Гародні спецыяльна прыехаў старшыня абласнога аддзялення Валянцін Дубатоўка.

Трэба сказаць, што з Гародні прыехала цэлая дэлегацыя. Прафесар Аляксей Пяткевіч распавёў прысутным кароткую гісторыю БНР, а паэты Рычард Бялячыц і Ала Нікіпорчык дадалі свае вершу ў лідскую паэтычную нізку. Валянцін Дубатоўка прэзентаваў альманах "Новы замак" за 2017 год і шчыра павіншаваў усіх прысутных са слаўным юбілеем.

Ад Ліды акрамя Алега Лазоўскага вершы чыталі Ганна Рэлікоўская, Міхась Мельнік, Алесь Мацулевіч, Станіслаў Суднік.

Атрымалася свята, якога ў Лідзе даўно не было, што праўда і такой даты не было. Людзі пакідалі залу са словамі падзякі ў адрас калектыву музея і гарадскіх уладаў у цэлым. Той рэдкі выпадак, калі ўладу не лаялі, а шчыра дзякавалі. Дзякавалі не толькі за імпрэзу, а за



дзяржаўны падход да пытання кансалідацыі грамадства на грунце беларускага патрыятызму.

У Лідзе ўжо многія гады ідзе цеснае супрацоўніцтва паміж грамадскімі арганізацыямі і органамі ўлады, так будзе і далей.

***Паводле СМІ.***

# 155 гадоў таму назад - 1 лютага 1863 г. - Літоўскі правінцыйны камітэт заклікаў усіх ліцвінаў узяцца за зброю, Беларусь паўстала

***1 лютага 1863 г. Літоўскі правінцыйны камітэт заклікаў усіх "ліцвінаў" узяцца за зброю і падтрымаць паўстанне ў Польшчы. Абвяшчаўся Часовы правінцыйны ўрад Літвы і Беларусі.***



13 лютага 1863 г. у Шаўры да Людвіка Нарбута прыбыў ганец Віленскага камітэта з загадамі, адным з загадаў Людвік прызначаўся вайсковым начальнікам Лідскага павета. Атрымаў ён і загад пра пачатак паўстання.

Нядоўга доўжылася падрыхтоўка да ад'езду, усё ўжо было гатова. Перад ад'ездам сабралася ўся вялікая сям'я Нарбутаў. Людвік быў апрануты ў старую камізэльку, падбітую аўчынай, і ўзброены рэвальверам, на баку вісела старая каўказская шабля. Сястра Тэадора ўручыла яму харугву, вышытую ўласнымі рукамі, а ён перадаў ёй маніфест Камітэта для ксяндза з Начы, каб заўтра прачытаць вернікам. Людвік захоўваў поўны спакой і пасля дабраславення бацькамі і развітання з маладой жонкай і сваякамі, у суправаджэнні брата Баляслава і шасці блізкіх паплечнікаў - сяброў маладосці і сялян роднага маёнтка - з'ехаў з хаты. Праз некалькі кіламетраў ад хаты, у Салапацішскім лесе, каля Эйшышскага гасцінца, аддзел спыніўся - тут было



месца збору паўстанцаў.

У першы лагер нарбутаўцаў, закладзены за тры вярсты ад Начы, у ноч з 13 на 14 лютага з групай у сем чалавек прыйшоў Леў Краінскі з Грышанішак.

Назаўтра, 14 лютага, сястра Тэадора прыехала да нацкага пробашча ксендза Готаўта і перадала яму маніфест. Готаўт у той жа дзень зачытаў маніфест паўстанцаў.

Паўстанне на землях былога Вялікага Княства Літоўскага перайшло ва ўзброеную фазу.

***Яраслаў Грынкевіч.***

*Верхні малюнак аўтарства М.Э. Андрыёлі.*

# КРОНІКА ЛІДЫ

У студзені 2018 года форма для спартсменаў з Беларусі, удзельнікаў XXIII зімовых Алімпійскіх гульняў у Пхенчхане была выраблена ў Лідзе спецыялістамі філіяла літоўскай кампаніі "Аўдзімас". Адзначым, што экіпіроўку беларускіх удзельнікаў Алімпіяды-2016 у Рыа-дэ-Жанейра зрабілі тут жа.



У студзені 2018 года традыцыйнае белаўзорыстае ткацтва Панямоння ўнесена ў спіс нематэрыяльнай гістарычна-культурнай спадчыны Беларусі, і зроблена заяўка на ўнясенне ў спіс ЮНЕСКА.

Працу па вывучэнні белаўзорыстага ткацтва ў 2016 годзе распачала малодшы навуковы супрацоўнік Лідскага раённага аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры Марына Савіцкая. Перадумовай гэтага стала жаданне захаваць і адрадзіць забытае рэгіянальнае народнае рамяство, адзіным носьбітам якога на Лідчыне з'яўляецца Яўген Маркевіч.



У лютым 2018 года сумесная праца скульптараў Вольгі Нячай і Сяргея Аганава стала пераможцай конкурсу эскізаў помніка князю Гедыміну ў Лідзе, што ладзіў райвыканкам. У ім бралі ўдзел 28 эскізаў. Скульптуру маюць усталяваць у скверы на скрыжаванні вуліц Грунвальдскай і Замкавай, каля паўночнай сцяны Лідскага замка.

*Здымак "Лідскай газеты".*





У лютым 2018 года ў Лідскім раёне 11-ю Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі звыш 5500 чалавек.





***Справа - Лявон Анацка***

2-4 сакавіка ў Лідзе праходзіў двухсуткавы ультрамарафон пад назваю "Самапераадоленне". Удзельнікі забегу стартавалі на трох дыстанцыях - на 12, 24 і 48 гадзін.

Ідэя правядзення першага ў Беларусі ультрамарафону належыць старшыні Лідскай арганізацыі ТБМ Лявону Анацку.

У сакавіку "Ордэн Маці" атрымалі лідзянкі Таццяна Кушнер, Юлія Яскель, Тамара Роман, Аляксандра Мурына, Святлана Скрага і Вольга Жывушка.



# Лідскія юбіляры 2018 года

## Мазітава Святлана Апанасаўна

***Кіраўнік калектыва аўтарскай песні "Творчая музычная майстэрня "Родник";***
***лаўрэат рэспубліканскіх конкурсаў;***
***выкладчык вышэйшай катэгорыі музыкі і спеваў Установы адукацыі "Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, Лідскі каледж;***
***старшыня ЦК музыкі і спеваў УА ГрДУ імя Я. Купалы, Лідскі каледж (з 2011 г. па 2014 г.).***

Нарадзілася 20.03.1958 г. у г. Лідзе.

Бацька - Куцярніцкі Апанас Кузьміч - майстар Лідскай абутковай фабрыкі

Маці - Куцярніцкая Зоя Антонаўна - выкладчык пачатковых класаў Ганчарскай школы, мікшар кінатэатра "Юбілейны.

З 1 класа Святлана вучылася ў СШ № 8 , пасля пераводу СШ № 8 на Расляікі перайшла вучыцца ў 8 клас у СШ № 11, дзе і скончыла 10 класаў у 10 "В" класе ў 1975 годзе.

Паралельна з агульнаадукацыйнай, з 4 класа вучылася ў Лідскай музычнай школе. 4 гады займалася па класе скрыпкі, але затым цікавасць праявіла да фартэпіяна і перайшла займацца па класе фартэпіяна. 3 гады вучылася ў выдатнага педагога Марыі Іллінічны Рачкоўскай, пад яе кіраўніцтвам на конкурсе на лепшае выкананне эцюда ў музычнай школе заняла 1 месца.

Пасля заканчэння 10 класаў, у 1975 годзе паступіла ў Лідскае музычнае вучылішча па класе фартэпіяна. Дарэчы, на той час, вельмі складана было паступіць у навучальную ўстанову такога плану і быў досыць вялікі конкурс - 4,5 чалавека на месца. З цеплынёй і любоўю ўспамінае вучобу ў гэтай выдатнай навучальнай установе, дзе ёй далі лепшую музычную адукацыю, з якой яна ўпэўнена крочыла па жыцці, удзячная сваім выкладчыкам: Труханавай Ірыне Уладзіміраўне, Зусман (Дзвілянскай) Бэле Аронаўне, Акімавай Таццяне Аляксееўне.

У 1979 годзе скончыла Лідскае музычнае вучылішча, атрымаўшы дыплом выкладчыка музычнай школы па класе фартэпіяна, канцэртмайстра.

У гэтым жа годзе скончыла курсы экскурсаводаў у Лідскім бюро вандраванняў і экскурсій. З вялікай цікавасцю працавала пазаштатным экскурсаводам у тым жа Лідскім бюро вандраванняў і экскурсій.

Вышэйшую адукацыю атрымоўвала завочна ў Менскім дзяржаўны педагагічны інстытуце імя А.М. Горкага, выкладчык музыкі і спеваў (спецыяльнасць - фартэпіяна) з 1983 г- 1987 г., дзе ёй пашчасціла вучыцца ў таленавітага выкладчыка фартэпіяна Кагановіча Генадзя Паўлавіча (цяпер выкладае і жыве ў Германіі), які тады выкладаў у Ліцэі пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі для адораных дзяцей і па сумяшчальніцтве - у інстытуце.

На пятым курсе інстытута Святлана Апанасаўна стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу навуковых прац на лепшую працу па натуральных і гуманітарных навуках у г. Менску ў 1986 годзе (кір. Кагановіч Г.П.).



Пасля заканчэння музычнага вучылішча пачала сваю працоўную дзейнасць акампаніятарам гімнасты-кі на вольных практыкаваннях у ДЮСШ №1 г. Ліды. Вельмі добры калектыў сустрэў маладога спецыяліста, і Святлана Апанасаўна з задавальненнем заглыбілася ў творчую працу ў спартовай школе. Гэта вельмі цікавая і творчая праца, нестандартная, праца, якая патрабавала творчасці і фантазіі. Бо трэба было ствараць музычныя суправаджэнні на вольных практыкаваннях гімнастам, перапрацоўваць музычны матэрыял, складаць новы, які адпавядае тэмпераменту кожнай гімнасткі. З вольнымі практыкаваннямі выхаванцаў, з гонарам выступалі ў Гародні ў школе Алімпійскага рэзерву, у зале Вольгі Корбут. Вельмі цікава было выступаць на спаборніцтвах з выхаванцамі і заваёўваць дыпломы на спаборніцтвах. Харэографам працавала таленавітая тытулаваная гімнастка - мінчанка Лаўрыненкава Людміла. З ёй было створана шмат найцікавых вольных кампазіцый для гімнастаў, у выніку якіх выхаванцы заўсёды падніmaліся на па-

стамент пашаны і займалі прызавыя месцы на спаборніцтвах.

У 1983 годзе Святлана Апанасаўна выйшла замуж. Муж: Мазітаў Рым Ахметнабіевіч - тэхнік выпрабавальнік авіяцыйных рухавікоў Уфімскага маторабудаўнічага авіяцыйнага аб'яднання. Працаваў з 1982 года ў вайсковай частцы ў г. Лідзе па абслугоўванні авіяцыйнай тэхнікі ў Паўднёвым вайсковым гарадку. У 1984 годзе ў іх нарадзілася дачка - Дзінара Мазітава. Сёлета спаўняецца 35 гадоў сумеснага жыцця пары Мазітавых. Сям'я Мазітавых шмат часу аддавала выхаванню дачкі, яе развіццю, навучанню. Усё гэта патрабавала шмат фінансавых выдаткаў і вялікай колькасці працы і часу для развіцця, навучання і станаўлення асобы маладога кампазітара і выканаўца. Муж заўсёды дапамагае Святлане Апанасаўне і дачцы па жыцці, гэта іх асноўная апора. Ён - і крытык, і суддзя, і падказчык, і першым чынам сябар. Ён мае вельмі тонкі музычны густ, гэта асноўны крытык усіх музычных твораў. Ён - асноўны памагаты: і тата, і муж, і кіроўца, і стваральнік відэапрэзентацый, ён - і фатограф, займаецца дасылкай рознай дакументацыі і суправаджае на канцэртах і выступленнях дачку і жонку. Заўсёды апора сям'і і яе аснова. Ён майстар на ўсе рукі. Умее рабіць усё - і паправіць кампутар, і машыну, разбіраецца ў электроніцы, выдатна шые, усё ў яго выдатна атрымліваецца. Рым Мазітаў вельмі творчы і чулы чалавек. Вельмі добры, мае шмат сяброў, выдатны сем'янін, адданы і клапатлівы муж і бацька. Святлана Апанасаўна ўдзячная мужу, што ён адрамантаваў і даглялае хату яе дзядулі - Касарэўскага Антона ў аграгарадку Ганчары - з любоўю даглядае вялікі сад, які яе дзед пасадзіў адразу пасля вайны. Гэтаму саду і хаце па 75 гадоў. Гэта ўпадабанае месца адпачынку сям'і Мазітавых.



Пасля дэкрэту Святлана Апанасаўна пайшла працаваць выкладчыкам Лідскага педагагічнага вучылішча па класе фартэпіяна.

У вучылішчы працавала з 1985 года. За перыяд працы ў педагагічным вучылішчы (затым каледжы) працавала выкладчыкам індывідуальных заняткаў па фартэпіяне, выкладала методыку музычнага выхавання, была кіраўніком практыкі, акампанавала вакальнай групе, хору, вакалістам. Рыхтавала навучэнцаў на конкурсы прафесійнага майстэрства (візітоўкі і творчы конкурс), якія заўсёды станавіліся лаўрэатамі, пераможцамі і дыпламантамі рэспубліканскіх конкурсаў у Гародні, Барысаве, Нясвіжы, Менску. Гэта праца ёй таксама вельмі падабалася. Усё гэта было звязана з творчасцю. Тут нельга было выконваць гатовыя творы па нотах, а трэба было ствараць цікавыя музычныя кампазіцыі, складаць, інтэрпрэтаваць. Усё гэта патрабавала творчага падыходу і самааддачы. Гэта яе захоплівала і натхняла.

Увесь час Святлана Апанасаўна рыхтавала нумары мастацкай самадзейнасці на рэспубліканскія, абласныя і раённыя конкурсы.

З'яўлялася 12 гадоў чальцом прафкама педагагічнага вучылішча і каледжа, старшынёй культмасавой камісіі. Абіралася неаднаразова чальцом атэстацыйнай камісіі.

Вельмі любіць свой выкладаны прадмет - індывідуальныя заняткі па музыцы (фартэпіяна). Для навучэнцаў, заўсёды імкнулася зрабіць навучальны працэс цікавым і больш насычаным. Маючы ў класе шмат навучэнцаў з музычнай адукацыяй Святлана Апанасаўна заўсёды імкнулася павялічыць іх адукацыйны і культурны ўзровень, рыхтавала і праводзіла адкрытыя мерапрыемствы з навучэнцамі свайго класа. Праводзіла адкрытыя канцэрты свайго класа, навучэнцаў фартэпіяна для каледжа: "Як мы граем Шапэна!!! ", "Творы для дзяцей П. І. Чайкоўскага ў нашым класе фартэпіяна". Да 20-годдзя каледжа падрыхтавала і правяла адкрытае мерапрыемства "Музыка маладых для маладых", дзе навучэнцы Святланы Апанасаўны выконвалі творы юнага кампазітара Дзінары Мазітавай.

У 2005 годзе Святлана Апанасаўна стварыла ў Лідскім педагагічным каледжы сваё творчае аб'яднанне "Складаем і спяваем", дзе навучэнцы складалі вершы і музыку. Свае творчыя сачыненні яны прадставілі на адкрытым мерапрыемстве "Як добра і прыемна проста жыць, калі жыццё не перакрэслена вайною". Публіка з захапленнем сустрэла творчыя сачыненні выхаванцаў, і гэта дало імпульс да далейшага творчага развіцця будучага калектыва.

З моманту зліцця двух лідскіх каледжаў у Лідскі каледж УА ГрДУ ім. Я. Купалы Святлана Апанасаўна - выкладчык індывідуальных заняткаў па фартэпіяне, кіраўнік калектыва аўтарскай песні творчай музычнай майстэрні "Родник", з 2011 г. па 2014 г. старшыня ЦК музыкі і спеваў.

Працуючы ў каледжы, шмат часу аддавала метадычнай працы. Займалася даследчай працай.

У каледжы абагульнены досвед працы С.А. Мазітавай у даследчай працы па тэме: "Вывучэнне творчасці маладога беларускага кампазітара Дзінары Мазітавай і ўкараненне яе ў педагагічную дзейнасць каледжа, агульнаадукацыйных школ".

Выдадзены артыкул Святланы Апанасаўны Мазітавай у рэспубліканскім часопісе "Музычнае і тэатральнае мастацтва: праблемы выкладння" ("Музыка для дзяцей") у 2006 г.

Па тэме: "Шляхі музычнага развіцця малодшых школьнікаў" выступала на ІІ Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Падрыхтоўка настаўніка пачатковых класаў: праблемы і перспектывы" ў г. Менску 24.11.2011 г.

Надрукавана артыкул у зборніку 2012 г: Матэрыялы ІІ Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Падрыхтоўка настаўніка пачатковых класаў: праблемы і перспектывы", Менск, 24 лістапада 2011 г. Назва дакладу: "Шляхі музычнага развіцця малодшых школьнікаў".

Працуючы ў каледжы, Святлана Апанасаўна заўсёды ўшчыльную займалася развіццём, выхаваннем і навучаннем дачкі, якая з ранніх гадоў займалася творчасцю і канцэртнай дзейнасцю. Заўсёды суправаджала яе на конкурсах і канцэртах. У сувязі з гэтым павышала свой прафесійны ўзровень. Гэта конкурсы і канцэрты ў Расіі - Маскве "Новыя імёны", Санкт-Пецярбургу - конкурсы кампазітараў, Польшчы - Міжнародныя конкурсы сучаснай музыкі, Італіі - конкурсы сучасных выканаўцаў, канцэрты ў Літве, Беларусі, выканальніцкія і кампазітарскія конкурсы і фэсты ў Менску, у Гародні. Там Святлана Апанасаўна паглыблялася ў новае, творчае, слухала сучасныя сусветныя сачыненні, вывучала новыя падыходы да выкладання музыкі. Гэта пашырала яе далягляд і адкрывала новыя перспектывы да яе далейшай творчай працоўнай дзейнасці. Яна сістэматызавала і падрыхтавала матэрыял пра кампазітара і піяністку Дзінару Мазітаву. Святланай Апанасаўнай сабраны, вывучаны і сістэматызаваны матэрыялы: “Аўтабіяграфія Дзінары Мазітавай”, “Гады вучобы ў Беларусі”, “Творчая дейнасць кампазітара і піяністкі”, “Канцэртная дзейнасць у Лідзе і ў Менску”, “Гады вучобы і творчасці ў Санкт-Пецярбургу”, “Пецярбургскі перыяд творчасці”, “Творчы багаж Дзінары Мазітавай”, “У якіх залах выступала Дзінара Мазітава”. Усё гэта кажа пра вялікую адказнасць, неабходна праўдзіва і пісьменна даць інфармацыю ў СМІ, тэлебачанню, радыёрэдактарам і журналістам. Гэта паглынае масу вольнага часу і сіл. Часта бывала, што трэба прыняць рашэнні, што і як выканаць на нейкім адказным канцэрце, абраць рэпертуар для выканання за мяжой, на канцэрце, у тэле- ці радыёэфіры. Вызначыцца, якую патрэбную інфармацыю падрыхтаваць і даць. Святлана Апанасаўна была неаднаразова вядоўцай на канцэртах за мяжой і ў Беларусі. Яна - складальнік праграм выступленняў Дзінары Мазітавай, распрацоўшчык сцэнараў мерапрыемстваў пра кампазітара. Арганізатар аўтарскіх і выканальніцкіх канцэртаў, папулярызуючы такім чынам творчасць выканаўца і кампазітара Лідчыны. Прадставіць творчасць кампазітара і піяністкі за мяжой, выступаць у філармоніях, на прэстыжных сцэнах, мерапрыемствах міжнароднага ўзроўню - гэта вялікая адказнасць.

З 2012 па 2014 год Святлана Апанасаўна, па просьбе дырэктара, прафесара Багдановіча А.В. стала старшынёй ЦК музыкі і спеваў Лідскага каледжа. Самымі прадуктыўнымі гадамі працы ў каледжы Святлана Апанасаўна лічыць гады працы з найразумнейшым кіраўніком установы, прафесарам Багдановічам А.В. , і нам. дыр. па вых. працы Сямашкам А.М. Здавалася б далёкія іх прафесіі ад музыкі, але менавіта яны па складзе розуму, адукаванасці, прафесіяналізму змаглі ўбачыць і падтрымаць новае, патрэбнае творчае аб'яднанне даць яму росквіт і карысць для ўсяго падрастаючага пакалення, дапамагчы вырасці парасткам творчага "Родника", падтрымаць жыццё творчага маладога калектыва. У гэты перыяд было і правядзенне рэспубліканскага семінара, і ўдзел Святланы Апанасаўны ў Міжнароднай навуковай канферэнцыі. Гэтыя людзі, навукоўцы, наватары, і самі робяць патрэбнае новае, і дапамагаюць творчым выкладчыкам і навучэнцам знаходзіць і выяўляць таленты і ўжываць патрэбныя нестандартныя формы і метады рашэння для таленавітай моладзі!

Больш за 30 гадоў працавала Святлана Апанасаўна выкладчыкам індывідуальных заняткаў па фартэпіяне ў каледжы. Галоўная задача гэтых заняткаў - навучанне навучэнцаў ігры на інструменце і выразнаму спеву, развіццю музычных здольнасцяў. На гэтых уроках ёй прыйшлося сутыкнуцца з неардынарнымі, таленавітымі навучэнцамі. Пасля яна зрабіла выснову, што ў каледжы, хоць і не часта, але сустракаюцца таленавітыя навучэнцы. І з імі неабходна займацца асобна, па вызначанай праграме. Творчы чалавек вельмі мучыцца, калі яго творы пыляцца на паліцах, ім трэба даваць жыццё. Святлана Апанасаўна вырашыла, гэты від дзейнасці неабходна вынесці за рамкі ўроку. Так і нарадзілася ў яе ідэя стварэння ў той час у педагагічным каледжы творчага аб'яднання, першапачаткова яно звалася "Складаем і спяваем", дзе яна магла з удзельнікамі займацца творчасцю. Досвед працы з адоранымі навучэнцамі ў яе быў. Больш за дзесяць гадоў яна займалася даследчай працай "Вывучэнне творчасці маладога беларускага кампазітара Дзінары Мазітавай і ўкараненне яго ў педагагічную дзейнасць каледжа, пачатковай школы і дзіцячага саду".

Пасля абагульнення педагагічнага досведу яна



вырашыла правесці эксперымент і паспрабаваць займацца складаннем музыкі з навучэнцамі без музычнай адукацыі, чые прафесіі зусім не звязаныя з музыкай. Тым больш што на той момант педагагічны каледж аб'ядналі з тэхнічным каледжам, і яна пачала займацца творчасцю з зусім далёкімі ад музыкі і творчасці навучэнцамі.

Працуючы ў каледжы, неабходна было падаваць нумары мастацкай самадзейнасці для рэспубліканскіх, абласных і раённых конкурсаў, канцэртаў. Заўсёды журы па-трабавалі новы рэпертуар. А дзе яго браць? Вось Святлана Апанасаўна і прыйшла да высновы, неабходна складаць песні самім. Гэта і паслужыла стварэнню новага творчага аб'яднання - "Творчая музычная майстэрня "Родник"".

У любой навучальнай установе ёсць калектывы эстрадных спеваў, танцавальныя, інструментальныя і г.д. , але такога аб'яднанне па стварэнні складзеных песень няма - гэта новае рашэнне. З чым звязана з'яўленне новага калектыва?

У навучэнцаў каледжа важна развіваць пачуццё новага, іх ініцыятыву і творчую актыўнасць. У сувязі з гэтым неабходны новыя формы працы, арыентаваныя на пошук, падтрымку і развіццё таленавітых і адораных навучэнцаў. Для дасягнення пастаўленай мэты Святлана Апанасаўна і прапанавала новую форму заняткаў у каледжы - творчую музычную майстэрню "Родник". Першапачаткова яна стварыла палажэнне пра творчую музычную майстэрню "Родник", вызначыўшы мэты і задачы аб'яднання. Заняткі ў майстэрні накіраваны на развіццё творчых здольнасцяў, на фармаванне гарманічнай, markрознабакова развітай асобы.

Актуальным стала пасля неабходнасць шукаць новыя шляхі выхаду творчасці. Даваць жыццё новаму твору - песні. Як вядома з досведу працы выкладчыкаў - далёка не заўсёды новае адразу прабівае сабе дарогу. Досвед працы не раз паказваў, з якой масай цяжкасцяў даводзіцца сутыкацца, пакуль твор убачыць свет. Адмыслова гэтым тэмам падчас працы Святлана Апанасаўна надавала пільную ўвагу: "Цяжкасці ў працы з адоранымі навучэнцамі", " Асаблівасці працы з таленавітымі навучэнцамі ў каледжы", "Нашы дасягненні", распрацоўкі васьмі адкрытых мерапрыемстваў калектыва. Папярэдне вывучыўшы ўсе матэрыялы па працы з таленавітымі, адоранымі дзець-мі, азнаёміўшыся з псіхалогіяй адоранасці, маючы абагульнены досвед працы з Дзінарай Мазітавай, Святлана Апанасаўна павяла навучэнцаў за сабой ствараючы новае, творчае.

Маючы вялікі дзейсны досвед працы па развіццці творчасці, сачыненні, працы з таленавітым дзіцем, навучэнцамі Святлана Апанасаўна апісала свой досвед працы з творчымі навучэнцамі ў калектыве ў працы па тэме: "Развіццё творчага патэнцыялу навучэнцаў каледжа праз складальніцкую песенную творчасць" . Падрыхтавала інфармацыйна-метадычныя і аналітычныя матэрыялы з досведу працы выкладчыка.

На прыкладзе працы з таленавітымі ўдзельнікамі калектыва яна паказала, як выхоўваць і навучаць таленавітых навучэнцаў. Пазнаёміла з новай формай працы з таленавітымі навучэнцамі ў каледжы - калектывам аўтарскай песні творчай музычнай майстэрні "Родник" і паказала новыя шляхі выхаду педагагічнага досведу. Правяла па ўсіх этапах працы з удзельнікамі калектыва аўтарскай песні, апісала, як выхоўваць і навучаць таленавітых навучэнцаў праз складанне музыкі. Праз знаёмства з дасягненнямі новай формы працы з таленавітымі навучэнцамі ў каледжы - калектывам аўтарскай песні - творчай музычнай майстэрні "Родник " паказала эфектыўнасць новай формы працы з навучэнцамі, эфектыўнасць удзелу ў розных конкурсах і фэстах. Удзел у канцэртнай дзейнасці калектыва - заклад поспеху працы з навучэнцамі. Паказала новыя шляхі выхаду педагагічнага досведу выкладчыка (радыёэфір, тэлепраграмы, прэса, газетныя публікацыі); УКантакце; ЮТУБ. Паказала як пасродкам працы з таленавітымі навучэнцамі развіваецца творчы патэнцыял навучэнцаў каледжа.

З аўтарскімі песнямі навучэнцаў “Родник” пачаў выступаць на фэстах і конкурсах. У скарбонцы калектыва 42 дыпломы і граматы рэспубліканскага, абласнога і раённага ўзроўняў.

***Святлана Лісі.***

**Да 100-годдзя БНР**

***Леанід Лаўрэш***

# Кастусь Езавітаў і Кіпрыян Кандратовіч: крэскі да біяграфій

Як вядома, Ян Пазьняк - рэдактар газеты "Крыніца" і адзін з лідараў хрысціянскіх дэмакратаў Заходняй Беларусі ў 1930-я гг. жыў у Вільні па адрасе: вуліца Завальная, 1. У гэтым доме, практычна знаходзіўся цэнтр Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (перад гэтым такі цэнтр хадэкаў месціўся па вуліцы Людвісарскай, 9, дзе знаходзілася рэдакцыя "Крыніцы", друкарня і таксама жыў Пазьняк).

У вялікай зале дома па вуліцы Завальнай, 1 каля сцен стаялі прыгожа зробленыя з дошак тапчаны. На іх падчас розных імпрэзаў, канцэртаў і сходаў сядзелі людзі, а вечарам, прыходзілі бедныя беларускія студэнты, якія не мелі дзе жыць, даставалі з гэтых тапчаноў свае пасцелі, раскладалі іх і там спалі.

Антон Шукелойць, які сам падчас свайго студэнцтва ў Вільні нейкі час жыў у Яна Пазьняка, узгадваў, што: *"Вечарам заўсёды, пасля таго, як мы, студэнты, ужо вярнуліся ў гэтую залу, Ян Пазьняк заканчваў працу ў рэдакцыйным сваім кабінеце, прыходзіў да нас і любіў расказваць цікавыя анекдоты пра палітычных дзеячаў"* [1].

Ян Пазьняк быў сябрам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і займаў кіруючае становішча ў гэтай партыі, таму ягоныя анекдоты тычыліся пераважна розных дзеячаў сацыялістычнага кірунку. Антон Шукелойць успамінае адзін з такіх анекдотаў пра тое, як *"выдатнага нашага дзеяча, ведамага Канстанціна Езавітава, за адну ноч сацыялістычны ўрад у Менску паднёс з паручніка да палкоўніка"*.

Шукелойць распавёў: *"Як ведама, Езавітаў прыняў актыўны ўдзел у стварэнні Рады БНР, быў заслужаным афіцэрам. Вельмі прыгожы ягоны нарыс ёсць, як ён выгнаў бальшавікоў з Менска ў 1918 годзе. Ну і паколькі такі высоказаслужаны чалавек, то вось гэты першы ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі вырашыў яго падняць да генерала. Ноч цэлую сядзелі, згодна з вымогамі ваеннага Статуту, заўсёды падымалі яго на адзін чын вышэй, тады казалі тост і выпівалі. (Як ведама, сацыялісты, асабліва эсэры, любілі выпіць.) Так вялі яго паступова: штабс-капітан, капітан, маёр, падпалкоўнік, палкоўнік. Ужо пачало світаць. Давялі яго да палкоўніка, выпілі. Гарэлкі болей не было - скончылася, і Езавітаў застаўся палкоўнікам. Генералам ужо яго не маглі менаваць: не хапіла гарэлкі. І сонца ўзышло, развіднела"* [2].

Прызнацца, я ў свой добра пасмяяўся з гэтага анекдота, і таму ён адклаўся ў памяці. І раптам, нават з нейкім здзіўленнем, прачытаў у аўтабіяграфіі Езавітава, напісаннай у 1944 г. (таму Ян Пазьняк не мог карыстацца гэтым тэкстам як крыніцай для анекдота) наступныя радкі:

*"21.02.1918 г. пастановаю Народнага Сакратарыяту Беларусі зацьверджана падвышэньне ў штабс-капітаны, згодна прадстаўленьня ад 25.10.1917 г.*

*За выслугу чарговых чатырох месяцаў у абставінах бязупыннага змаганьня з бальшавікамі пастановаю Народнага Сакратарыяту Беларусі ад 21.02.1918 г. узьведзены ў чын капітана.*

*За падрыхтоўку арганізацыі беларускіх вайсковых фармаваньняў усіх франтоў і за кіраваньне Аддзелам Фармаваньняў Беларускай Вайсковай Цэнтральнай рады пастановай Народнага Сакратарыяту Беларусі ад 21.02.1918 г. узьведзены ў чын падпалкоўніка.*

*За арганізацыю захопу ўлады ў Менску і ўмелае кіраваньне беларускай камэндатурай пастановай Народнага Сакратарыяту Беларусі ад 21.02.1918 г. узьведзены ў чын палкоўніка"* [3].

Такім чынам, з яго аўтабіяграфіі даведваемся, што чын палкоўніка Езавітаў атрымаў 21.02.18 г.

Гістарычны кантэкст лютага 1918 г. наступны: наступленне нямецкіх войск пачалося 16 лютага 1918 г., што прымусіла бальшавікоў ў ноч на 19 лютага збегчы з Менска ў Смаленск. Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда выйшаў з падполля, з турмы былі вызвалены дзеячы Цэнтральнай беларускай вайсковай рады (ЦБВР). Выканкам Рады Усебеларускага з'езда ў сваім загадзе № 1 ад 19 лютага абвясціў, што ён *"узяў уладу ў свае рукі"*, а навядзенне парадку ў Менску, дзе пачала актыўна дзейнічаць Польская ваенная арганізацыя, усклаў на каменданта горада, аднаго з кіраўнікоў ЦБВР К. Езавітава. Таму лагічна, што каменданту Менска мэтазгодна было даць чын палкоўніка і, дарэчы, чын генерала Езавітаў яшчэ атрымае потым.

Цікава, што, Ян Пазьняк быў абсалютна дакладны нават ў дэталях, апісваючы падвышэнне Езавітава. Але ці ў той дзень (ці ноч 21.02.1918 г.) падчас "кар'ернага ўзлёту" паручніка Езавітава прысутнічала гарэлка, мы ўжо ніколі не даведаемся.

21 лютага 1918 г. - вельмі важны дзень у гісторыі беларускага народа. Менавіта ў гэты дзень была прынята 1-я Устаўная грамата да народаў Беларусі, у якой адзначалася: *"Радзімая старонка наша апынулася ў новым цяжкім становішчы... Мы стаім перад тым, што край наш можа быць заняты нямецкімі*

[1] Пазняк Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. Варшава, 2003. С. 20-21.

[2] Там жа. С. 21.

[3] Езавітаў Канстанцін. Кароткі жыццяпіс і праходжаньне службы // Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1999. С. 188.

*войскамі. Вы павінны ўзяць сваю долю ў свае ўласныя рукі"*. Першая Устаўная грамата заклікала беларускі народ здзейсніць свае права на *"поўнае самавызначэнне"*. У гэтым дакуменце Выканкам абвясціў пра стварэнне 20 лютага ўраду (часовага выканаўчага органа народнай улады ў краі) - Народнага Сакратарыяту Беларусі (старшыня Я. Варонка), які менавіта 21 лютага 1918 г. пачаў выкананне сваіх абавязкаў. Дарэчы ва ўрадзе Варонкі пасаду ўпаўнаважанага па вайсковых справах заняў К.Б. Езавітаў[4].

Ці насамрэч выпілі ў гэтым векапомны дзень "Айцы БНР"?

Невядома, але трэба ўлічваць, што значная частка - маладыя баявыя афіцэры. І ўсе народныя сакратары былі вельмі маладыя, сярэдні ўзрост ураду - 29 гадоў. Упаўнаважанаму па вайсковых справах Езавітаву - 24 гады, старшыні Народнага Сакратарыяту Беларусі (і адначасова народнаму сакратару міжнародных справаў) Язэпу Варонку - 26 гадоў[5]. Таму, думаю, усё магчыма.



*Кастусь Езавітаў*



*Кіпрыян Кандратовіч*

Яшчэ, у "Кароткім жыцьцяпісе ..." Езавітава, мяне зацікавілі наступныя радкі:

*"Пераведзены на становішча начальніка Плянтава-Шчучынскага павету 10.01. 1919 г.*

*Па даручэньню вайсковых уладаў разам з двума веставымі накіраваўся конна ў глыбокую вайсковую разьведку ў тыл бальшавіцкага фронту праз Васілішкі й Радунь пад Ліду 20.02.1919 г.*

*Прыбыў з разьведкі з ваеннымі весткамі 25.02.1919 г.*

*Загадам ураду БНР за разьведку й за дастаўленьне з маёнтку генэрала-ад-інфантэрыі Кандратовіча ягоных ордэнаў узнагароджаны белым эмалева-залатым афіцэрскім Крыжам Пагоні 4-ае ступені 1.03.1919 г."* [6]

"Архівы БНР" змяшчаюць "Загад па Плянты-Шчучынскім павеце камісара павета Кастуся Езавітава (Астрына, 06.02.1919 г.)", у якім ён паведамляе насельніцтва павета, што прыступае да выканання сваіх абавязкаў і пачынае фармаванне беларускай міліцыі[7]. Нагадаю, што 10 студзеня 1919 г. бальшавікі занялі г. Ліду і выставілі заставы на гарадзенскім і беластоцкім кірунку. Далей яны не пайшлі - у лютым чырвоным войскам было загадана ўмацавацца на рубяжы Араны - Ліда - Слонім - р. Шчара - канал Агінскага - Пінск - Сарны. Вясной 1919 г. палякі пачалі паспяховы наступ на ўсход.

Зразумела, чаму Езавітаў прывёз генералу Кандратовічу ягоныя ўзнагароды. У той час генерал за свае грошы збіраўся ў Парыж адстойваць беларускую дзяржаўнасць на Версальскай канферэнцыі. І сярод іншых шматлікіх узнагарод (ён быў узнагароджаны практычна ўсімі вышэйшымі ордэнамі імперыі) меў і найвышэйшую ўзнагароду Францыі - Ордэн Ганаровага легіёна, што было вельмі істотна пры перамовах з французамі.

З радкоў Езавітава можна зрабіць выснову, што паміж Кандратовічам і Езавітавым у 1919 г. захоўваліся добрыя дачыненні нават пасля адстаўкі генерала на пачатку 1918 г. з Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады. Адстаўка гэтая адбылася пры актыўным удзеле паручніка Езавітава. Ён потым пісаў: *"У віну ген. Кандратовічу, безмоўна, трэба палічыць тое, што ён не зразумеў усей вялікай адпаведнасьці моманту і ня змог перажаргнуць праз вайсковую традыцыю, патрабуючую ад падпарадкаванага безмоўнай паслухмянасьці распараджэньню старшага, і не даказаў, з належным у гэтым выпадку ўпорствам і націскам, усю неадкладную патрэбнасьць зараз-жа, не трацячы ніводнай хвіліны часу, разьвязаць беларускую вайсковую справу ў поўным маштабе і хутка аддаць патрэбныя срочныя загады"* [8].

Генерал Кандратовіч быў чалавекам старой школы, трымаўся прысягі і чакаў распараджэнняў ад законнага вышэйшага кіраўніцтва. Пазіцыя старога ваякі складалася ў тым, што патрэбна палітычнае рашэнне, пасля якога прафесійныя вайскоўцы выканаюць свой абавязак. Але Часовага ўрада, які дазволіў стварэнне беларускага войска, ужо не было, а да прыняцця палітычнай дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі заставалася яшчэ тры месяцы, па мерках рэвалюцыйнага часу - цэлая эпоха. Не з'яўляючыся палітыкам,

[4] Архівы БНР. Т. 1. Кн. 1. Вільня-Менск-Нью-Ёрк-Прага, 1998. С. 46-48.
[5] Шупа Сяргей. Падарожжа ў БНР. 2018. С. 41.
[6] Там жа. С. 189.
[7] Архівы БНР, I, 1. С. 328.
[8] Езавітаў К. Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада // Крывіч. 1924. № 1 (7). С. 41.

як, напрыклад, Пілсудскі, фармаваць войска, якое будзе служыць невядома каму, генерал не мог.

Пасля адстаўкі Кандратовіч не адышоў ад беларускіх спраў і ў канцы лютага 1918 г. прапанаваў свае паслугі Беларускаму выканаўчаму камітэту. Макар Краўцоў успамінаў: *"Нішто іншае, як, мусіць, пачуццё ўсё-ж такі беларускасці прывяло на пасяджэнне Выканаўчага Камітэту ў быўшы Губэрн. Дом дашчэнту зрусыфікаванага генерала ад інфантэрыі Кандратовіча. Раней ён быў у Вайсковай Беларускай Радзе, але стуль яго выключылі, здаецца, за "буржуазнасць""*[9]. Як бачым, Краўцоў кажа менавіта пра "буржуазнасць" як прычыну адстаўкі генерала з пасады ў ЦБВР, што не стасуецца з закідамі Езавітава. Таксама вельмі цікавай з'яўляеца заўвага пра *"пачуццё... беларускасці"* ў генерала, гэта шмат што тлумачыць.

Але, пасля адстаўкі генерала ў 1918 г. прайшоў амаль што год. Кандратовіч і Езавітаў увесь гэты год актыўна займаліся беларускімі справамі, а год падчас рэвалюцыі можна раўнаваць да дзесяці звычайных.

Як аўтар кнігі пра генерала Кандратовіча, магу толькі паспачуваць самому сябе, што знайшоў гэтыя факты ўжо, калі кніга пра генерала была надрукаваная.

**Дадаткі**

**Першая Устаўная грамата**

**УСТАЎНАЯ ГРАМАТА**
**Да народаў Беларусі**

Радзімая старонка наша апынулася ў новым цяжкім палажэнні. Дзе цяпер уласьць, што тут была, німа ведама. Мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкім войскам.

Мы павінны ўзяць сваю долю ў свае ўласныя рукі.

Беларускі народ павінен зьдзейсьніць свае права на поўнае самавызначэнне, а нацыянальныя меньшасьці на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію.

Права нацыяў павінно знайсьці свае зьдзейсьненне шляхам склікання на дэмакратычных пачатках УСТАНОУЧАГО СОЙМУ.

Але і да склікання Сойму ўся улада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ей жывуць.

ВЫКАНАУЧЫ КАМІТЭТ РАДЫ ПЕРШАГО УСЕБЕЛАРУСКАГО ЗЬЕЗДУ, даданы прэдстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меньшасьцяў, зьдзейсьняючы задання Зьезду, абвяшчае сябе тымчасоваю Уладаю на Беларусі, падходзячаю да кіравання краям і да найхутчэйшага склікання УСЕБЕЛАРУСКАГО УСТАНОУЧАГО СОЙМУ, на аснові агульнаго, простаго, роўнаго, таемнаго і прапарцыянальнага выбарнаго права, дзеля ўсяго дарослаго насялення, ні рахуючы з нацыянальнасьцю, рэлігіяй і полам.

Тымчасовую народную ўладу краю, якая паставіць сабе задання абароны і зацьвярджэння здабыткаў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьняць створаны намі НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ БЕЛАРУСІ, які з гэтаго дня пачаў выпоўняць свае абавязкі. Асабісты склад Сэкрэтарыяту будзе апублікованы потым.

Дана ў МІНСКУ-БЕЛАРУСКІМ 21 Лютаго 1918 року.

Выканаўчы Камітэт Рады 1-го Усебеларускаго Зьезду.

**Загад па Плянты-Шчучынскім павеце камісара павета Кастуся Езавітава (Астрына, 6.02.1919)**[10]

**ПРЫКАЗ**
**Па Плянты-Шчучынскаму павету.**

**§ 1.**

Гэтым паведамляю, што згодна з распараджэньнем Міністра Унутрэнніх Спраў і Міністра Беларускіх Спраў Літоўскага Гаспадарства, я, 6-го гэтаго лютаго, приступіў да спаўненьня абавязкаў Камісара Плянты-Шчучынскага павету.

Канцэлярыя Павятовага Упраўленьня будзе знаходзіцца, па маему распараджэнью, у мястэчку Астрына, куды і належыць звертацца.

**§ 2.**

Нямецкія войскі на обшары павету застаюцца як ваенная сіла для ахраны парадку і граніц. Грамадзянскае Упраўленьне прыймаецца з рук немцаў і пераходзіць да мяне.

**§ 3.**

Для парадку і абезпэчэньня жыхароў ад грабежоў і гвалту мною ствараецца Павятовая Міліцыя.

Начальнікам міліцыі, з 8-го гэтаго Лютаго, назначаю Грамадзяніна ДРАМОВІЧА.

Начальніку міліцыі прыказываю зараз-жэ приступіць да запісі кандыдатаў у міліцыю.

Прыймацца могуць асобы не меньш як 22 гадоў і па рэкамэндацыі Валасных Камітэтаў.

У помач Начальніку міліцыі назначаю Начальніка I-го ўчастка міліцыі Плянтоўскага павету, з того ж тэрміна, Грамадзяніна ЖУКОЎСКАГО.

Адзнакі для міліцыанероў будуць гэтакія:

1). Павязка на левам рукаве з трох коляроў - белай, чырвонай і белай;

2). З такіх же коляроў круглая кокарда на шапках;

3). Нацыанальны гэрб - Пагоня на шапцы пад какардой.

**§ 4.**

Сэкрэтаром Павятовага пры мне Упраўленьня назначаю, з 6-го гэтаго Лютаго, Грамадзяніна ЛЬВА КАШЧЭНЕЎСКАГО.

Камісар Плянты-Шчучынскага павету

К. Езавітаў.

[9] Краўцоў Макар. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі // Спадчына. 1998. № 1. С. 92.

[10] Архівы БНР, I, 1. С. 328.

*Алесь Хітрун*

# Заполле: экскурс з мінулага ў сучаснае

***або Аб тым, чый след тут пакінуты ў гісторыі Беларусі і далёка за яе межамі***
***(Да 215 годдзя з дня нараджэння Ігната Дамейкі)***

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Заполле перайшло да дачкі Антона Андрэевіча Квяткоўскага і Людвікі Казіміраўны Квяткоўскай з роду Хршчановіч Гелены.

Як згадваюць жыхары, у Заполлі яна паставіла двухпавярховы дом, мела немалую бібліятэку, куды прыязджалі наведвальнікі нават здалёк. Сама пані па характары была добрай, дапамагала сялянам. А замуж выйшла за багатага памешчыка Казіміра Шалевіча, які хварэў, ратуючыся ад хваробы, ездзіў у Францыю, але і там не вылечыўся. Памёр ён 8 лістапада 1914 года, пахаваны на могілках у Рапейках. Аўдавелая пані засталася адна, маёнтак Заполле здала ў арэнду немцу Бэрхману. Мела яна таксама шасціпакаёвы дом у Заполлі, але адзін з пакояў передала для навучання сялянскіх дзяцей. Вучыла іх яе гувернантка - немка. На Лідчыне Г. Шалевіч жыла да 1939 года. Памерла ў пажылым узросце (больш за 80 год).

Аднак жа існаваў на гэтым месцы дом, дзе, мяркуецца, жыў слынны вучоны Ігнат Дамейка. Над гэтым пытаннем працавалі і працуюць лідскія даследчыкі гістарычнага мінулага. Яшчэ ў часопісе "Лідскі летапісец" і ў газеце "Наша слова" быў змешчаны матэрыял "Расчыстка сядзібы Ігната Дамейкі ў Заполлі" (№ 3 (35), 2006 год), у якім пазначалася, хто прыняў удзел у расчыстцы фундамента, а старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Валеры Сліўкін нават зрабіў замеры, якія дапамаглі ўявіць той гістарычны дом. Стала вядома, што дом меў памер 15, 4 х 28, 4 м. Прыйшлі да думкі, што пасля 1831 года будынак дабудоўваўся ці перабудоўваўся і, магчыма, не адзін раз. Было вызначана і тое, што пры апошніх больш значных работах будаўнікі выкарыстоўвалі цэмент і сілікатныя ваўкавысцкія блокі, выраб якіх ажыццяўляўся ў міжваеннай Польшчы.

**Што паведаміш нам, сведка?**

Як стала вядома, непадалёку ад былой панскай сядзібы Заполля жыве доўгажыхар. Хто, як не ён, можа раставіць кропкі над "і"? Алея, якая засаджана векавымі ліпамі, адразу прыводзіць мяне да драўлянага пафарбаванага дома, ваколле якога прыгожа апанавала кветкавая зеляніна. Злосны брэх сабакі прымушае гаспадара выйсці з хаты. Вітаемся, знаёмімся. Зразумеўшы задачу майго прыезду, па-бацькоўску запрашае на падворак. Усаджваемся на лаву.

Ён - Круглы Франц Адамавіч. Нарадзіўся 10 лістапада 1929 года, тут, у маёнтку Заполле. А вось школу (4 польскамоўныя класы) закончыў у вёсцы



***Круглы Франц Адамавіч. 2016 г.***

Заполле, будынак якой размяшчаўся ў хаце сям'і Хабуноў. Бацька Адам Сцяпанавіч працаваў брыгадзірам у калгасе, а маці - Чайко Ганна - даяркай. У іх сям'і было 9 дзяцей: Вацюк, Ядзя, Яська, Чэська, Стась, Броня, Франак, Уладак, Эдзік.

- Усім хапала працы, - кажа суразмоўца. - Мы, малыя, пасвілі кароў. Тут, непадалёку, калісьці стаялі хлявы, у адным змяшчаўся статак на 80 галоў кароў, у другім - цялятнік, два гумны для захоўвання корму і збожжа. На пастаяннай рабоце заўсёды было 6 парабкаў, якіх трымаў пан Бэрхман.



***Круглы Франц Адамавіч, у маладосці***

- А што вам вядома пра будаўніцтва панскага палаца? - задаю агульнае пытанне.

- Гэта вельмі доўгая гісторыя. У той час, як




*Фрагмент карты 1926 года (маёнтак Заполле)*

будавалі палац, то ў Шайбаках, вядома, не было цаглянага завода. (Ёсць звесткі, што ў 1902 годзе завод ужо існаваў - *А.Х.*). Але ясна, што абпякалі цэглу ў печах. Я ведаю, што за Бароўкай існаваў іншы завод, ці як называлі, смалярня. Там выпальвалі карчы, а з іх атрымлівалі дрывяны вугаль. На гэтай смалярні працавалі вясковыя мужчыны і добра зараблялі. А сам вугаль прадавалі, вазілі за мяжу.




*Фрагмент карты (маёнтак Шалева)*

Са слоў Франца Адамавіча, Бароўка ўзнікла раней, чым маёнтак у Заполлі. У той час кіравала ёй пані Галена Шалевіч. Агульная колькасць зямлі, якая належыла ёй, складала 520 моргаў. Але не доўга, бо ў 1924 годзе афіцэры і салдаты 77-га пяхотнага палка выкупілі Бароўку з прылеглым лесам і падаравалі гэтыя землі генералу Эдварду Рыдз-Смігламу.

Як ім удалося, суразмоўца не ведае, але яму ўсё ж вядома, што суддзём у Кашарах (Казармах) быў пан Шаноўскі (гэта сваяк Шалевіч). А Рыдз-Смігла час ад часу прыязджаў у Бароўку і ў летні час адпачываў і выкарыстоўваў як лецішча разам з цесцем і цешчай. У той час рос там вялікі сад. Цяпер на тых землях таксама размяшчаюцца дачы, але сучасныя. Гэтае месца ўжо больш называюць як Гаёўка.



***Генерал Эдвард Рыдз-Сміглы***

Дарэчы, пад час размовы стала вядома, што Гаёўка некалі лічылася запольскай вёскай. Але ж перад вайной яе разагналі і апынулася яна на хутарах. Рапейкі - таксама раскіданая вёска. Усе гэтыя землі, пачынаючы ад Бароўкі ў накірунку да Заполля, раней лічыліся запольскімі.

- Казалі, што раней, яшчэ да будаўніцтва панскага палаца, была іншая пабудова. Яе называлі афіцыня,- далей працягвае Франц Круглы. У той час гэтымі землямі валадарыў нейкі малады, яшчэ халасцяк, пан. У кожную суботу ён збіраў у гэтым будынку вяскоўцаў, якія сыходзіліся з вялікіх вёсак - Хрулёў і Рапеек. Тут народ весяліўся, танцаваў. А пан у гэты час заляцаўся да маладых прыгажунь. Але ж аднойчы гэтую афіцыню нехта падпаліў. Дарэчы, яна была большых памераў за будучы панскі палац. А будаваўся ён яшчэ гадоў за трыццаць да майго нараджэння, у канцы XIX стагоддзя. Як мне казалі бацькі, гэты палац вырас дзякуючы запольскім мужчынам па прозвішчах Кулеш, Касы, Ляўшук. Будоўля ішла пад кіраўніцтвам пані Шалевіч-Квяткоўскай (якая і жыла затым у гэтым



***Тут калісьці і размяшчалася афіцыня, 2016 г.***



***Здымак падземнага падвала паненкі Шалевіч ля хаты Круглага Ф.А. 2016 г.***

доме). Дык якая гэта была праца! Ставілі палац сапраўдныя майстры! Сядзіба была двухпавярховай. З другога паверха, дзе былі два вялікія пакоі, на ніз вяла лесвіца. Вельмі шмат збіралася ў сценах палаца заможных людзей. Нехта казаў, што і сваякі Дамейкі наведваліся. Бо яшчэ раней, менавіта на гэтым месцы, стаяў другі дом - у ім жыў Ігнацый Дамейка. Дарэчы, у свой час у нас называлі таго вучонага Данейкам, нават і мой тата так казаў.

А што тычыцца ранейшай афіцыні, то захаваліся ўспаміны і ў Валерыя Сліўкіна. Вось што ён распавядае на гэты конт:

- Калісьці Феліцыя Феліксаўна Круглая ўпэўнівала, што дом, дзе жыў Ігнацый Дамейка, не захаваўся: *"Пасля таго, як Дамейка пакінуў маёнтак, яго арандаваў нейкі пан-халасцяк. Дом Дамейкі стаяў трохі ўбаку ад цяперашніх развалін. Потым ён згарэў, а новы дом ставілі Квяткоўскія (зараз ад яго застаўся фундамент). У пана-халасцяка было шмат работнікаў (усе былі нежанатыя). Былі яны дужыя, рослыя, нават, прыгожыя. Калі наладжвалі танцы, то на ўсю акругу чуваць была музыка. А сам пан любіў дзяўчат мясцовых запрашаць на гэтыя танцы. Выбіраў сабе найбаявейшую. Гэты дом спалілі пры пане-халасцяку. Яшчэ як былі дзецьмі, то капаліся на развалінах гэтага дома, знаходзілі чарапкі ад панскіх люстраў".*

**Ёй у спадчыну Заполле засталося**

Акрамя заможных прадстаўнікоў Шалевіч збірала на набажэнствы, звычайна ў траўні месяцы, у свае пакоі і вяскоўцаў. Усім хапала месца. А хто не з'яўляўся ў той дзень, то потым прылюдна перад усімі яна яго сароміла. Пані сама чытала малітвы. Увесь гэты "працэс" цягнуўся гадзіну-паўтары. На развітванні, кожны цалаваў яе руку. На рост была высокая, па складу - хударлявая. Мела сабак, з якімі хадзіла па алеі.

А ля палаца знаходзіўся пастаянны вартаўнік, які ў выпадку чаго падаваў гук са свістка. Паненка толькі апоўначы клалася спаць: пастаянна чытала кнігі. Бібліятэка ў яе была вельмі вялікая. Магчыма, яшчэ некаторыя кнігі мела і ад Дамейкі.

- А вось гэты высокі падземны падвальчык, што за плотам, застаўся яшчэ ад самой пані Шалевіч, - знаёміць мяне з гістарычнай пабудовай спадар Круглы. - Ён глыбокі, увесь ацэментаваны, калісьці на самы яго верх вялі сходы. Па іх падымалася паненка і доўгі час, на версе сядзела, пільнавала сад. Кожны год ён даваў плады. Быў агароджаны абразной дошкай вышынёй у чатыры метры. Ужо пасля цвіцення яго даглядалі яўрэі, якім яна прадавала садавіну, а яны ўжо ў сваю чаргу, вывозілі за мяжу. Дык іншым разам, гуляючы ля плоту, Шалевіч высоўвала руку (апранутую рукавіцай, але з голымі пальцамі) праз шчыліну з мэтай атрымаць пацалункі.

Даглядаў паненку Лаўрук (Лаўрэнці) Коска з Рапейкаў.

Неяк ён праткнуў пятку нагі калючкай акацыі, і пачалося загнаенне. Хутка вылечыўся, але потым увесь час кульгаў на гэтую нагу. Тады яго ўзяла да сябе Шалевіч. Коска чысціў сцежкі ля хаты, нават карміў, мяняў бялізну нямоглай пані. Яна за старанні, перадала Лаўруку тры гектары зямлі для трох яго сыноў. Дык адна хата за Хрулямі яшчэ стаіць, а другую ўжо разабралі. Былі выпадкі, калі Коска адпрошваўся на адпачынак, то Шалевіч прасіла ў пана Бэрхмана, каб той замяніў яго на майго тату. Тады бацька хадзіў на ноч і вартаваў палац. Што толькі ён не распавядаў нам, як вяртаўся да хаты! Аднойчы ў палацы паненкі прыпы-



***Фурман Коска Лаўрэнці ля панскага палаца, у будучым - Запольскай сярэдняй школы.*** *(Фота з польскага часу, з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*



*Тут стаяў генератар*

ніўся на тыдні два нейкі пан. Як сцямнела, то бацька прылёг на самаробны ляжак пад лесвіцай. Дык у той момант пачуў скрыпы дзвярэй, бразганне па цэментаванай падлозе з канца аднаго калідора ў другі. Бацька думаў, што гэта пан ходзіць, і не звяртаў асаблівай увагі, бо такія гукі чуў неаднаразова. Але ж пан-госць хутка спусціўся сам з другога паверху і запытаў, адкуль гэтая бразгатня ў доме. Бацька і пан былі здзіўленыя, бо кожныя дзверы мелі своеасаблівы скрып, зусім не такі, які пачуў пан. Магчыма, гэта хадзілі нейкія прывіды.

- А вось тут, - адводзіць у бок Ф. Круглы і паказвае мне не зусім кідкае месца, - калісьці і размяшчалася афіцыня, якая збудавана была раней за палац. Пры пажары яна рухнула, і фундамент ад яе апынуўся пад цэглай. Чорнакапальнікі тут знайшлі шмат розных прыгожых люстраў. Дарэчы, калі на месцы палаца была школа, то там, дзе калісьці размяшчалася афіцыня, стаяў генератар, які выпрацоўваў на салярцы электрычнасць.

- З вашых слоў атрымліваецца, што пані Галена Шалевіч жыла адна, была незамужняй?

- Не, муж у яе быў - багаты памешчык Казімір Рудольфавіч Шалевіч. Яшчэ пры ім, здаецца, быў збудаваны дом для эканома маёнтка. Будынак гэты потым выкарыстоўваўся для запольскіх настаўнікаў. Ён і цяпер захаваўся.

Пра мужа Шалевіч шмат што казалі, розныя легенды хадзілі, што ён хварэў, нават у Францыі быў на лячэнні, але так і не вылечыўся; а хтосьці гаварыў, што яго забілі на дуэлі. Памёр ён 8 лістапада 1914 года, а пахаваны непадалёку - на мясцовых, на сёння ўжо старых могілках, што непадалёку ад Заполля, у Рапейках. Быў маёнтак Шалевічыхі і за Лідай (бліжэй пад Гародню), называўся Шалева.

Ён, напэўна, першапачаткова належаў мужу. Але калі сама не змагла кіраваць тым Шалевам, то і перадала землі ў арэнду нейкаму пану. З узнікненнем калектыўнай гаспадаркі ад гэтай мясціны нічога не засталося.

***Каментар.*** Звесткамі пра маёнтак Шалева са мной падзялілася мая родная бабуля Руцкая (Каравайская) Яніна Янаўна, якая калісьці жыла непадалёку, кіламетраў тры ад яго, у вёсцы Каламыцкія.

- Жыў там малады, як цяпер помню, гадоў трыццаці, пан Жылінскі. Я была нанятая да яго: капала бульбу. Мне было ў той час 16 гадоў. Аднойчы, як наведаліся туды белапалякі, то пачалася страляніна. У выніку былі забітыя з гэтага маёнтка ўкраінец і немец. А пан застаўся жывы і пайшоў у польскія партызаны. Больш пра яго нічога невядома. Ведаю толькі, што яшчэ доўгі час стаялі тыя панскія пабудовы. Цяпер бліжэй да былога маёнтка Шалева, каля 1 кіламетра, знаходзяцца вёскі Зенявічы і Мікуты.

**Былі і такія тут паны**

- А ў цэлым, паны-эканомы добра адносіліся да вяскоўцаў? - працягваю гутарку са спадаром Круглым.

- Адкажу так: паны дружылі з немцамі, а тыя за добрыя адносіны іх паважалі, - прызнаецца Франц Адамавіч. - Немец, хоць і жорсткім быў, але ж паважаў працавітых людзей, гаспадароў сваёй зямлі. Напрыклад, як у 1941 годзе прыйшлі немцы, то ў Заполлі з'явіўся пан Шаноўскі. Ён меў тут таксама зямлю, быў гаспадаром. Немцам дастаўляў збожжа і іншае, што выпадала на той час. Куды ўсё ішло, - невядома, магчыма нямецкім салдатам для пражыцця. Сёння, безумоўна, гэта і прыкра гучыць, але ж Шаноўскі спагадліва адносіўся да вяскоўцаў. У час нямецкага рэжыму, пры ім тут быў парадак, нават аб'ездзіў вёскі і загадаў вярнуць усё, што было расцягнута і раскрадзена: каровы, вазы, сельскагаспадарчыя прылады працы, механізмы і іншае. Ведаю аб тым, што Шаноўскі служыў у 77 палку ў Лідзе і быў суддзём, а яшчэ - здаецца, з'яўляўся сваяком Шалевіч Галены. Дык вось, калі з'явілася магчымасць выехаць у Польшчу (выдавалі палякам дакумент на свабодны выезд), то шмат рапейкаўскіх жыхароў пакінулі гэтыя мясціны. Шаноўскі таксама выкарыстаў гэты момант: ён вывез пані Шалевіч. Але ж перад ад'ездам па яе просьбе, ён прынёс ёй торбачку зямлі з мясцовых могілак з мэтай, калі памрэ пані на чужыне, то каб па яе труне пасыпалі роднай зямелькай. У вельмі сталым узросце яна пакінула Заполле.

У тым, што паны былі дбайнымі гаспадарамі, захоўвалі парадак на сваіх землях, а за неахайныя адносіны сялянаў на зямельных угоддзях маглі нават жорстка пакараць, на сваім прыкладзе зведаў сам Франц Круглы:

- Помню, як мяне, дзесяцігадовага хлопца, у 1939 годзе, пасадзілі вярхом на чорнага каня, спераду і ззаду паклалі некалькі пустых мяхоў для збору зерня. І я іх павёз у панскі маёнтак Сукурчы. У той час касілі жыта: ляжалі на палетках пракосы. Я вырашыў спраставаць свой шлях і паехаў праз гэтае поле. Ужо здалёк вершніка на кані заўважыў пан Пілецкі. Мяне ён прыняў за партызана. Ён выбег з ружжом і прыцэліўся. На шчасце падаспелі парабкі і папярэдзілі яго. Такім чынам, каб не працаўнікі, то мне мала не было б, а так абышлося праз маральнае пакаранне.

Як далей узгадаў Франц Адамавіч, што ў час

прыходу другіх саветаў, Пілецкія вымушаны былі пакінуць Сукурчы. Дык перад ад'ездам яны перавезлі ў Хрулі да яго цесця пчаліныя вуллі, конскую вупраж. Для таго, каб захаваць хоць гэтую маёмасць. Але ж з прыходам немцаў панства Пілецкіх назад сюды не вярталася. На жаль, маёнтак Сукурчы да сённяшняга дня не захаваўся.

- А вось, як ад'язджаў пан Бэрхман, - працягвае Ф. Круглы, - то майму тату ён падараваў насценны гадзіннік, які добра адбіваў звон. З цягам часу свой ход ён спыніў, і яму месца знайшлося ў гаражы. Меў я і фотакарткі самога Бэрхмана і Шалевіч. Але ж як і гадзіннік, так і іх я перадаў прыязджаўшым калісьці да мяне сваякам гэтых паноў.

Як далей згадаў спадар Круглы, у панскай сядзібе, якая налічвала 12 пакояў, захоўвалася вельмі шмат кніг, а сцены былі аздоблены рознымі здымкамі. Дык пасля 1939 года, як прыйшлі рускія, метраў 30 ад палаца, у канец саду былі вынесены гэтыя кнігі, відокі, крэслы ў адну вялікую кучу і падпалілі іх. Дык я, дзесяцігадовы хлапчук, мае сябры, людзі з вёсак, узяўшы доўгія калы, потым выцягвалі спаленае панскае абсталяванне з вогнішча.

### І тут нямецкі быў разгром

- А якія ўспаміны захаваліся з часоў ваеннага ліхалецця? - задаю чарговае пытанне.

- Пасля таго, як адышло польскае войска, то непадалёку ад нашай хаты стаяў полк рускіх салдатаў, якія дзеля месца пражывання выкарыстоўвалі панскую сядзібу. А пазней гэты дом належаў нямецкім салдатам, якія ўвайшлі на нашу тэрыторыю. Дык, як цяпер помню, сюды з'ехалася жандармерыя, у войску якой быў нейкі важны хлопец, камендант паліцыі, 12 паліцэйскіх, а астатнія - немцы. А было гэта ў час жніва, калі абмалочвалі збожжа, якое, як мы разумелі, перавозілі ў Германію. Дадзенае размяшчэнне немцаў у Заполлі вельмі растрывожыла рускіх салдатаў. Узброенныя боепрыпасамі, яны ўварваліся сюды і разбілі немцаў. Стаяў страшны грукат. Наша хата размяшчалася на доле Заполля, то мы хаваліся ў падвале каморы пад лавай, дзе захоўваліся буракі. Але ж непадалёку расла альшына, праз якую 2 немцы ўцяклі ў Ліду. Тады, як зайшло сонца, страляніна закончылася, бо баяліся рускія, што пачуе ў Лідзе патруль. Але маўчала толькі агнястрэльная зброя. Салдаты на гэтым не спыніліся: пайшлі на атаку ўручную. Важнага хлопца з жандармерыі яны забілі бярозавым калом за захаваным яшчэ на сёння домам эканома маёнтка. А каменданта распаласавала гранатай, кінутай у акоп, які быў выкапаны ля сходаў панскага палаца. Потым мой брат па загаду рускіх запрог коней і забітых немцаў завезлі ў Ліду. Салдатаў таксама было не мала: яны хаваліся з конямі то ў лесе, то ля могілак, то на балотах са зброяй. Усё ж, немцы, што змаглі ўратавацца ад агнястрэлу, паведамілі свайму лідскаму кіраўніцтву пра ваеннае дзеянне, якое адбылося ў Заполлі. Нямецкае начальства імгненна з'явілася ў маёнтку і загадала сабраць з акругі ўсіх жыхароў у хлеў і спаліць. Але заступіўся пан Шаноўскі, які валодаў нямецкай мовай і растлумачыў, што мясцовыя жыхары ў гэтай справе не вінаватыя. Урэшце рэшт загад быў адменены.

***Каментарый.*** У шматлікіх літаратурных крыніцах, у якіх сабраны звесткі пра ваенныя падзеі на Лідчыне, не змяшчаецца інфармацыя пра бой у вёсцы Заполле. Гэта першы аповед ад сведкі тых часоў. Такія напады, як вядома, былі ў вёсках Дакудава, Беліца і Тарнова. Ва ўсіх гэтых выпадках дзейнічалі невялікія партызанскія групы. Яны складаліся з чырвонаармейцаў, якія засталіся тут летам 1941 года. Пазней, у траўні 1942 года, немцы паспрабавалі іх паставіць на ўлік. Тых, хто з'яўляўся, арыштоўвалі і накіроўвалі ў Германію, а астатнія пачалі хавацца па лясах і фармаваць партызанскія групы. Верагодна, што такая група і арганізавала гэты бой. Узгаданы факт з'яўляецца важным для нас, бо пра яго не было вядома да сённяшняга часу.

### Ваенны ўспамін - балючы

- Калісьці (1944-1945 гг.) былі так званыя хапуны (лапуны), - працягвае суразмоўца, - якія вярхом на конях апярэджвалі фронт і хапалі людзей. У іх рукі трапілі і мае два браты Чэсь і Стась, якія хаваліся пад страхой другога паверха панскага палаца. Не змог схавацца ў панскім агародзе і Янак Дзехцярэвіч. Усіх забралі на фронт… Мой брат Чэсь вярнуўся з фронту кантужаным ад снарадаў і распавёў нам пра тыя жахі, якія давялося яму перажыць. Мы дазналіся, што Стась быў у пяхоце, моцна паранены ў правае плячо. На нямецкай тэрыторыі, паблізу Одэра і Нісы, немцы захапілі салдат у палон. Пазней пэўная колькасць палонных вырвалася з рук фашыстаў, іншых германцы пагналі на так званы "амерыканскі" фронт, а слабых і раненых палонных зганялі ў нейкі падвал і там іх спальвалі… Пасля вайны сын мамінага брата ездзіў у Польшчу і на могілках бачыў пліту з пералічанымі прозвішчамі загінуўшых ахвяр, сярод якіх пазначаны і мой брат, Круглы Станіслаў.

**Даведка.** У спісе "Ураджэнцы Рэспублікі Беларусь, прызваныя Лідскім раённым ваенным камісарыятам, што загінулі або зніклі без звестак за межамі рэспублікі", які захоўваецца ў фондах Лідскага гістарычна-мастацкага музея, пазначаецца, што Іван Станіслававіч Дзехцярэвіч лічыцца зніклым без вестак у сакавіку 1945 года, а браты Круглыя Станіслаў і Часлаў запісаны толькі як прызыўнікі Лідскага ваенкамата за 2 жніўня 1944 года.

Франц Адамавіч падзяліўся наступным успамінам з мэтай, што можа адклікнецца хто-небудзь, калі прачытана будзе ў друку.

- Непадалёку ад хаты, дзе жыла наша сям'я, у бок вёскі Хрулі размяшчаўся вялікі агарод, на якім вырошчваліся памідоры, капуста і іншая агародніна. А на ім увіхаўся 25-гадовы яўрэй у якасці агародніка, але пад наглядам пана Шаноўскага. Сюды ён збег з Ліды разам з жонкай і з трохгадовым дзіцём, а месцам жытла для іх стаў панскі палац. Чуткі аб тым, што тут

пражывае яўрэй, разносіліся па вёсках. А гэты малады хлапец яўрэйскай нацыянальнасці, ведаючы што ў маёнтак едуць немцы, то праз сад імгненна прыбягаў да нас і пачынаў круціць жорны, каб свае чорныя кучаравыя валасы забяліць мукой, бывала што і проста абсыпаўся ёй. І вось аднойчы з маім татам ён рызыкнуў паехаць у Ліду, каб прадаць памідоры на рынку. У гэты ж час у маёнтак прыехаў Шульц - адзін з галоўных немцаў над Лідай, камендант, а з ім - перакладчыкі. Шульц пацікавіўся ў Шаноўскага пра агародніка. Пан не затаіў, прызнаўся. Тады немец і яго каманда спраставалі дарогу і спаткалі іх каля "Кумавай ямы" (месца, дзе прыпыняліся перад хрышчэннем дзіцяці кум і кума дзеля інтымнага зближэння), што за Гаёўкай. Папрасілі яўрэя злезці з воза і яго, ужо збялелага, павялі ў лес і застрэлілі. А жонка, дазнаўшыся пра гэтае няшчасце, з дзіцём уцякла ў вёску Бельскія. Там яго і пакінула на апякунства людзям, а разам з тым перадала ім грошы, якія засталіся ад продажу памідораў. Дык куды падзелася маці - невядома. Тое ж самае, ніхто не ведае пра лёс дзіцяці. З тых пор прайшло нямала часу, і дазнацца ўжо складана.

**За школьнай партай у сядзібе панскай**

…Штосьці сканчае свой век, штосьці працягвае дзейнічаць. Школы ў тым ліку. На сённяшні дзень, на жаль, спынілі існаванне звыш за 40 афіцыйных вясковых школ на Лідчыне: Споркаўская (базавая), Зблянская (базавая), Панямонская (базавая), Моцевіцкая (сярэдняя), Голдаўская (сярэдняя), Сямашкаўская (базавая), Ігнаткаўская (пачатковая), Парэцкая (сярэдняя), Красноўская (сярэдняя, затым - базавая), Мейраўская (базавая), Папернеўская (базавая), Навасёлкаўская (базавая), Мыцкая (пачатковая), Крыніцкая (базавая), Дзітрыкаўская (сярэдняя), Дакудаўская (сярэдняя), Яўсееміцкая (базавая), Далекская (базавая, затым - пачатковая), Кенцеўская (базавая), Шайбакоўская (базавая), Вялічкаўская (базавая), Запольская (сярэдняя, потым пачатковая), Белявіцкая (базавая), Сцеркаўская (пачатковая), Табальская (базавая, затым - пачатковая), Траццякоўская (пачатковая), Астраўлянская (пачатковая), Буцілаўская (базавая, затым - пачатковая), Вангінская (пачатковая), Гарнеўская (пачатковая), Заброеўская (пачатковая), Беневіцкая (базавая), Нёманская (вёска Сялец) (базавая), Радзівонішская (базавая), Мастаўлянская (пачатковая), Белевіцкая (базавая), Леснікоўская (пачатковая), Канюшанская (вёска Вялікія Канюшаны) (базавая), Няцецкая (базавая), Гервянікская (базавая). У гэты лік, як бачым, уваходзіць і Запольская школа, якая мае сваю цікавую гісторыю.

Пасля вайны па савецкай традыцыі панскі палац, калі яго не паспявалі спаліць, або расцягнуць на дровы нашы добрыя, памяркоўныя людзі, мусіў адысці пад нейкую дзяржаўную інстытуцыю (сельсавет, кантора, клуб, чытальня). У выпадку Заполля палац адышоў пад школу. Праз пэўны час ад школы застаўся толькі падмурак.

Рэдакцыя часопіса "Лідскі летапісец" некалькі разоў прыступалася да гісторыі Запольскай школы.

Пасля расчысткі сядзібы ў 2006 годзе рэдакцыя часопіса, між іншым, звярнулася да тых чытачоў, якія могуць дапамагчы развеяць міфы аб адсутнасці звестак і фотаздымкаў раней размешчанай тут Запольскай сярэдняй школы. Спадзяванне было недарэмным: у "Лідскім летапісцы" чытачы пазнаёміліся з новым матэрыялам "Доўгачаканая знаходка" ў № 2 (38), 2007 год, які дапоўніў папярэдні матэрыял. У гэтым паспрыяў выпускнік Запольскай сярэдняй школы Іосіф Іосіфавіч Лоўкіс, які з 1958 па 1968 год вучыўся ў сценах адукацыйнага будынка і з'яўляецца выпускніком апошняга выпуску ўзгаданай школы. Ім жа і былі дасланыя фотаздымкі, а таксама складзены план размяшчэння памяшканняў.





***Здымкі Запольскай школы з архіва яе выпускніка Іосіфа Іосіфавіча Лоўкіса***

Аднак, гэта было не апошняй прыступкай у даследаванні няіснай ужо школы. Прыйшла мая чарга заняцца гэтым пытаннем.

Што ж мяне, як краязнаўца, прымусіла пранікнуць у мінулае жыццё не захаванага адукацыйнага будынка ў Заполлі? Першапачатковым адказам можа стаць павага да Радзімы, да свайго краю, да сваіх каранёў. Сюды можна дабавіць моцнае слова ПАТРЫЯТЫЗМ. Аднак, кожны свядомы беларус павінен задумацца: тое, што захаваем мы сёння, перадасца нашым нашчадкам. Разам з гэтым мы здолеем зберагчы культуру, пэўныя традыцыі… Ва ўсім стаіць адно слова - ГІСТОРЫЯ. У гэтым пераканаы і самі лідзяне.

Пасля публікацыі ў "Лідскай газеце" ў № 97 (12505) за 28 жніўня 2014 года "Запольская зямелька з сядзібай Дамейкі, або Аб тым, у якім стане захоўваецца маёнтак чылійскага вучонага" паступілі просьбы ад зацікаўленых чытачоў. Некаторыя прасілі, каб аўтар прадоўжыў далейшую вандроўку па ўзгаданай

# План размяшчэння памяшканняў Запольскай сярэдняй школы, 1968 г.

*Аўтар Іосіф Іосіфавіч Лоўкіс*

II паверх




I паверх




1. Ганак.
2. Калідор (фае).
3. Класны пакой.
4. Класны пакой.
5. Актавая зала.
6. Бібліятэка.
7. Класны пакой.
8. Каморка.
9. Класны пакой.
10. Класны пакой.
11. Калідор (4 пячныя стаякі).
12. Настаўніцкая.
13. Кабінет дырэктара.
14. Кухня.

вёсачцы Заполле, шырэй падаў звесткі пра панскі маёнтак і яго эканомаў, а іншыя, нават, казалі, што гэты край насычаны каштоўнымі гістарычнымі звесткамі, якія трэба паспець даследаваць, пакуль жывуць іх носьбіты. Што ж, вельмі слушныя былі просьбы і парады, якіх абысці было проста немагчыма, і таму я зноў рушыў туды - наперад па мінулае.

Публікацыя дала яшчэ адзін штуршок: на адрас рэдакцыі быў дасланы ліст - успаміны ад былой настаўніцы Запольскай школы Круглай Лідзіі Міхайлаўны, якая, між іншым, падзялілася і каштоўнымі фотаздымкамі гэтай адукацыйнай установы.

Ліст быў змешчаны таксама ў "Лідскай газеце" (17 студзеня, 2015 г., № 5 (12561)) у матэрыяле "Запольская школа? Дык гэта ж мая школа!", якім яна дапамагла раскрыць далейшы лёс гэтай пабудовы - ужо Запольскай школы.

Вось гэты ліст.

*"Дарагая рэдакцыя "Лідскай газеты". У адным газетным нумары я прачытала матэрыял пра Ігната Дамейку. У ім часта ўзгадвалася пра Запольскую школу. Пры чытанні маё сэрца білася ўсё мацней і мацней. Чаму? Дык гэта ж мая школа!!! Менавіта тут я пачала сваю працоўную дзейнасць, адпрацавала 6 гадоў - з 1958 па 1964 год.*

*У 1958 годзе пасля заканчэння Гомельскага педагагічнага інстытута імя В.П. Чкалава (цяпер універсітэт імя Францыска Скарыны) я была накіравана ў Лідскі раён на працу ў Запольскую сярэднюю школу выкладчыкам рускай мовы і літаратуры. У гэты год усе, хто закончыў ВНУ (гісторыкі, матэматыкі, біёлагі і інш.), былі накіраваны ў Лідскі раён. З чым гэта звязана, не ведаю, але думаю, што не хапала ў той час кадраў.*

*Вось і школа. Мяне сустрэлі вельмі добра. Дырэктар школы Кашпар Валянцін Фёдаравіч папрасіў сваю жонку Урбановіч Аляксандру Аляксандраўну, каб яна накарміла і напаіла мяне, а завучу школы Блажэю Пятру Іванавічу загадаў завесці на кватэру.*

*Мне далі класнае кіраўніцтва ў 5 класе і выкладаць урокі рускай мовы і літаратуры ў 5-7 класах.*

*У школе быў харошы, згуртаваны педкалектыў, а галоўнае, лёгка, весела і цікава мы праводзілі час. Удзельнічалі ў мастацкай самадзейнасці, ездзілі па вёсках з канцэртамі, ніколі не сумавалі. А ў якіх умовах мы там працавалі?! Не было святла. Але генератар падаваў святло ў школу раніцай і вечарам. Адказваў за гэта адзін з выкладчыкаў школы.*

*Не было ніякага транспарту. А ад нас да Ліды было 8-9 кіламетраў. Але затое ў школе быў конь. Яго глядзеў рабочы Хадарук Вацлаў, які летам запрагаў яго ў воз, а зімою - у сані і тады вёз усіх ахвочых у Ліду па пакупкі, па прадукты, і, нават, у лазню. Як было рамантычна! Не распавесці!*

*Што сабой уяўляла Запольская школа? Гэта былая панская сядзіба з двума паверхамі, абсаджаная вакол кустамі бэзу. На першым паверсе з калідора на другі паверх вяла прымітыўная лесвіца. Тут размяшчалася сцэна, быў калідор з глядзельнай залай, дзе арганізоўвалі танцы. Ды якія танцы! Лепшыя за ўсякую дыскатэку! На другім паверсе размяшчаліся класы, кабінеты з нагляднасцю па мовах, матэматыцы, фізіцы, біялогіі і іншых прадметах.*

*У школе быў інтэрнат і сталовая для дзяцей, якія пражывалі ў ім. Рыхтавала абеды душэўны, чулы чалавек Лукуць Соф'я. За школай рос вялікі фруктовы*



***Запольская сярэдняя школа.*** *(Фота з асабістага архіва былой настаўніцы школы Круглай Лідзіі Міхайлаўны)*

*сад. Школа здавала яблыкі на харчканцэнтраты, а на выручаныя грошы куплялі падарункі дзецям, розныя прызы.*

*Канешне, было зацесна, але праз некалькі год Запольская школа пераехала ў Крупаўскую, новую школу.*

*Вёска Заполле і школа сталі для мяне родным домам і другой радзімай. Я ж нарадзілася, вучылася і закончыла школу на Украіне, у Чарнігаўскай вобласці. А ў Заполлі і ў самой Запольскай школе акружылі мяне цяплом і клопатам. Тут з'явіліся добрыя сябры і таварышы. А якія выдатныя былі бацькі маіх навучэнцаў. Тут у Заполлі я знайшла сваё шчасце - выйшла замуж за выкладчыка працоўнага навучання Круглага Барыса Іванавіча, тут я нарадзіла дзвюх дачок.*

*З Запольскай школы выйшла шмат выбітных асоб. Напрыклад, Бручыкава (дзявочае прозвішча Калошка) Людміла Леанідаўна - былы член рэдакцыі "Лідскай газеты", а таксама Лапко Тадэвуш Іванавіч - былы мой пяцікласнік і пасля загадчык Лідскага РАНА.*

*Кожны год вясной ў школе была традыцыя фатаграфавацца. Я дасылаю некалькі фотаздымкаў.*

*А цяпер я жыву адна ў аграгарадку Тарнова, але адзінокасць не адчуваю, бо да мяне прыязджаюць мае дзеці, падтрымліваю сувязь з педкалектывам Тарноўскай сярэдняй школы, дзе я адпрацавала 20 гадоў. У дадатак мяне акружаюць добрыя сябры, таварышы і выдатныя суседзі.*

*З павагай Круглая Лідзія Міхайлаўна".*

Гэтай інфармацыі, здаецца, ужо было б дастаткова. Урэшце-рэшт, яшчэ адна старонка нашай гісторыі адкрыта. Але, перабіраючы храналогію развіцця школы, прыйшлося задумацца: у якім жа годзе была афіцыйна адкрыта Запольская сярэдняя школа?

Адказ, хочацца верыць, удалося знайсці ў самім горадзе. А, менавіта, у аднаго з першых вучняў Запольскай сярэдняй школы, з якім пазнаёміла мяне дачка былога дырэктара Кашпара Валянціна Фёдаравіча Тацццяна Валянцінаўна. Ён - Шурмей Казімір Станіслававіч, родам з суседняй вёскі Рапейкі.

На шчасце, Казімір Станіслававіч захаваў і фотаздымкі гэтай Запольскай школы. Справа ў тым, што аўтарам іх з'ўляецца менавіта ён сам. Паколькі не было электрычнасці (з'явілася яно ў Заполлі толькі ў 1962 годзе), каб праявіць плёнку, то малады фатограф з дапамогай дзённага святла і сонца вырабляў фотаздымкі. Такі працэс называецца кантактнай фатаграфіяй. Сярод шматлікай колькасці гэтых каштоўных кадраў ужо смела можам уявіць саму школу - яе фасад, яе архітэктурныя асаблівасці, а таксама адно з па-



***Шурмей Казімір Станіслававіч (вучань Запольскай базавай школы), фота 1956 г.***







***Запольская сярэдняя школа, на 1 мая вучні Бубен і Шэўчык вешаюць сцяг..*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча. Фота 1957 - 1958 гг.)*

мяшканняў - клас, дзе ідзе занятак, ёсць групавыя фотаздымкі вучняў і настаўнікаў падчас пэўнага дзеяння.

Як ён мне сам прызнаўся, у школу пайшоў позна, бо так склалася ў яго здароўе, не ў першы клас, а адразу ў другі. На той час яму было 12 год. Было гэта ў 1949 годзе. Закончыў родную школу ў 21 год - у 1958 годзе. Як мне зазначыў суразмоўца, што ў пачатку школа размяшчалася ў суседняй вёсцы Хрулі, але называлася Запольскай. Дзе размяшчалася школа ў



***Запольская сярэдняя школа. Вучні 9 класа на ўроку. Фота 1957 года.*** *( Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*



***Настаўнікі Запольскай школы Блажэй Пётр Іванавіч і Зоя Сцяпанаўна, іх сын Слава. Фота 1958 г.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*





***Вучні Запольскай СШ, на ўроку фізкультуры . Фота 1957 года.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*



***Настаўніца Запольскай школы Скрэнда Марыя Аляксандраўна.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*



***Настаўніца Запольскай школы Эмілія Мікалаеўна.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*



***Настаўніца былой Запольскай базавай школы Бельская Леанарда Вацлаваўна. 2016 г.***



***Настаўнікі Запольскай школы (на пярэднім радзе Зоя Сцяпанаўна Блажэй, Ірына Фёдараўна Шакоцька, Марыя Аляксандраўна Скрэнда). Фота 1957-1958 гг..*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*



***Урок з піянерважатай - настаўніцай Запольскай школы Скрэнда Марыяй Аляксандраўнай. Фота 1957-1958 гг.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*



***Падчас працы ў школе жылі сем'і дырэктара Кашпара Валянціна Фёдаравіча, завуча Блажэя Пятра Іванавіча. На фота: на парозе настаўніца бел.мовы і літаратуры Урбановіч Яніна Андрэеўна, на двары - настаўніцы хіміі (?) Яўгенія Філіпаўна.*** *(Фота з асабістага архіва былой настаўніцы Запольскай школы Урбановіч Яніны Андрэеўны)*



***Запольская сярэдняя школа (вучні 6 класа з настаўнікамі: пасярэдзіне дырэктар Рынкевіч Васіль Віктаравіч, настаўнік Барташэвіч Мікалай Аляксандравіч). Фота 1954 года.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*



***Запольская сярэдняя школа (вучні 7 класа з настаўнікамі: пасярэдзіне дырэктар Рынкевіч Васіль Віктаравіч, завуч Блажэй Пётр Сцяпанавіч). Фота 1955 года.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*



***Запольская сярэдняя школа (вучні 8 класа з настаўнікамі і завучам Блажэем Пятром Сцяпанавічам). Фота 1956 года.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*




***Запольская сярэдняя школа (вучні 8 і 9 класа з настаўнікамі: пасярэдзіне дырэктар Кашпар Валянцін Фёдаравіч, завуч Блажэй Пётр Сцяпанавіч). Фота 1956 года.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*




***Запольская сярэдняя школа. Вучні 10 класа з настаўнікамі: на першым плане Шурмей Казімір Станіслававіч і настаўніца-піянерважатая Скрэнда Марыя Аляксандраўна, пасярэдзіне ў другім радзе - завуч Блажэй Пётр Сцяпанавіч, дырэктар Кашпар Валянцін Фёдаравіч, настаўніца матэматыкі Блажэй Зоя Сцяпанаўна, у трэцім радзе - пасярэдзіне настаўніца матэматыкі Урбановіч Аляксандра Аляксандраўна). Фота 1957 года.*** *(Фота з асабістага архіва былога вучня Шурмея Казіміра Станіслававіча)*

Хрулях: не вядома, бо ніякіх фотаздымкаў не засталося.

У канцы 60-х гадоў XX стагоддзя Запольскую сярэднюю школу закрылі.

А чаму закрылі сярэднюю школу, жыхарка аграгарадка Крупава Масла Тарэса Канстанцінаўна - былая настаўніца школы ў Заполлі (але ж не сярэдняй, а ўжо пачатковай) тлумачыць тым, што гэты будынак з'яўляўся аварыйным. Апошнім дырэктарам на той час быў Вільбік Іван Іванавіч, які, між іншым, адразу стаў першым дырэктарам Крупаўскай сярэдняй школы, адкрытай у 1969 годзе.

Для ўдакладнення гэтага пытання прыйшлося звярнуцца ў Лідскі занальны дзяржаўны архіў. Стала вядома, што на 1968-1969 гг. (гады закрыцця школы) Запольская сярэдняя школа была рэарганізавана ў пачатковую, а потым наогул перамясцілася ў адкрытую новую - Крупаўскую сярэднюю школу. Зазначу, што з першага навучальнага года ў гэтай навучальнай установе ў пачатковых класах вучылася 58 вучняў, з 5 па 8 класы - 97, а ў 9 і 10 класах - 31 школьнік. Агульная колькасць складала 186 навучэнцаў з наведваннем школы ў адну змену. Меўся прышкольны ўчастак памерам 1,5 га.

- Шкада, што не захаваўся гэты палац. Яго цяпер маглі бы выкарыстоўваць як турыстычную сядзібу ці нават як аздараўленчы цэнтр, бо тут выдатнае месца: шмат незадзейнічанай зямлі, чыстае паветра… На маіх вачах разбіралі той палац…, - гаворыць Франц Адамавіч Круглы.

Як стала вядома, было гэта ў канцы 60-ых гадоў. Франц Адамавіч у той час працаваў трактарыстам у мясцовым калгасе. А на тэрыторыі калгаса "Новы Нёман", у вёсцы Панямонцы не хапала бярвёнаў для пабудовы школьнай сталовай і класаў. І было вырашана: разабраць панскую сядзібу ў Заполлі. 12-14 хлопцаў з той мясцовай гаспадаркі не маглі ўручную зрушыць панскія сцены. Да гэтай справы прыйшлося далучыцца трактарысту Ф. Кругламу, які, закінуўшы трос за бярвёны, разадраў сцены. І палац зрушыўся. Па словах суразмоўцы, бярвёны былі вельмі моцна змацаваны паміж сабою нейкім незвычайным спосабам.

- Мне, нават, дазволілі некалькі бярвёнаў узяць, - прызнаецца Франц Адамавіч. - Дык я з іх для гумна ніжні рад сцяны змайстраваў. З тых пор прайшло не мала часу, але ад іх і цяпер разносіцца звон, як з новага матэрыялу. Ды яшчэ і падлога ў каморы маёй хаты заслана з дошак таго палаца.

***Каментарый.*** Больш дакладны лёс будматэрыялу з Запольскага палаца прыйшлося высветліць аўтару гэтага артыкула ў жыхара вёскі Панямонцы



**Вучні 7 класа і настаўнікі (Вашкевіч Ганна Канстанцінаўна, Яцэнт Аляксандравіч, Леанід Іванавіч, Урбановіч Яніна Андрэеўна, Вільбік Іван Іванавіч - дырэктар) Запольскай сярэдняй школы. 1966-1977 гг.** *(Здымак з асабістага архіва выпускніцы Крупаўскай сярэдняй школы Круглай Марыі Францаўны)*



**На парозе Запольскай сярэдняй школы (пасярэдзіне - дырэктар Кашпар Валянцін Фёдаравіч, ніжэй - справа Клепель Даніїл Грыгор'евіч, злева - Урбановіч Яніна Андрэеўна, вышэй над ёй - Урбановіч Віктар Юльянавіч, сярод іх - вучні). Фота 1962-1963 гг.** *(Фота з асабістага архіва былой настаўніцы Запольскай школы Урбановіч Яніны Андрэеўны)*



**Круглая Марыя Францаўна - вучаніца Запольскай, выпускніца (1970 г.) Крупаўскай сярэдняй школы. 2016 г.**

Дзірбука Канстанціна Канстанцінавіча, звязаўшыся па тэлефоне. Як стала вядома, К. Дзірбук у тыя гады (1969-1970) быў брыгадзірам той будаўнічай брыгады, якая прымала ўдзел у разборцы панскай сядзібы. На сённяшні дзень, ён застаўся адзін з тых хлопцаў. Як зазначыў суразмоўца, у дапамогу былі запрошаны і салдаты. Сярод мэблі, якая змяшчалася ў будынку, былі варштаты з урокаў працы, а разам з тым і печкі

для абагрэву школы, між іншым, сцены былі атынкаваныя, моцна змацаваныя між сабою. У той час загадчыкам РАНА быў Кашпар Валянцін Фёдаравіч, які да гэтага працаваў дырэктарам Запольскай школы, а намеснікам старшыні райвыканкама быў Баранаў Георгій Паўлавіч. Разбор палаца ішоў пад кіраўніцтвам галоўнага інжынера Лідскага райвыканкама Кірчука Івана Казіміравіча, а старшынём калгаса "Новы Нёман" быў Блажэй Уладзімір Іванавіч. З прывезеных бярвёнаў дабудавалі класы, сталоўку Панямонскай базавай школы, нават і інтэрнат. Памер школы атрымаўся: у даўжыню 18 м, у шырыню - 12 м, а памер інтэрната - 9 м х 6 м адпаведна, будынак якога пасля атрымаў форму пабудовы ў выглядзе літары "Г". Доўгі час існавала Панямонская базавая школа, і толькі ў 2002 годзе яе дзейнасць спынілася: яна пераехала ў Пескаўскую сярэднюю школу. Цяпер гэты будынак перададзены на баланс АТ "Хрысціянская садружнасць дарослых і маладых".







***Здымак былой Панямонскай васьмігадовай базавай школы (1968-1969 гг.) і сучаснага (2016 г.) яе будынка. Частка яго складзена з бярвенняў запольскага палаца.***

**Запольская пачатковая школа**

Пасля закрыцця сярэдняй школы ў Заполлі адкрылі пачатковую. А размяшчалася яна ў доме, дзе жылі настаўнікі, якія таксама пакінулі гэтыя мясціны і былі накіраваны на працу ў іншую школу. Масла Тарэса Канстанцінаўна паведаміла, што пасля таго, як закрылі сярэднюю школу, побач ля яе будынка адкрылася менавіта новая пачатковая школа, якая існавала з 1968 па 1983 год. Але ж і гэтая школа скончыла сваё існаванне. Прычына яе закрыцця: зменшылася колькасць дзяцей у бліжэйшых вёсках. Сама суразмоўца працавала там з 1974 па 1979 год (да адкрыцця дзіцячага садка ў Крупаве), прытым, адзінай на школу і мела ў класе 17 вучняў. На шчасце, гэты будынак захаваўся да нашага часу (там жыве адзін з жыхароў вёскі Заполле).

Між іншым, у Тарэсы Канстанцінаўны захаваліся фотаздымкі, на якіх, менавіта, адлюстраваны дзеці пачатковай школы.





***У гэтым доме калісьці месцілася пачатковая Запольская школа, а цяпер жыве спадар Роўба. 2016 г.***







***Настаўніца былой Запольскай пачатковай школы Масла Тарэса Канстанцінаўна з вучнямі, сярод якіх Карэйва Віктар, Бубен Валера, Адалеўскі Валера, Букатка Аня, Букатка Зоя, Круглы Юра, Коска Люда, Улан Віця, Лапко Люда, Лабацкая Тарэса, Хіман Валя, Паўлюкевіч Тарэса і інш. 1976 г.***



***Настаўніца былой Запольскай пачатковай школы Масла Тарэса Канстанцінаўна з вучнямі***

На той час, у Запольскай пачатковай школе мова выкладання таксама была беларуская. У першым класе было 11 вучняў, у другім - 16, у трэцім - 13, у чацвёртым - 15, усіх налічвалася 55 вучняў, і ўсе вучыліся толькі ў першую змену. Выкладчыкаў было толькі двое. На 210 метрах квадратных было 2 класныя пакоі. Ля школы быў прышкольны ўчастак, які меў памер 0,30 га. Адлегласць да пачатковай школы складала 6 км, да сямігадовай - 3 км, да сярэдняй - 4 км.

- Шмат вады ўцякло з тых пор праз нашу Крупку. Калі ўсё узгадаць, то цэлую кнігу можна было бы сабраць, - кажа Франц Круглы. - Усяго ўдалося пабачыць на сваім вяку. За працай нават не заўважыў як і гады паляцелі. Адзін застаўся з братоў. Я і цяпер не складаю рукі. Маю трактар. Але вось, каб яе трасца: аднойчы займаўся зварачнымі работамі ў камбайне і залез у цёмнае месца, хацеў як найлепш выканаць зварку, дык шчыток у гэтых нязручных умовах калі-нікалі выкарыстоўваў. Дык потым суткі не мог глядзець, ночу вочы рэзала, быццам, жвірам хто па іх цярушыць ці напільнікам шаруе. Адно вока прайшло, а другім - перастаў бачыць. Урэшце рэшт, пасля звароту да лекара прыйшлося ампуціраваць левае вока, на якое цяпер пастаянна накладаю павязку. Нічога, жыць можна. Абы горш не было… Кватэры, машыны, сучасная тэхніка, дачы за горадам, дахоп прадуктаў - чаго болей хацець? Унукі раяць пажыць у Лідзе. Я адмаўляюся: таксама прыязджае аўталаўка, якая прывозіць усё, што замаўляеш. Праблем няма… Мне тут лепш падабаецца: прырода, агарод, свабода, сам сабе гаспадар. Я загартаваны і пранікнуты тым часам, які насычаны ў маім жыцці разнастайнымі шляхамі, праз якія прайшоў ужо амаль восьмы дзесятак гадоў і пакінуць свае мясціны не дазваляе сэрца, бо гэта тое самае, што адрачыся ад спадчыны, якая мне засталася ад продкаў.

* * *

Трэба зазначыць, што гэты матэрыял рыхтаваўся да юбілею Ігната Дамейкі. Напрыканцы 2016 года ў Ліду, а менавіта ў Лідскі гістарычна-мастацкі музей, завіталі даследчыкі жыццёвай і творчай дзейнасці вучонага. Аўтару гэтых радкоў давялося сустрэцца з цікавымі суразмоўцамі - са старшынём літоўскага таварыства імя Ігнацыя Дамейкі, акадэмікам Альгімантасам Грыгялюсам і старэйшым навуковым супрацоўнікам Інстытута прыродакарыстання НАН Беларусі Алегам Гайдукевічам.

Ад Альгімантаса Грыгялюса стала вядома, што хатняя бібліятэка Ігната Дамейкі сапраўды захавалася. Аб гэтым вядома з даследчай працы даследчыкаў Л. Коўкель і С. Мароз (Kowkiel, L. Ksiagozbior Ignacego





***З вучонымі - даследчыкамі спадчыны Ігнацыя Дамейкі Альгімантасам Грыгялюсам і Алегам Гайдукевічам пад час наведвання Лідскага гістарычна-мастацкага музея. 2016 год***

Domeyki (w swietle inwentarza rekopismiennego z 1834 roku). In.: Od strony kresow. Studia i szkice. Cz. 2. Pod red. Haliny Bursztynskiej. Krakow: Wydawnictwo Naukowe Akademii Pedago-gicznej, 2000, s. 123-135. 2. Rejestr knigam, konfi-skovannym u miatieznika Ignatija Domejki, ijulj 1834 goda. Sostavil S. Moroz (in Russian). Kept at: Panstwowe Archiwum Historyczne w Grodnie (State Historical Archive in Grodno, further - PAHG), unit 31, cover 2, file 59, page 153-164v.). Ад даследчыкаў стала вядома, што рыхтуецца да выдання чарговая кніга пра нашага знакамітага земляка да 215-годдзя з дня нараджэння, у якой змесцяцца новыя звесткі і факты з яго жыцця.

Сапраўды, у першыя дні жніўня 2017 г.



***Праўнучка Ігнацыя Дамейкі Пас Дамейка Леа-Пласа з аўтарам матэрыяла. 2017 г.***

Беларусь адзначыла гэтыя ўгодкі: былі праведзены імпрэзы ў Менску, у якіх прымалі ўдзел прамыя нашчадкі вучонага з Чылі, Аўстраліі, ЗША. Сярод іх - праўнучка навукоўца Пас Дамейка Леа-Пласа з Аўстраліі, якая, між іншым, напісала кнігу пра свайго знакамітага продка (нядаўна кніга была перакладзена на беларускую мову).

Яна і яе сваякі ў суправаджэнні прадстаўнікоў навуковай грамадскасці, журналістаў наведалі памят-



***Сваякі Ігната Дамейкі ля Крупаўскай школы і ў яе музеі са старшынём Лідскага райвыканкама Карповічам Міхаілам Канстанцінавічам. 2017 г.***




*Сваякі Ігнацыя Дамейкі ў музеі Крупаўскай школы. 2017 г.*

ныя месцы на Гарадзеншчыне, звязаныя з жыццём іх продка. Не абмінулі яны і Лідчыну, у прыватнасці - аграгарадок Крупава, дзе на базе Крупаўскай школы размяшчаецца музей, прысвечаны знакамітаму навукоўцу.

Далейшы шлях быў пракладзены ў знакамітае Заполле, што ля Крупава, дзе размяшчаецца памятны абеліск і дзе жыў вучоны.

Там, між іншым, з нагоды юбілею прайшла чарговая вырубка таго адзічэлага месца, дзе размяшчалася школа, а папярэдне - дом І. Дамейкі, што і дало магчымасць уявіць тую сядзібную хату, ад якой, на жаль, захаваліся толькі прыступкі і падмуркі.



*Пас Дамейка Леа-Пласа са старшым навуковым супрацоўнікам Лідскага гістарычна-мастацкага музея Валерыем Васільевічам Слюўкіным у Заполлі. 2017 г.*



*Ачышчаная паляна - месца, дзе размяшчалася сядзіба І. Дамейкі, потым - Запольская школа. Па старажытных прыступках падымаецца Пас Дамейка Леа-Пласа. 2017 г.*

Здаецца, на гэтым можна паставіць кропку. Але ж, працяг быў. А менавіта падчас паездкі ў Растоўскую вобласць, Няклінаўскі раён Расіі на міжнародны маладзёжны фестываль-конкурс паэзіі і паэтычных перакладаў "Берагі сяброўства", дзе мне пашанцавала пазнаёміцца з гамяльчанкай Вольгай Раўчанкай.

Так, з той жанчынай, якая пераклала кнігу аўстралійскай пісьменніцы Пас Дамейка Леа-Пласа "З Мядзвядкі - у Санцьяга-дэ-Чылі (1802-1889)". Як пазначаецца ў яе анатацыі: "Гэтае выданне - новы погляд з-за мяжы на жыццё і дзейнасць беларускага дзеяча, вучонага з сусветным імем - Ігнацыя Дамейкі,



***Вольга Іванаўна Раўчанка з аўтарам матэрыяла падчас фестывалю "Берагі сяброўства" ў Растоўскай вобласці Неклінаўскага раёна Расіі. 2017 г.***




***Кніга ад перакладчыцы Раўчанкі В.І. з дарчым аўтографам для музея ў Крупаўскую сярэднюю школу. 2017 г.***

прадзядулі аўтаркі.

Яна акцэнтуе ўвагу на душэўных якасцях і высокіх маральных прынцыпах асветніка, які знайшоў сваё месца ў Чылі, але сэрцам заўсёды заставаўся на Радзіме. У кнізе аўтарка выкарыстоўвае дзённікі свайго знакамітага продка і яго перапіску з вядомымі асобамі XIX стагоддзя. Яна засяроджвае ўвагу на пачуццях свайго героя, паказвае, што дасягненні вялікага навукоўца, якія займаюць пачэснае месца ў гісторыі, навуцы і культуры Беларусі, Літвы, Польшчы і Чылі, ідуць побач з глыбокімі перажываннямі і чулай душой. Пас Дамейка гэтым даводзіць думку аб тым, што важна берагчы наш далікатны свет.

Першапачатковы пераклад Вольгі Раўчанкі быў зроблены на рускай мове, таму ёсць магчымасць выхаду кнігі і на рускай мове. А пакуль, праз аўтара гэтых радкоў, адзін з асобнікаў на беларускай мове Вольга Іванаўна падаравала ў музей Ігнацыя Дамейкі Крупаўскай школы. Гэта значыць, што фонд яго зноў папоўніўся.

P. S. Калі ў вас ёсць цікавая гісторыя з мінулага нашагапрынёманскага краю, калі ласка, падзяліцеся, напішыце. Давайце разам збіраць і занатоўваць гісторыю роднай зямлі!

**Спіс выкарыстаных крыніц:**

1. Суднік С. Расчыстка сядзібы Ігната Дамейкі ў Заполлі // Лідскі летапісец, № 3 (35), 2006 г.

2. Суднік С. Доўгачаканая знаходка // Лідскі летапісец, № 2 (38), 2007 г.

3. Суднік С. Закончана расчыстка сядзібы Ігната Дамейкі ў Заполлі // Наша слова, № 36 (772), 2006 г., 6 верасня.

4. Хітрун А. Запольская зямелька з сядзібай Дамейкі, або Аб тым, у якім стане захоўваецца маёнтак чылійскага вучонага // Лідская газета, № 97 (12505), 2014 г., 28 жніўня.

5. Хітрун А. Запольская школа? Дык гэта ж мая школа! // Лідская газета, № 5 (12561), 2015 г., 17 студзеня.

6. Хітрун А. Алея напамінае аб былым Заполлі, а малітоўнік аб дзедзе Юзэфе // Лідская газета, № 39 (12595), 2015 г., 20 мая.

*Аўтар выказвае падзяку ў дапамозе па падрыхтоўцы матэрыяла старшаму навуковаму супрацоўніку Лідскага гістарычна-мастацкага музея Сліўкіну Валерыю Васільевічу, а таксама загадчыку гістарычна-краязнаўчага музея "Час. Падзеі. Людзі" Крупаўскай сярэдняй школы Гівойну Івану Барысавічу і настаўніцы Гівойна Марыі Аляксандраўне, дырэктару Лідскага занальнага дзяржаўнага архіва Свірко Святлане Генадзеўне, былым настаўнікам і вучням Запольскай школы і іншым сведкам, якія ўзгаданы ў матэрыяле.*

*Леанід Лаўрэш*

# Яшчэ раз пра караля Андоры

*У 2014 г. у менскім часопісе "Маладосць" выйшаў мой артыкул пра караля Андоры з-пад Ліды*[1]*, за чатыры гады з'явіўся новы, цікавы, матэрыял па тэме і, таму спадзяюся, гэты артыкул будзе запатрабаваны.*

### Гісторыя Тарнова

Ваколіцы лідскай вёскі Тарнова з першай паловы XV ст. належалі ўплывоваму беларускаму роду Завішаў, спачатку герба Ружа. Пасля параднення з Кезгайламі і Шэметамі гэтыя роды атрымалі агульны герб Лебедзь. Трэбы адзначыць, што нашы лідскія Завішы не мелі нічога агульнага ні з Завішамі герба Парай, ні з польскімі Завішамі.

Родапачынальнік Завішаў успамінаецца ў 1443 і 1486 гг. Ён пакінуў сыноў Мікалая (ўспамінаецца ў 1496 г., нашчадкаў не меў) і Яна, каралеўскага двараніна (1491), памёр да 1506 г. Сын Яна, Юры (каля 1480 - да 1528 гг.), быў суддзём земскім драгічынскім і значным землеўладальнікам, ён у1528 г. выстаўляў 34 вершнікі ў войска[2].

Вялікі князь ВКЛ Казімір каля 1443 г. пацвердзіў за Завішамі 12 чалавек лідскай воласці: *"Завиши дванадцать ч(о)л(о)вековъ Поречан у Губини, отчины его"* [3] і пяць людзей на рацэ Дзітва.

Каля 1488 г. уладанні наследваў Мікалай Завіша, каралеўскі дваранін. Пасля яго смерці, каля 1500 г., палова маёмасці, па левым беразе Дзітвы, перайшла да яго брата Андрэя Завішы, цівуна віленскага, а другая палова - па правым беразе ракі Дзітва іншаму брату - Юрыю Завішу. Абедзве часткі гэтай маёмасці називаліся Белагрудай.

Нашчадкі Андрэя Завішы трымалі сваю частку Белагруды да другой паловы XVII ст. Юры Завіша пакінуў пасля сябе сыноў Мікалая, Крыштафа, Альбрахта, Яна і дачку. Згодна з попісам войска 1528 г. гэтыя Завішы са сваёй часткі Белагруды выстаўлялі разам з паветам Васілішскім 3 кані. Каля 1560 г. гэтую частка Белагруды разам з Вашкевічамі ў Завішаў набыў князь Андрэй Вішнявецкі, праз 20 год ён прадаў яе Яраславу Мікалаевічу Ваўчку.

Пры канцы XVI ст. унук Андрэя Завішы Ян Янавіч Завіша, падкаморы лідскі (з 1593 г.), а потым ваявода віцебскі выкупіў усе часткі Белагруды і па тастаманце ад 1 лютага 1593 г. з гэтай зямлі і з іншай сваёй маёмасці забяспечыў за сваёй жонкай Анастасіяй з Трызнаў 400 коп літоўскіх грошаў. Пасля смерці віцебскага ваяводы гэтая маёмасць разам з Жырмунамі і Вострававам (тым самым, дзе ў 1392 г. было падпісана славутае пагадненне паміж Вітаўтам і Ягайлам) успадкаваў яго пляменнік Мікалай Завіша, таксама віцебскі кашталян, а калі і ён памёр бяздетным, маёмасць перайшла да яго ўдавы Гальшкі з Тышкевічаў, якая ў 1668 г. аддала маёмасць у арэнду. Пад канец XVII ст. Белагруду ўспадкавала дачка Яна Юрыя Завішы, старасты браслаўскага, Ганна, якая ў першым замустве (каля 1690 г.) была жонкай Пятра Амора, графа Тарноўскага, а ў другім - Крыштафа Шчыта, кашталяна смаленскага. Памяць гэтых двух прозвішчаў і заставалася ў назвах маёнтка Тарнова і фальварка Шчытнікі.

У XVIII ст. Жырмуны і Вастраў з Белагрудай - маёмасць княгіні Барбары Радзівілл (з Завішаў). Ад яе Тарнова пераходзіць да сына - Станіслава Радзівіла (1722-1784), падкаморага літоўскага, а далей - Мікалаю Фаўстыну Радзівілу (1751-1811), уладальніку Жырмун. Пры канцы XVIII ст. з вопісаў парафій Лідскага дэканата бачна, што Тарноўшчына - фальварак Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла генераллейтэнанта войск ВКЛ. Незадоўга да смерці, Мікалай Фаўстын Радзівіл аддаў Тарнова ў заклад Тадэвушу Андрэйкавічу за 10 000 залатых дукатаў і 130 000 злотых. Пасля судовага працэсу ў 1824-25 гг. бакі падпісалі судовую дамову, згодна з якой Андрэйкавіч стаў уладальнікам Тарнова. Яго сын Юлій Андрэйкавіч прадаў Тарнова Канстанціну Кашыцу[4].

Канстанцін Кашыц (1828-1881) - сын наваградскага маршалка Юзафа Кашыца, які ў 1812 годзе быў афіцэрам 19-га палка ўланаў, потым удзельнічаў у паўстанні 1831 года і на нейкі час эміграваў. Канстанцін Кашыц скончыў Дэрпцкі ўніверсітэт, быў чалавекам выдатных разумовых здольнасцей, вызначаўся трапным словам і вострым пяром. У 1850-я, калі яшчэ адбываліся шляхецкія соймікі, сваімі жартамі і эпіграмамі ён дакучаў розным павятовым і губернскім асобам. Аднаго такога "дыгнітарыя" (саноўніка, *рэд.*), які ў лісце замест "вторак" (аўторак) напісаў "фторак", ён назваў "Пан Фторак", і мянушка гэтая замацавалася назаўжды. Склаў некалькі рыфмаваных сатыр, якія называліся "Загадка", "Крыжык", "Дагератып", "Пастка на выбарах (галасаванне на сойміках ці выбары)".

Канстанцін Кашыц браў чынны ўдзел у паўстанні 1863 года, за што быў асуджаны і сасланы. Аднак нейкім чынам хутка вярнуўся і 25 траўня 1866 года быў прымушаны добраахвотна падпісаць акт, згодна з якім Тарнова з фальваркамі Рубікі, Шчытнікі, Белагруда, Чыжоўшчына і Банцэвічы - каля 2 500 дзесяцін зямлі разам з доўгам у дванаццаць тысяч рублёў былога ўладальніка Юліяна Андрэйкавіча - прададзена генералу рускай арміі Дзмітрыю Маўрасу за 56 300

[1] Лаўрэш Леанід. Кароль Андоры з-пад Ліды // Маладосць. 2014. №10. С. 114-125.
[2] ЭІБ. Т.3. С. 393.
[3] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3 (1440-1498): Uzrasymu knyga 3 / Parenge L. Anuzyte ir A. Baliulis. Vilnius, 1998. C. 21.
[4] Szimielewicz M. Bialogrud // Ziemia Lidzka 1936. № 3-4.

ваецца парламент.

2. Яго Вялікасць Кароль прадстаўляе парламенту склад ураду.

5. Кароль будзе асабіста прадстаўляць Андору ў Лізе Нацый. ...

17. Кароль валодае правам роспуску парламенту.

Галоўнае - канстытуцыя гарантавала асабістыя правы і свабоды грамадзян.

Ужо не было сумненняў, што на першых усеагульных выбарах, прызначаных на 1 жніўня, пераможа партыя, якая ўнесла Барыса ў парламент. Каб ён пратрымаўся ўсяго некалькі тыдняў, дык запанаваў бы ўжо цалкам легітымна. Але закружылася галава, быў страчаны самакантроль. І ён піша "Маніфест", у якім аб'яўляе вайну біскупу Урхельскаму - сеньёру Бісбе, за "абразу" ў публічным друку.

Біскуп, папярэдне дамовіўшыся з французскім бокам, высылае атрад з чатырох гвардзейцаў і афіцэра. Яны без цяжкасці расейваюць шаснаццаць паліцыянтаў "Шасці далін" і раніцай уваходзяць у каралеўскі сад - у той самы час, калі Барыс у адным халаце п'е гарбату.

Так скончылася ўлада Барыса I. Каму як, а мне асабіста гэтая гісторыя нагадвае прыгоды ў Васюках Астапа Бэндэра з яго пражэктамі пабудовы Нью-Васюкоў. Але даследчыкі адзначаюць, што менавіта Скосыраў даў Андоры першую Канстытуцыю, дзе гарантаваліся грамадзянскія правы і свабоды. Ідэі развіцця Андоры на аснове бяспошліннай эканомікі і стымулявання турызму значна апярэджвалі час. Таксама трэба ўлічваць, што Генеральная Рада амаль аднагалосна двойчы прагаласавала за план Скосырава і легітымна зацвердзіла яго каралём.

31 кастрычніка 1934 года іспанскі суд прысудзіў Скосырава да 1 года турмы. Газета "Нью-Ёрк Таймс" пісала: *"Нягледзячы на тое, што Барыс Скосыраў, як і ўсе іспанскія зняволеныя, носіць сіні камбінезон, гэты прэтэндэнт на трон Андоры з яго нязменным манокелем у правым воку, захаваў усю сваю каралеўскую годнасць і флёр выключнасці...*". Не дачакаўшыся канца тэрміну пакарання, улады выслалі дакучлівага авантурніка ў Партугалію.

Фларэнс Мармон, жанчына, якая была партнёрам і сакратаром Скосырава падчас авантуры ў Андоры, у лістападзе 1934-га вярнулася ў ЗША на борце марскога лайнера "Exochorda". Верагодна, больш яны не сустракаліся.

25 лютага 1935-га на бланку гатэля ў Лісабоне Скосыраў на французскай мове піша заяву міністру замежных спраў Нідэрландаў з просьбай выдаць новы пашпарт. Толькі ў канцы 1935-га былы "кароль" пакідае Партугалію і едзе да афіцыйнай жонкі ў Сэн-Кан, у Францыю. У траўні 1936-га яны едуць у Партугалію і, магчыма, зноў наведваюць Іспанію, але з-за ўспышкі грамадзянскай вайны хутка вяртаюцца ў Францыю.

9 лютага 1939 года ў Францыі Скосырава арыштавалі, бо быў выпісаны ордэр аб яго выгнанні з краіны. Аднак ён не меў належнага пашпарта і таму быў адпраўлены ў лагер для інтэрнаваных замежнікаў паблізу горада Манд. 25 красавіка ён атрымаў загад пакінуць французскую тэрыторыю на працягу 3 дзён. Аднак ехаць яму не было куды, і 7 кастрычніка 1939 года ўлады зноў адправілі яго ў канцэнтрацыйны лагер "Ла Вэрне" ў Ар'ежу (у французскіх Пірэнеях). Там ён знаходзіўся як "непажаданы замежнік". Прафесар А.Н. Рубакін у кнізе ўспамінаў, апублікаванай у 1960 годзе ў Маскве, пісаў пра сустрэчу з Барысам Скосыравым у лагеры "Ла Вэрне".

Афіцыйна пацверджанай інфармацыі аб жыцці Скосырава пасля лагера няма. Але ў 1950-х і 1960-х гадах у Партугаліі і Германіі прайшлі газетныя публікацыі пра былога караля. Яны праліваюць нейкае святло на яго жыццё пасля вайны.

У 1958 годзе партугальскі сябар Скосырава д-р Франсіска Фернандэс Лопес апублікаваў лісты, якія ён атрымліваў ад Скосырава і ягонай жонкі Мары-Луіз. Лісты былі дасланы з Бопарда - нямецкага горада ў Рэйнскай вобласці, недалёка ад Кабленца. Скосыраў пісаў, што разам з жонкай у кастрычніку 1942 года быў вызвалены немцамі з лагера "Ла Вэрне" і адпраўлены ў Савецкі Саюз. Пасля вайны было зняволенне ў Сібіры, потым - пераезд у Заходнюю Германію і спакойнае жыццё "100% маленькага ранцье". Уласная інтэрпрэтацыя Скосыравым ягонай біяграфія заўжды ўводзіла ў зман, і гэты канкрэтны варыянт развіцця падзей, не пацверджаны, выклікае шмат сумненняў. Даследчыкі заўважалі, што, напрыклад, калі дапу-сціць, што сапраўды быў арыштаваны службай бяспекі Сталіна і адпраўлены ў адзін з савецкіх лагераў у Сібіры, дык Барыс быў бы не ў стане потым вярнуцца ва Заходнюю Германію.

Да сваёй смерці ў 1989-м ён жыў у Бопардзе, дзе і быў пахаваны[65].

На гэтым можна было б і закончыць, калі б нямецкі гісторык Герхард Ланг не знайшоў нядаўна ў савецкіх архівах новыя дакументы пра Барыса Скосырава, сярод іх справа аб арышце яго савецкай ваеннай адміністрацыяй у 1948 г.

З яго дассе бачна, што яшчэ ў 1935 г. Барыс Скосыраў уступіў у нацысцкую партыю, калі больш дакладна, у замежнае аддзяленне НСДП у Парыжы. Цікава як наш містыфікатар змог даказаць сваё арыйскае паходжанне? Думаю, мы не хутка даведаемся падрабязнасці чарговых прыгод земляка, верагодна, ён меў вялікую патрэбу ў грашах і выконваў толькі дробныя даручэнні нацыстаў, бо па справах да 1943 г. савецкі суд абвінавачваў яго толькі ў распаўсюдзе нацысцкай прапаганды і шпіянажы. Аднак ніякай інфармацыі пра шпіёна Барыса Скоысырава ў справе няма, фактычна і справа пачынаецца з 1943 г. У гэты год ён перяязджае ў Берлін і ў судовай справе з гэтага моманту ён названы дырэктарам аднаго з "канцэнтрацыйных лагераў французскіх працоўных", насамрэч гэта нешта

[65] Alexander Kaffka. The Russian King of Andorra: Fantasies and Facts // Papers de Recerca Historica. 2009. Vol. 6. P. 158.



***Барыс Скосыраў, ва ўніформе афіцэра вермахта, быў прызваны ў 1944 годзе і накіраваны на Усходні фронт, дaслужыўся да чына маёра 6-й танкавай дывізіі.*** *Фота: фонд Ланга, Нацыянальны архіў Андоры*



Оперативный Сектор СВА в Германии

ЛИЧНОЕ ДЕЛО
заключенного

Фамилия Скосарев
Имя Борис
Отчество Михайлович

В личном деле заключенного должны находиться следующие документы:

Арх. №

***Першая старонка справы Барыса Скосырава, заведзенай савецкай ваеннай адміністрацыяй у акупаванай Германіі.*** *Фота: Ланг, Нацыянальны архіў Андоры*

накшталт лагера прымусовай працы, якія акупанты стварылі па ўсёй Еўропе. Таксама па працоўным кантракце ў Берлін пераехала і ягоная жонка Мары-Луіз Пара.

У тым жа 1943 г. Скосыраў прызваны ў нямецкае войска. Ён служыў у контрвыведцы 6-й танкавай дывізіі, займаўся вярбоўкай ваеннапалонных, браў ўдзел у аперацыях пад Смаленскам, Менскам і Віцебскам, атрымаў чын маёра. Нацыстам служыў добра, бо быў узнагароджаны Жалезнымі крыжамі 1-й і 2-й ступені, а як вядома, Жалезны крыж уручаўся за асабісты гераізм у баі.

Калі скончылася Другая сусветная вайна, Скосыраў быў дастаткова спрытны, каб вяр-




***Партрэт са следчай справы, заведзенай савецкай ваеннай адміністрацыяй у акупаванай Германіі, пасля затрымання Скосырава ў Эйзенаху 12 лістапада 1948 г.*** *Фота: Ланг, Нацыянальны архіў Андоры*

нуцца жывым з Усходняга фронту, перажыць пасляваенныя праблемы і пачаць чакаць, калі навальніца абміне горад Бопард у французскім сектары акупаванай Германіі, дзе ён пасяліўся. Але лёс адвярнуўся ад яго, бо ў лістападзе 1948 г. Барыса затрымліваюць ў Эйзенаху, савецкай зоне акупацыі. Пасля арышту Скосыраў быў асуджаны за шпіянаж як "агент на службе ў нацыстаў" і высланы ў "адмысловы лагер Міністэрства ўнутраных спраў СССР".



***Бопард, 3 красавіка 1969 г.: Барыс і Марыя (ці Разіта) пасля завяршэння працэдуры шлюбу. Яны засталіся жанатымі да смерці Скосырава 27 лютага 1989 г.*** *Фота: Ланг, Нацыянальны архіў Андоры*

Белагвардзейца-фашыста маглі б расстраляць без лішніх гутарак, і таму, пэўна ён ужо падчас следства стаўся карысным чалавекам для НКВД. Думаю, што і ў лагеры наш авантурнік аблегчыў сваё жыццё праз супрацоўніцтва з адміністрацыяй.




***Магіла Барыса Скосырава***

Скосыраў вызваліўся з лагера ў 1956 г. і нейкім чынам патрапіў у Заходнюю Германію. "Органы" пасля лагераў ніколі не выпускалі з СССР былых "белагвардзейцаў" у Заходнюю Еўропу, і можна не сумнявацца, што яго пусцілі туды, бо спадзяваліся мець ад яго адмысловую карысць.

31 снежня 1957 года Скосыраў афіцыйна разводзіцца з Мары-Луіз Пара. 3 красавіка 1969 года, маючы 73 гады, ён жэніцца з нейкай Марыяй-Разітай, нямецкай дзяўчынай, якая нарадзілася ў 1939-м у саксонскім мястэчку Брунсвік. Простая немка ператвараецца ў спадарыню - далей ва усіх дакументах яна згадваецца як Разіта фон Скосырава. Разам яны жывуць да смерці Скосырава 27 лютага 1989 года.

З гэтым шлюбам, дарэчы, звязана яшчэ адна містыфікацыя. У пасведчанні аб ім запісана, што жаніх нарадзіўся ў 1900-м, гэтая ж дата выбіта і на помніку. Ці містыфікацыяй з'яўляецца агульнапрыняты 1896 год нараджэння "караля"? Можа, Барыс дадаў сабе 4 гады, каб патрапіць на фронт? З другога боку на фотаздымку з судовай справы, зробленым у 1948 г. падчас арышту савецкай ваеннай адміністрацыяй, надпісана дата нараджэння "1896". Чарговая загадка.

Напісаць праўдзівую біяграфію гэтага чалавека ўжо амаль што немагчыма.

Янка Жамойцін

# З перажытага

(Працяг. Пачатак у пяпярэдніх нумарах.)

**Канец СБМ - пачатак новых турбот**

Сувязь з пакінутымі ў лесе сябрамі парвалася канчаткова, што і вызначыла канец майго дзеяння ў СБМ. Пасля доўгіх гадоў Вера Катковіч расказвае: *"Ноч пасля твайго адыходу была вельмі трывожная. З'яўлялася што раз больш войска, якое займала баявыя пазіцыі. Стала ясным прыбліжэнне фронту з кожнаю гадзінаю. Рана, за іншымі людзьмі, падаліся і мы ў паваротную дарогу ў напрамку Дэсаў, куды, аднак, дабрацца не было нам суджана. Над рэчкай Мульдай (прыток Эльбы) затрымалі нас амерыканскія жаўнеры, а неўзабаве наступілі ўсходнія саюзнікі. Пераход у абшар дзеяння амерыканскай арміі быў забаронены пад пагрозай расстрэлу. Дзяцей перанялі ад нас расіяне. Гэта было драматычнае расстанне, аб чым апісала мая сястрыца Анеля ў сваіх успамінах. Пасля шматлікіх прыгод мы з Анеляй навязалі сувязь з польскай вайсковай місіяй у Берліне і там нейкі час працавалі*".

Так прыблізна скончылі і іншыя згуртаванні СБМ - без цырымоніі, без фанфараў, пад напорам сілы. Адсюль арганізаваныя кіраўнічыя кадры моладзі ў змаганні за яе ідэалы, пад сцягам СБМ, рассыпаліся, але не счэзлі. Яны раздробніліся на адзінокія змаганні кожнага з уласным, пераважна драматычным, а падчас і трагічным, лёсам, вызначаным часценька прыпадкамі ці сплётам зусім нечаканых абставін пераходнага часу. Найцяжэйшым выпрабаваннем лёсу падвергнулася асноўная шматлікая колькасць сяброў, загнаных у ГУЛаг. Частка з іх загінула ад рук жывадзёраў НКУС, іншыя сталі інвалідамі, дзе-якім удалося вытрымаць і арганізаваць жыццё занава.

Тыя, якіх не дасягнулі шчупальцы сталінскага "спрута", разбегліся па свеце, ды дзе яны толькі не апынуліся! Перажыўшы матэрыяльныя цяжкасці, ніхто, аднак, з іх не звіхнуўся і цяпер адгукваюцца з кожнага кантынента, хто сам яшчэ жывы, хто голасам сваіх дзяцей ці ўнукаў. Не месца тут на растрасанне лёсаў - кожнага паасобку. Аднак, ці сапраўды можна звузіць праблему да барацьбы толькі з уласным лёсам кожнага з успамянутых? Думаю, што ўсё-такі пярэчаць гэтаму тэзісу адроджаныя, як Фенікс з попелу, арганізацыі між іншым скаўцкія і беларускія школы на выгнанні, не гаворачы ўжо пра грамадскія і іншыя палітычныя арганізацыі выгнанцаў, гісторыя якіх і значэнне сёння ўжо дастаткова вядомыя.

Маўчыць усё яшчэ гісторыя нацыянальна-адраджэнцкага пасляваеннага руху моладзі ў краіне, закаваная ў архіваьных пратаколах доследаў тых нешчаслівых, якія сарганізаваўшыся, не ўсцерагліся ад папаўнення нявольніцкіх калон ГУЛага. Паявілася там іх нямала з розных, пераважна школьных, арганізацый і з розных мясцовасцяў. Ці гісторыя ў сілах высветліць канкрэтнае гэта з'явішча, наколькі яно было наступствам дзейнасці СБМ - цяжка вырашыць. Разважаючы гэтую праблему, нельга не вярнуцца на момант у Навагрудак, каб прыгледзецца якраз канкрэтнаму прыкладу волі барацьбы групы былых юнакоў, пра якіх асвядоміў мяне адзін з іх - Кастусь Рамановіч - удзельнік арганізацыйнага камітэта Саюза вызвалення Беларусі ў Навагрудку ў 1946/47 гадах.

Навуковец-юрыст І. Енка ў артыкуле п.з. "Злачынцы ці героі?" ("Пагоня", 11-26 верасня 1992 г.) сцвярджае на аснове следчых матэрыялаў, што ў 1947 годзе група з васямнаццаці маладых хлопца ў заснавала ў Навагрудку арганізацыю "Саюз вызвалення Беларусі". Мэтай яе было стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы шляхам актыўнай барацьбы з савецкай уладай. Арганізатарамі яе былі: Г. Казак, К. Рамановіч, А. Усёкевіч, М. Кожыч, С. Пярловіч. Усе яны былі суджаны на 10-25 гадоў зняволення ў ГУЛагу. Да сённяшніх дзён, у незалежнай быццам беларускай дзяржаве, Гарадзенскі абласны суд мае адзін адказ на іх ці іх сем'яў дамаганні рэабілітацыі: "Вінаватыя таму, што здзейснілі дзяржаўнае злачынства". У аналізе справы аўтар артыкула даходзіць да вывадаў, што галоўнай прычынай так жорсткіх пакаранняў у параўнанні з фактычным дзеяннем было тое, што моладзь уяўляла сабой мясцовую беларускую інтэлігенцыю, якую ў сталінскія часы па-просту знішчалі. Уважае, што рашэнні суда маюць і далей асаблівую палітычную афарбоўку, апіраючыся на пануючыя ўсё яшчэ ў судовых асяроддзях савецкія ідэалагічныя догмы. Заўважае, прытым, што следствы і суд над хлопцамі спрацавалі па раней падрыхтаванай схеме. Сярод прозвішчаў следчых, пракурораў і суддзяў не было ніводнага беларускага, ды дадае: "Іх дзеці і ўнукі сёння таксама любяць пакіраваць".

Вернемся, аднак, думкамі ў пераможаны Дэсаў. Лагер пастунова напаўняўся людзьмі - чужаземцамі розных нацыянальнасцей з розных краін, якія стараліся гуртавацца, у асноўным, паводле грамадзянства. Часткова прыбывалі былыя жыхары лагера - працаўнікі фабрыкі Юнкерса, якім удалося зберагчыся ад выгнання з Дэсаў паліцыяй, ці якімсь цудам вярнуцца з тае эвакуацыі. У большасці паяўляліся, аднак, зусім іншыя асобы, дасюль небачаныя сярод рабочых Юнкерса. Былі гэта прышэльцы з іншых працоўных прадпрыемстваў, сельскія працаўнікі, а ў асноўным палонныя чырвонаармейцы. Яны хутка змантавалі свой моцны анклаў, які стараўся накінуць стыль жыцця і паводзін іншым.

Не без уплыву на іх паводзіны былі штораз час-

цейшыя адведзіны лагера савецкімі вайсковымі "місіянерамі" (прадстаўнікамі "рэпатрыяцыйнай місіі"), якія выклікалі эйфарыю хуткага вяртання на "родину". Несвядомыя былыя ваякі прадбачанага ім - як здраднікам - праўдзівага лёсу, маніфеставалі свой уздым радасці, не пазбаўлены элементу агрэсіі ў адносінах да карэнных жыхароў горада і ваколіц. Зразумела, што непрыстойна было б вяртацца "на родину - победительницу" з пустымі рукамі, а нейкага забеспячэння былых зняволеных спадзявацца было таксама нельга. Мае пошукі каго-колечы з бліжэйшых знаёмых беларусаў аказаліся дарэмнымі. Абазначала гэта, што нікому з сяброў перабрацца з лесу ў Дэсаў не ўдалося. Адзін з кіраўнікоў дэсаўскай групы СБМ - звязовы Шозда, які з'явіўся ў лагеры падчас наступлення амерыканскай арміі, неўзабаве знік, не пакінуўшы ніякай весткі. (У лесе сярод эвакуяваных з Дэсаў нямецкай паліцыяй дзяцей і кіраўнікоў раней я яго не спаткаў). У 1957 годзе спамянуты раней мой дзядзька Шурка - той солтыс перыяду ўсіх трох акупацыяў - перадаў мне вестку, што зняволенне ў ГУЛагу, дзесь у ваколіцы Беламорканала, адбываў ён з маім сябрам Шоздам. У асяроддзі савецкіх грамадзян апынуліся два былыя мае падапечныя са Случчыны, якія адведвалі мяне амаль кожны дзень і ўспамагалі кансервамі і іншымі прадуктамі харчавання проста з амерыканскіх рэсурсаў. Аднойчы прывалаклі мне цэлы камплект вопраткі з абуткам. Усё новенькае "з-пад іголкі". На маё абурэнне і закід, што рэчы праўдападобна паходзяць з рабунку і на адмову іх прыняцця, запэўнілі мяне, што тавар атрымалі з нейкага магазіна за дазволам амерыканскіх чорных жаўнераў ці нават ад іх саміх. Найбольш забаўным было тое, што ў новых абставінах яны пачуліся маімі апекунамі і павучалі, што час пераапранууцца з уніформы СБМ, бо інакш не пражывеш. Перапыніўшы мой далейшы маналог, пакінулі тыя рэчы і, развітаўшыся ціха прывычным клічам "Жыве Беларусь", пабеглі. З захавання хлопцаў я зрабіў вывад, што на маю тэму, былога кіраўніка СБМ, была якаясь гутарка ў іх новым асяроддзі. Нямала было там вядомых мне савецкіх хлопцаў, з якімі ўвесь час жылі мы дружна і ўзаемна ўспамагаліся. Яны бачылі і цанілі нашу апеку над дзетварою і час ад часу садзейнічалі нам. Я быў упэўнены, што і ў новых абставінах ніякага свінства мне не прычыняць. Тым часам амерыканская ваенная камендатура сарганізавала адміністрацыю лагера, забяспечыла прадуктамі харчавання і рэактывавала дзейнасць сталовай. У лагеры быў уведзены каменданцкі час і ўстаноўлена вайсковая ахова. Жыхары заходніх краін паступова пачалі раз'язджацца дамоў пасля аб'яўлення заканчэння вайны.

Грамадзяне Румыніі, Польшчы, Чэхаславакіі, Угоршчыны і Югаславіі, а ў тым ліку, праўдападобна, і частка савецкіх падданых выразна, рознымі спосабамі сепарыраваліся ад савецка-остаўскага асяроддзя і былых палонных чырвонаармейцаў (знак "OST" насілі на вопратцы дэпартаваныя з акупаванай немцамі тэрыторыі СССР). Я асабіста пасяліўся на прыватнай кватэры ў старэнькага нямецкага сужонства - пенсіянераў. Мае хлопчыкі і там высачылі мяне ды падкідалі час ад часу свіную тушонку і іншыя кансервы, пакідаючы тую здабычу маім гаспадарам, пераважна падчас абеду ў лагернай сталовай, значыць, падчас маёй адсутнасці на кватэры. Аднойчы "прыперлі" яны галадаючым старэчам мяшок мукі і нейкага зерня ды пакінулі ўсё бездапаможным разам з каляскаю. Перапалоханыя весткамі аб рабунках немцы не маглі зразумець зусім іншых паводзін тых хлапчукоў ды іх менталітэту - нейкіх нечуваных ім, нават з назвы, беларусаў.

У чэрвені, быццам маланкаю, разнеслася вестка, што амерыканцы перадаюць Дэсаў у акупацыю Савецкай арміі. У лагеры з'явіліся вайсковыя місіі: французская і амерыканская, якія мелі заданне правесці рэгістрацыю перасяленцаў у іх акупацыйныя зоны. Я, кіруючыся сваімі ведамі французскай мовы і сякоютакою магчымасцю слоўнай канверсацыі з французамі, вырашыў дабівацца выезду ў французскую зону. Місію французаў узначальваў невысокага росту, гадоў пад сорак, крыклівы сяржант, як пасля аказалася, задзёрысты камуніст. Кожнага, хто стараўся пазбегчы кантакту з савецкай акупацыйнай уладай, лічыў патэнцыяльным ворагам і так адносіўся да сваіх наведвальнікаў. Мяне, як і іншых маладых хлопцаў, пасля доўгіх допытаў абвінавацiў у праўдападабенстве службы ў нямецкіх вайсковых ці эсэсаўскіх фарміраваннях, прагнаў і пагражаў арыштам, калі толькі знойдзе хвіліну вольнага часу. Дзяўчат, у прынцыпе ўсіх, лічыў нямецкімі наложніцамі. Стала ясным, што незалежна ад афіцыйнага загаду, кіраваўся ён мэтай максімальнага абмежавання напльву зацікаўленых у французскую зону акупацыі.

У лагеры апынулася некалькі палякаў, якія ведалі мяне з працы ў СБМ з перыяду апекі над дзяцьмі. Адносіны між намі былі заўсёды карэктныя, а бліжэйшыя кантакты і сімпатыя завязаліся ад якогась інцыдэнту ў фабрыцы незадоўга перад наступленнем альянтаў. У цэху, побач польскіх дзяўчат, працавалі нашы хлопцы. Полькі сарганізавалі нейкую малую дыверсію, якая перапыніла працу. Гэта заўважылі хлопцы і адзін з іх (імя не памятаю), віцябчанін, расказаў мне гэта як сенсацыю. Я яму параіў, каб лепш забыўся пра тое, але кіраўніцтва цэха не забылася бараніць сваю скуру і паведаміла паліцыі.

Да вышыхтаваных у адзін рад дзяўчат паклікалі майго віцябчаніна ды яшчэ двух або трох хлопцаў і мяне. Афіцэр загадаў, каб я папярэдзіў хлопцаў гаварыць праўду, адказваючы на яго пытанні. Цяпер цяжка прыпомніць дакладна мае словы, скіраваныя да хлопцаў. Памятаю, аднак, што ідэяй думкі было звярнуць увагу, што іх добрыя поспехі ў працы вымагаюць зразумелай пільнасці, і яны павінны пацвердзіць толькі тое, што напэўна бачылі і напэўна ведаюць, бо ад гэтага залежыць жыццё іншых. Віцябчанін зарэагаваў коратка, але рашуча: "Мы ж не дурныя і не можам нічога выдумоўваць". У рэшце-рэшт дзяўчат не абвінавацілі, а такія здарэнні хутка не забываюцца.

Інцыдэнт з французам быў нагодай для польскіх сяброў праявіць у адносінах да мяне, беларуса ў клапатлівай сітуацыі, належную, у іх перакананні, галантнасць.

Тым часам у лагеры з’яўлялася што раз больш савецкіх мундзіраў розных вайсковых фарміраванняў. Разнесліся чуткі, што незалежна ад колеру пагонаў, шапачных абадкоў ці нават самой уніформы, вопратка іх выконвала ролю маскіроўкі малойчыкаў з вядомага ў тым часе і паўсюдна на зямлі прысутнага "прадпрыемства смерці" - СМЕРШ. Не было сакрэтам, што хаця абрэвіятура гэта фармальна абазначала "смерць шпіёнам", то абсяг дзеяння "фірмы" адпавядаў больш лозунгу "хто не з намі, той супраць нас, а хто супраць, той паблажлівасці не павінен спадзявацца". Лагерная атмасфера перамянялася з дня на дзень. Кіраваныя самазахаваўчым інстынктам чутныя дасюль славакі і чэхі быццам счэзлі з лагера. Харваты, якія пераважна дабраахвотна прыехалі на работу, каб падтрымаць барацьбу за "Новую Еўропу" ды змаганне (поруч з вермахтам) сваіх усташаў за незалежнасць Харватыі, таксама апынуліся за полем бачання. У лагерным сімбіёзе з імі, непрымірымыя дасюль сербы, якія пакінуўшы сваіх чэтнікаў, шукалі ў Нямеччыне сховішча перад навалам цітаўскага рэжыму альбо прымусова былі вывезены на работу, супольна шукалі выхаду з існай сітуацыі. Усе іншыя заходнія нацыі канчаткова развіталіся з Нямеччынай, ад'ехаўшы без перашкоды ў свае краіны. У лагеры засталіся такім чынам у асноўным палякі, а дакладней - польскія грамадзяне, і савецкія падданыя, а фактычна расіяне, бо "нацмены" "савецкага народа" таксама быццам бы растварыліся ў прасторы. Савецкія "місіянеры рэпатрыяцыі" праводзілі безупынную агітацыю. Красамоўна пераконвалі яны слухачоў, што зрэфармаваная радзіма чакае іх вяртання, падрыхтаваўшы дастатняе жыццё ў рэваншы за іх нягоды ў гітлераўскай няволі. Людзі, фактычна змораныя вайною і няволяй, жадалі пачуць падобныя заклінанні і ахвотна і некрытычна верылі той хлусні, перакананыя, што яны ні ў чым перад радзімаю невіноўныя. Нарастаючая, асабліва сярод палонных чырвонаармейцаў (а іх была большасць), атмасфера вяртання гранічыла з эйфарыяй.

За адзінкамі, якія тайком пакідалі лагер, рассылаліся пошукі. Гэта адбілася трывожным рэхам і на польскім грамадстве. Паколькі польская рэпатрыяцыйная місія не з’яўлялася, круг больш актыўных людзей стварыў унутрылагерны самаўрад, які дамагаўся ў амерыканцаў чым хутчэйшай адпраўкі ў іх акупацыйную зону. На рашэнне амерыканскіх вайсковых улад чакаць доўга не прыйшлося.

Стварылася альтэрнатыва: падацца з палякамі на захад у амерыканскую акупацыйную зону альбо палезці на кручок савецкай прапаганды ды пагрузіцца ў "цялятнікі" (таварныя чыгуначныя вагоны) накіраваныя "на родину" (tertium non datur). Прыйшлося выбраць меншае зло - першую магчымасць.

Эвакуацыя наступіла даволі хутка і адбылася гвалтоўна, праўдападобна з прычыны намагання ўсходніх саюзнікаў перадачы ім дамоўленай тэрыторыі.

Набітыя бітком людзьмі цяжкія амерыканскія "студэбэкеры" даставілі выгнанцаў у напоўнены ўжо да паловы лагер каля гарадка Гёпінген. Агароджаная лагерная тэрыторыя, густая амерыканская вайсковая варта вакол агароджы, прымітыўныя санітарныя і наогул бытавыя ўмовы - усё разам зрабіла прыгнятальнае ўражанне, як аказалася - не без прычыны. Крымінагенныя паводзіны часткі ранейшых жыхароў таго "анклава" змусіла вайсковую адміністрацыю да ўзмацнення рэжыму, абмежавання выхаду з лагера толькі з пропускамі, цяжкімі да атрымання і г.д. Дзень за днём праходзілі ў безнадзейнасці і трывозе, выкліканай даволі частымі адведзінамі вайскоўцамі ўсходніх саюзнікаў. Мае заявы, кіраваныя ў адрас вайсковай адміністрацыі з просьбай дазволу выезду ў пошуках блізкіх мне асоб, былі вырашаны адмоўна.

**У Польшчу**

Неўзабаве надышла восень, а з ёю ліквідацыя лагера недастасаванага да зімовых умоў. Відаць, лёсам былі прысуджаны тыя чыгуначныя "цялятнікі", накіраваныя на ўсход, але ў гэтым выпадку толькі да польскай мяжы з Чэхаславакіяй - да перасыльнага пункта Козле. Цягнік затрымаўся ў Козлі пры пероне, загружаным людзьмі і іх "здабычнай" (чытай: нарабаванай) маёмасцю. Пасажырам нашага цягніка неахвотна ўступалі месца раней прыбыўшыя падарожныя. У меру разгрузкі цягніка ўзмагаліся праклёны, лаянка, а часамі і рукапрыкладства. Напружанне стомленых падарожжам і чаканнем пад голым небам людзей узмацнялі марудныя і непрыемныя допыты кожнага прыбыўшага функцыянерамі органаў бяспекі, пасля якіх толькі працаўнікі далегатуры Дзяржаўнай рэпатрыяцыйнай управы (Panstwowy Urzad Repatriacyjny) - ПУР афармлялі рэпатрыяцыйныя пасведчанні і білеты на праезд да жаданай чыгуначнай сганцыі.

Праніклівасць функцыянераў бяспекі не настройвала аптымістычна. Адзіным маім дакументам было пасведчанне лагернай адміністрацыі фабрыкі Юнкерса. Выдаваныя ў апошні год вайны, такія пасведчанні заступалі раней ужываныя са знакамі "Р" ці "Ost", так што маё пасведчанне не выклікала падазрэння, а ўтомленасць майго даследчыка не заахвочвала яго да гутаркі. У часе падарожжа давялося пасябраваць з хлопцам з Познані, які вяртаўся, так як і я, без багажу, толькі з невялікім чамаданчыкам. Ветлівы пазнаняк, даведаўшыся пра маё паходжанне і немагчымасць вярнуцца на Бацькаўшчыну, запрасіў мяне дамоў на час пошуку якога прыпынку. Аформіўшы ў бюро ПУР адпаведныя дакументы, мы неўзабаве апынуліся ў прыгарадзе Познані, дзе жыла яго сям'я і дзе было поўна савецкага войска. Прывітала нас вельмі сардэчна яго старэйшая сястра, але, даведаўшыся пра маю сітуацыю, раптам расплакалася, не хаваючы страху перад сачэннем савецкімі вайсковымі за кожнай хатай, кожным чалавекам, а асабліва за прыезджымі. Адносіны пераможцаў да мясцовых жыхароў прычынілі нямала бяды, здзеку над людзьмі і крыўды, вышаптала перапуджаная жанчына. У такіх абставінах прыйшлося зноў звярнуцца ў ПУР, які накіраваў мяне на перададзеныя Польшчы рашэннем Ялцінскай канферэнцыі землі па рэкі Одэр і Ніса, з якіх выгналі ранейшых жыхароў - немцаў. Такім чынам апынуўся я ў гарадку

Рыпін-Любускі, дзе было нямала эвакуяваных з Навагрудчыны і самога Наваградка. Тут зноў перш-наперш кантакт з бюро ПУР. Прынялі мяне там ветліва, далі вольны пакой у суседстве, а пасля праведзенай са мною гутаркі кіраўнік ПУР запрапанаваў працу на пасадзе пасяленчага інспектара. Маім абавязкам мела быць арганізацыя пасялення рэпатрыянтам з Савецкага Саюза. Прапанову, зразумела, я прыняў, а перада мною былі два дні вольныя ад працы з выпадку ўгодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі. Даведаўшыся адрасы знаёмых навагрудчан, пастанавіў я некаторых адведаць. Адносіны ўсіх спатканых вонкава былі карэктныя. Найбольш шчыра прыняла мяне сям'я Яна Палонскага, жонка якога Марыля - беларуска, жывучы побач школы ў Навагр噢радку, утрымоўвала кантакты з моладдзю, чым прыцягала кліентаў свайму мужу - шавецкаму майстру. Яна і пераказала ўсе навіны з пасляваеннага Навагрдка.

**Першае зняволенне**

Праца мая пачалася ў лістападавы цёплы дзень з камандзіроўкі да толькі што прыбылых перасяленцаў. У дарозе мінуў мяне самаход, але зараз затармазіў, а два яго пасажыры загадалі майму фурману затрымаць коней. Мяне ветліва папрасілі перасесціся ў машыну, якую завярнулі ў адваротным ад намеранага мною напрамку. Даязджаючы да Рыпіна павозка наша затрымалася на вуліцы, пры якой стаяў знаёмы з Наваградка электрык прозвішчам Ягадоўскі са сваім пляменнікам, якога прыпомніў я як шустрага і празмерна абавязковага дружыновага СБМ. На пытанне аднаго з маіх спадарожнікаў, які паказваў на мяне: "Чы то тэн?", абодва адказалі: "Так, то тэн". Было ўсё ясна. Моўчкі давезлі мяне ў горад Слубіцы (палова Франкфурта з польскага боку ракі Одэр) і, не высняючы ні слова, зачынілі ў падвале якойсьці камяніцы. На другі дзень раніцай з’явіўся сяржант (пасля даведаўся я яго прозвішча - Аляксандр Пясецкі), які прынёс мае старыя камашы і вопратку з маёй кватэры. Укінуўшы ў мой катух тыя лахмоцці, запрапанаваў "прадаць" яму за прадукты харчавання мой эсбээмаўскі мундзір, у які я быў апрануты, пашыты з зялёнага сукна, прыдзеленага раней сярэднім і вышэйшым кіраўнікам СБМ. Я без слова згадзіўся, хоць не верыў у яго прапанову рэваншу і не дадумоўваўся намеранай ім фактычнай расплаты, што выпадкова выясніцца крыху пазней. Таго ж дня вечарам два ўзброеныя жаўнеры завялі мяне на першы паверх, дзе я апынуўся ў даволі прасторным пакоі з адной толькі шафай, адным крэслам і пісьмовым сталом, на якім сядзеў, растапырыўшы ногі ў ботах з халявамі, вярзіла з квадратнаю фізіяноміяй і пісталетам у руках, якія насілі савецкія афіцэры. Па пакоі прахаджваўся суб'ект у вайсковай (у адрозненні ад свайго кампаньёна) вопратцы з пагонамі паручніка і тварам інтэлігента, "узброены" ў вялікую тоўстую нагайку, якою разпораз хвастаў па халявах сваіх "афіцэрак". Па загадзе "цывільнага" жаўнеры падвялі мяне ва ўпор да яго, ахутанага смуродам самагонкі, гнілога дыхання, а адзін з салдацікаў цвёрда, відаць прывычна, трымаў за каўнер маёй вопраткі. "Уладар" пачаў гутарку пытаннем, чаму я спрабаваў уцячы з падвала. Пачуўшы маё запярэчанне, пачаў мяне вызываць, акладаючы жалязякай пісталета дзе папала, у тым ліку і па твары, ды што раз чубам бота даваў мне выспяткі ў прамежнасць. Уючыся ад болю, падтрымоўваны за каўнер ваякамі, я стараўся пераносіць здзекі моўчкі, прадаўжаючы маё пярэчанне, бо ўцякаць не спрабаваў і пытанне лічыў правакацыяй. Наступная серыя ўдараў і слоўных знявагаў выразна паслабіла ўражлівасць катаванага на страх і боль, а раз'юшанасць праследаваецеля дайшла да зеніту. Упэўніўшы мяне, што не ўцяку і згнію тут на месцы, змяніў тэму, задаўшы іншае пытанне: хто і з якой мэтай скіраваў мяне з амерыканскай зоны акупацыі ў Польшчу.

Не маючы адказу і на гэта пытанне, вызваліў я сваім пярэчаннем новую атаку фурыі жывадзёра, які стаў чаргова прымяняць усе прыдуманыя ім прыёмы мучэння. Паўтарыўшы дакладна пабоі, раптам згарнуў ляжачыя на стале паперы і фатаграфіі, забраныя з маёй кватэры. Крычаў, што ўсё ведае пра мяне і, назваўшы мяне засраным інтэлігентам, схапіў атэстат сталасці ды, змяўшы ў далоні, тыцкаў ім мне пад нос, загадваючы: "Zezres ten chamski swistek". Адвярнуўшы галаву ад яго кулака, пачуў я новыя ўдары ажно да страты прытомнасці. Ён, таксама непрытомны ад злосці, выкліканай маім супрацівам, парваў атэстат сталасці на кусочкі і выкінуў у смецце. Усе далейшыя яго садысцкія акты здзеку перасталі рабіць ураджанне ў атупелай свядомасці яго ахвяры. Трыманне жаўнерамі ў пазіцыі галавою ўніз, ламанне пальцаў на ўсаджаных між імі прутах - усё стала раптам абыякавым. Не асягнуўшы жаданых адказаў, следчы нарэшце загадаў паставіць сваю ахвяру пад сцяну перад ім і аб'явіў рашэнне застрэліць, калі на прызнаюся да "сваёй віны". У тым моманце мая ўвага чамусьці сканцэнтравалася на афіцэры, які заўважальна нервова пачаў крочыць па пакоі і на абодвух жаўнерах, якія не здолелі схаваць сваёй стомленасці. Падумаў я прытым, што страляць ён не захоча, каб не пабрудзіць памяшкання. Гэта рэакцыя на яго пагрозу чамусьці запамяталася мне да сёння, як зусім нечаканая ў той драматычнай сітуацыі і незразумелая. Пагрозу прымянення зброі мой мучыцель аднак выканаў і, аддаўшы тры выстралы над маёю галавою, аб'явіў перамену свайго рашэння. Загадаў жаўнерам прынесці рыдлёўку, якую сунуў мне, крыкнуў вывесці ў агарод, выкапаць яму і выканаць экзекуцыю. Жаўнеры павялі, падтрымоўваючы, асуджанага лесвіцай уніз і, праўдападобна, прывучаныя да такой працэдуры, павярнулі ў падвал ды зачынілі ў каморцы побач той, у якой сядзеў я дасюль.

Паступовае памяншэнне напружання прыйшло на змену ранейшаму здранцвенню, якое чаргова ўступіла адчуццю ўсёабдымнага болю цэлага цела. Спроба сесці на збітых з дошак нарах спарадзіла нечакана пабольшанне цярпення. У такой сітуацыі найлягчэй аказалася стаяць, учапіўшыся за нейкую выстаючую са сцяны падвала жалязяку. За сцяною маёй "кватэры" раздаваліся жарты і смех затрыманых за штосьці дзяўчат, якія правакавалі вартаўнікоў хмельным спевам з-за кратаў падвала: "Chodz kochanie na je..." і т.д.

Цераз закратаванае ваконца маёй каморкі відаць

было святло ў вокнах акалічных дамоў і прасоўваючыеся час ад часу цені іх жыхароў. Усё гэта адводзіла думкі ад толькі што перажытага ды напамінала пра існае вакол у меру нармальнае жыццё, што ў маім тадышнім адчуцці здавалася мне асабіста чымсь абстрактным, чымсь, што мяне не датычыць.

Думкі гэтыя, аднак, не выклікалі ў свядомасці ніякага ўражання. Яны проста зусім незалежна праплывалі адна за адною цераз збалелую галаву ажно да поўнага знемажэння, што змусіла вязня прылегчы на тых, не прыладжаных да сябе дошках нараў. Пякучы пачаткова боль ад сутыкнення з цвёрдым лежывам паступова слабеў у меру спакойнага нерухомага ляжання. Са сну вырваў мяне грукат замка ў дзвярах каморкі. Спробу раптоўна падняцца з месца спыніў, аднак, востры боль, які змусіў застацца ў ранейшай пазіцыі цела. Прынесенае вартаўніком снеданне падалося мне якойсьці недарэчнасцю, тым больш, што павыбіваныя то ў адзін, то ў другі бок сківіцы, хоць і ўдалося вярнуць у належнае ім месца, аднак не дазвалялі нат паварушыць ротам. Выцершы паступова запечаную кроў з твару, губ і галавы, прыйшлося захаваць нерухомую пазіцыю знявечананага цела. Заактывізаваліся затое думкі, якія выпіралі адна другую, губляючыся ў здагадках фактычнай мэты мучэння мяне пераследавацелямі, хто яны такія, як павесці сябе ў далейшых з імі кантактах, ды чым усё гэта можа канчыцца.

Дзесьці пад поўдзень зноў заляскатаў замок і дзверы майго жылля адчыніліся насцеж, а ў іх з'явіўся той паручнік - сведак допытаў - у суправаджэнні маладой цяжарнай жанчыны. Яны без слова прыглядаліся да мяне некалькі добрых хвілін, а я пільна сачыў за выяўленнем іх твараў і інтэнсіўна, але беспаспяхова шукаў у памяці падабенства да каго-небудзь са спатканых дасюль у жыцці людзей. У вачах аднак абоіх маіх "гасцей" удалося заўважыць хутчэй прыкметы спачування, чым нянавісці ці іншага адмоўнага пачуцця. Кім была тая цяжарная жанчына, так і засталося для мяне таямніцай, але яе адведзіны ды рэакцыя твару, выкліканая маім незайздросным выглядам, разбудзіла іскру надзеі, што ўсё-такі нехта пацікавіўся, кім на самой справе з'яўляецца той патурбаваны арыштант. Гэтая думка крыху аблягчыла маю псіхічную траўму. Неўзабаве пасля іх адыходу прыйшоў узброены пасланец з абедам. Паставіўшы ежу каля неспажытага снедання, запрапанаваў прагулку для спаўнення фізіялагічных неабходнасцяў. На маю адмову (есці я не мог, а фізіялагічных патрэбаў не адчуваў) зарэагаваў увагаю, што маё "адчаянне" нікога тут не ўсхвалюе, а акт галадоўкі можа мне прыдаць лішняй бяды. Я і сам гэта добра разумеў і далёкі нат думкаю быў ад "хванабэрыяў" у тыпе галадоўкі, магчымых у цывілізаваным свеце.

Пасля трох-чатырох дзён мая фізічная кандыцыя паступова пачала папраўляцца. Тыдняў тры ніхто мяне не непакоіў, а я губляўся ў здагадках, што яшчэ могуць прыдумаць мае "апекуны". Тым часам раны ад пабояў выгаіліся, і ў рэшце рэшт вывелі мяне зноў на паверх у той самы пакой, дзе чакалі адно цырульнік і вартаўнік. Пабрыўшы маю бараду, далі магчымасць памыцца, а на досвітку наступнага дня загадалі хутка сабраць сваё "дабро" і, вывеўшы, пасадзілі ў знаёмы мне самаход між жаўнерам і згаданым раней сяржантам Аляксандрам Пясецкім. За рулём самахода сядзеў вядомы ўжо паручнік, які ўзначальваў канвой, а каля яго яшчэ адзін вайсковец. За "нашым" самаходам стаяла з заведзеным маторам грузавая машына, з кузавам, прыкрытым брызентам, загружаная якімісь таварамі. Па загаду паручніка канвой падаўся ў падарожжа, як пасля аказалася, у Познань, з невялікай хуткасцю, дасягальнай прыстарэламу грузавіку. Неўзабаве дарогу перагарадзіў нам шлагбаўм, за якім стаялі ўзброеныя па зубы савецкія жаўнеры, а побач згуртаваная ваенная тэхніка, у тым ліку самаход, з кабіны якога выйшаў нам насустрач афіцэр. Запытаўшы, хто камандзір канвою, зажадаў ад яго дакументаў усіх прысутных. Зідэнтыфікаваўшы дакументы з усімі апрача мяне, зажадаў прад'яўлення і майго пасведчання тоеснасці. Ніякія тлумачэнні паручніка аб загадзе сакрэтнага транспартавання вязня не прамаўлялі да перакanання саюзніка, які загадаў перадаць "шпіёна" ў яго распараджэнне ды загадаў жаўнерам акружыць наш канвой. Паручнік папрасіў аднак яго на сакрэтную гутарку адзін на адзін, і, сеўшы ў кабіну савецкага газіка, афіцэры доўга спрачаліся між сабою, пакуль польскі ваяка не пераканаў свайго суразмоўцу вядомым ім толькі абодвум аргументам. Такім чынам шлагбаўм перад намі падняўся, і наш "караван" падаўся ў далейшае падарожжа. Адолеўшы пару дзесяткаў кіламетраў, зноў затрымка войскам пераможцаў і паўтарэнне працэдуры, амаль ідэнтычнай з папярэдняю, што прычыніла нямала трывогі, асабліва вязню. Перамогшы і гэтую перашкоду і ад'ехаўшы ад яе, камандзір затрымаў свой самаход, які папхнуты лёгка грузавіком, кіраваным недасведчаным шафёрам, стаў кацішча ў адхон. Мне неяк удалося схапіць за ручны тормаз і затрымаць машыну на даволі стромым адхоне. Гэта зрабіла добрае ўражанне на афіцэра. Пасля кароткага адпачынку і пераадолення ў далейшым падарожжы яшчэ адной савецкай перашкоды, асенні кароткі дзень хіліўся да канца, а спадарожнікі што раз больш згадвалі пра магчымасць падсілкавання. Праязджаючы на змярканні цераз якоесь мястэчка, ваякі заўважылі карчму, што стала наступнай прычынай перапынку ў нашым вандраванні. Пакінуўшы кагось з грузавіка на варце, усе астатнія падаліся ў закусачную, ведучы і мяне з сабою.

У дастаткова прасторнай хаце за сталом сядзела некалькі дзецюкоў, змагаючыхся з літровай пляшкай сівухі, ды выглядала на тое, што не з першай. Наша кампанія, пасадзіўшы мяне на лаве пад сцяною, заняла месцы пры стале побач і заказала таксама літроўку, цэлую гурбу каўбасы ды хлеба. Пасіліўшыся з большага, камандзір паднёс і мне паўшклянкі самагонкі і кавалак каўбасы з хлебам. Адмовіцца ад такога пачастунку не хапіла сілы, тым больш, што і на думку не прыйшла магчымасць выклікання той ветлівасцю афіцэра вострага канфлікту. Падхмеленыя тубыльцы, даведаўшыся, што з'яўляюся вязнем, напалі на афіцэра за яго паблажанне фашысту ці мо нават шпіёну. Завязалася спрэчка, якая давяла да ўзаемнай пагрозы пісталетамі. Перамагла аднак прытомнасць галавы "obywatela porucznika", і пагоджаныя бакі канфлікту распілі на развітанне яшчэ адну бутэльку смярдзючага "эліксіру". Вы-

йшаўшы на паветра, афіцэр загадаў усім заняць свае месцы і пакінуць вязня ў яго распараджэнне. Сам адвёў мяне ўбок і, прытвараючыся вельмі грозным, стаў дапытваць, што мяне злучае з сяржантам Пясецкім. Я пачаткова сцвярджаў, што не разумею, у чым справа. Аднак мой суразмоўца патрабаваў шчырага адказу, аргументуючы свае дамаганні фактам прапановы Пясецкага расстраляць мяне ў лесе падчас адпачынку пад зачэпкай уцёкаў у час адводу ў кусты для аддання мачы. Тады я палічыў мэтазгодным паведаміць паручніка аб інцыдэнце "вышабравання" Пясецкім ад мяне вопраткі і абутку. Гэта інфармацыя выразна задаволіла яго і на маю просьбу паінфармаваць, ці ў Познані паўторыцца падобнае катаванне, як у яго пастарунку, цвёрда запярэчыў. Выясніў прытым, што адбылося гэта незалежна ад яго волі а, нат, супраць яе, а аплявуху я атрымаў, між іншым, памылкова за нейкага нямецкага жандара, які седзячы перада мной у той каморцы распілаваў краты, рыхтаваўшыся да ўцёкаў, за што прыйшлося расплаціцца мне. Дадаў, што атрымаў загад даставіць мяне ў "Wojewodzki Urzad Bezpieczenstwa" (у скарачэнні "УБ") у Познані. Пад'ехаўшы пад шлагбаўм таго "ўжонду", пакінуў мяне пад наглядам вартаўніка, а сам са сваімі падуладнымі (у тым ліку і з Пясецкім) падаўся ў напрамку будынкаў установы. Я, несвядомы рэчаіснасці тадышняй Рэчы Паспалітай, спытаў жаўнера, што гэта за "ўжонд", якога ён пільнуе. Той на маё пытанне адказаў таксама пытаннем: "A ty co, z choinki zerwal sia, nia wiesz co to NKWD?" Мне стала да канца ўсё балюча ясна, уключна з тым, што маю дачыненне з земляком. Прабуючы выкарыстаць гэты факт, пачаў наракаць, што цераз непаразуменне мяне арыштавалі ў дарозе з Нямеччыны на нашу Віленшчыну. Прабуючы разбудзіць у хлопца пачуцці зямляцтва, падкінуў яму думку, што яго абавязкам пільнаваць шлагбаўм, а не чалавека, ды яшчэ земляка, калі яму прыйдзе адхіліцца на пару крокаў. Мая нечакана смелая (з-за недахопу часу) гутарка выразна перапалохала хлопца. Стаў ён раптам прытварацца рашучым ды заявіў, што зямляк ці не зямляк, але "krok w lewo, krok w prawo benda strzelal prosto w ciebie, bo ani mysle za jakiego szpiona na biale niedzwiedzie byl wywiezionym". Гэта "сяброўская" гутарка, можа, яшчэ прадоўжылася б, каб не вярнуўся так хутка мой афіцэр з астрожнымі канваірамі, якія забралі мяне пад замок.

**Нечаканая спагадлівасць**

Раніцай яшчэ не паспеў я пазнаёміцца ў камеры з вязнямі, як з'явіўся канваір і завёў мяне ў бюро ў суседнім будынку на допыт. Функцыянер у цывільнай вопратцы, праўдападобна, следчы суддзя (інстытут якога функцыянаваў яшчэ ў пасляваенны час), аказаўся мужчынам з выгляду каля сарака гадоў. Агарнуўшы мяне зрокам з ног да галавы, запрапанаваў сесці, упэўніўся ў маёй тоеснасці і запытаў, за што мяне арыштавалі. Адказ мой быў стэрэатыпны, які ён чуў ад вязняў, праўдападобна, штодзённа: "Не ведаю, бо я не зрабіў ніякага злачынства, і ніякага абвінавачання мне не прад'явілі". Тады мой суразмоўца пераключыўся на канкрэты і спытаў, якой дзяржавы лічу сябе грамадзянінам ды чым я кіраваўся, уступаючы ў Саюз беларускай моладзі. Такіх пытанняў я спадзяваўся, разважыў у думках польскія традыцыі барацьбы за незале-насць, неастыўшую нянавісць да акупантаў і пастанавіў рызыкнуць на шчыры адказ, згодны з маім перакананнем. Назваў я сябе грамадзянінам Польшчы беларускай нацыянальнасці, а на работу ў СБМ быў накіраваны толькі што паўсталым у часе акупацыі рухам незалежнасці Беларусі. Міжвольная грымаса на твары следчага, што было прызнакам ні то паблажлівасці, ні то спачування маёй наіўнасці, паказалася мне аптымістычным прагнозам, і ў гэтым я не памыліўся. На пытанне, якое заданне я атрымаў ад таго "незалежніцкага руху", я паясніў, што ў так кароткім часе дзеяння асноўным заданнем было замацаванне нацыянальнай свядомасці моладзі ды прысваенне ідэі незалежнасці, што мела зберагчы моладзь ад уплываў акупанта. Паспешна дадаў я, што ніякай іншай дзейнасці, якую можна было б залічыць да злачыннай, я не праводзіў.

Ён тым часам, пераглядаючы мой дэпазіт - якіясь фатаграфіі і, праўдападобна, пратакол са Слубіц, не ўглыбляўся ў дэталі справы ды прыклiканых мною арганізацый і быццам не слухаў адказу на пытанне.

Пасля хвіліны маўчання ён заўважыў, што тэарэтычна можна згадзіцца з тым, што нельга караць "за пабожныя зычанні". Дадаў аднак, што я дзейнічаў на тэрыторыі савецкай дзяржавы і супраць дзяржаўным інтарэсам, а гэта ўжо мяняе сутнасць справы. Некалькі наступных пытанняў, не звязаных непасрэдна са справаю і непратакаляванне адказаў сведчылі, у маім разуменні, аб незацікаўленні следчага праблемай, тым больш, што гутарка вялася спакойна і мела характар хутчэй дыскусіі, чым следства.

У рэшце-рэшт, згарнуўшы тыя паперы са стала на маіх вачах, суразмоўца мой парваў іх і выкінуў у смецце. Вярнуў мне фатаграфіі, рэпатрыяцыйны дакумент і заявіў, што ён не мае асновы для арышту і пастанаўляе звольніць мяне. Я, збянтэжаны тою нечаканасцю і асмелены яўнай, у маім перакананні, добразычлівасцю чыноўніка, папрасіў яго рады, ці мне можна вярнуцца ў Рыпін. Ён, падумаўшы, параіў мне ў крайнім выпадку забраць з кватэры неабходныя рэчы і паехаць дзе-небудзь у іншае месца. Дадаў прытым, што мэтазгодным было б з'явіцца ў каменданта міліцыі, а калі з яго боку напаткаю якую непамыснасць, спаслацца мне трэба на капітана Казлоўскага. Званком выклікаў ён таго капітана, пазнаёміў нас, загадаў вывесці мяне на волю і заапекавацца ў выпадку неабходнасці.

Я, ашаломлены да рэшты такім зваротам справы, стараўся дастасавацца да дадзенай мне рады. Вярнуўшыся ў Рыпін, заглянуў на кватэру, давёў сябе да сякога-такога ладу і пераначаваў дома. Раніцай пастанавіў адведаць чыгуначны вакзал ды разглянуцца за шанцам выезду на захад. Пад параю стаяў пасажырскі цягнік без якой-колечы, як мне здавалася, аховы. Я ўскочыў у вагон, запоўнены нямецкімі палоннымі. Ідучы ўздоўж вагона, звярнуў я ўвагу на чатырох маладых хлопцаў, якія сядзелі на адной лаве. Не надумоўваючыся, спытаў, ці яны не дапамаглі б мне ўладзіцца між імі, каб пераехаць заходнюю граніцу. Хлопцы пераглянуліся між сабою, але ў тым моманце пачулася

звонку гутарка двух мужчын, што якісь "цывіль" увайшоў у цягнік, дык хутка трэба праверыць. У такой сітуацыі засталася толькі адна магчымасць - выйсці з вагона на другі бок цягніка. Мне гэта ўдалося і, пралезшы цераз іншы, таварны цягнік, абышоў я станцыю і вярнуўся ў будынак вакзала, дзе трывога дзеля пошукаў "цывіля" была ўжо ў заўважальным разгары.

Расчараваны няўдачай, падаўся я да камендата міліцыі даведацца, якая будзе яго рэакцыя на маё з'яўленне. Той выслухаў мяне, загадаў міліцыянту сцерагчы, а сам пусціўся да выхаду. Я зразумеў складанасць сітуацыі і пастанавіў спаслацца на капітана Казлоўскага. Афіцэр, быццам апечаны, ускочыў назад у пакой і, зачыніўшы дзверы, зганіў мяне, што не папярэдзіў яго зразу. Параіў не вяртацца на кватэру і дапамог непрыкметна пакінуць камендатуру. Мінаючы рыначную плошчу, нечакана напаткаў я таго ж пана Ягадоўскага (канфідэнта), які гутарыў з двума савецкімі афіцэрамі. Для яго гэта спатканне таксама было нечаканасцю, ад якой не здолеў затаіць разгубленасці, і на маё ветлівае прывітанне стараўся адказаць таксама прытворнай ветлівасцю. Мінуўшы майго пераследаваценя, з рынку ўвайшоў я ў першы напатканы завулак ды, прыбавіўшы кроку, мяняў, як мага, вулічкі, напрамкі і ўрэшце шчасліва асягнуў хату спомненага Яна Палонскага. Палонскія законспіравалі мяне ў сваёй кватэры і выслалі ў разведку 10-гадовага сыночка Янку, які інфармаваў цераз кожныя дзве гадзіны аб руху савецкіх жаўнераў у ваколіцы маёй кватэры. Тым часам спадарыні Марылі (жонцы пана Палонскага) ўдалося паразумецца з маімі, пазнанымі перад арыштам, сябрамі з ПУРа, якія загадалі чакаць іх да вечара. (Імёны іх, на жаль, зацерліся ў памяці з прычыны зусім кароткіх нашых кантактаў.) На змярканні з'явіўся адзін з іх з дзяўчынай (гадоў каля трыццаці), якая запрапанавала называць яе Тарэсай і завяла мяне дамоў дзесь на акраіне мястэчка. Жыла яна з пажылой жанчынай, да якой трэба было звяртацца "цётка". Акцэнт у іх гутарцы здраджваў усходняе, праўдападобна, віленскае, паходжанне, але на самым пачатку мы дамовіліся, што не будзем узаемна азнаямляць сябе аб справах мінулых і, наогул, асабістых. Пра мяне, разнеслася чутка па цэлым мястэчку, і яны, безумоўна, арыентаваліся ў маёй сітуацыі ды прычынах, што на яе злажыліся. Факт гэты тым больш непакоіў мяне, а цішыня майго тайніка спрыяла аналізу пережытых прыгод. Не было сумнення, што лёс паставіў мяне з аднаго боку барыкады з напатканымі добразычлівымі і дасканала сарганізаванымі людзьмі. Ясным было мне так-сама, што яны ведалі, каму спрыялі і рабілі гэта не толькі па гуманітарных меркаваннях, рызыкуючы сваёю асабістай бяспечнасцю. Кім былі яны фактычна, да сёння асталося мне таямніцай. Зразумелым здавалася толькі тое, што былі гэта людзі дасведчаныя наступствамі савецкай цемры, з'яднаныя ў абароне супраць той пагрозы, ва ўмовах пасляваеннага адраджэння.

Жанчыны пратрымалі мяне дзён восем. На досвітку снежаньскай раніцы Тарэса падвяла мяне палявой сцежкай у напрамку чыгуначнага прыпынку. Людзі падарожнічалі ў тым часе пераважна ў "цяплушках" таварных цягнікоў. Пашанцавала і мне трапіць у такі цягнік, які ўжо стаяў падрыхтаваны да адпраўкі на ўсход краіны цераз Варшаву. Вагон быў загружаны да паловы рознымі прадметамі бытавога прызначэння. У другой яго палове стаяла нагрэтая да чырвані чыгунная печка, папулярна называная "казою". Абапал яе сядзелі і стаялі пасажыры, пераважна "шаброўнікі". Гэта былі жыхары пераважна цэнтральных раёнаў краіны, якія "шабравалі", інакш кажучы - рабавалі, рознае дабро з пакінутых немцамі дамоў ці гаспадарак на заходніх землях, якія называлі "Ziemie Odzyskane".

Я без плашча ці паліто і без багажу падаўся маім спадарожнікам падазроным, дык прыйшлося тлумачыцца, што вяртаюся з Нямеччыны і шукаю нейкай працы і сям'і, якая магчыма эвакуявалася з усходу. Цягнік валокся марудна, збіраючы па дарозе таварныя вагоны, дык для пасажыраў было дастаткова часу, каб завесці знаёмства. Якісь дзядзька, які зарэкамендаваў сябе мясніком з горада Жэшаў, запрапанаваў мне працу і продаж яму наручнага гадзінніка, які заўважыў ён у мяне на руцэ ды палічыў яго праўдападобна залатым, бо быў з жоўтага металу. Я фактычна не меў канкрэтнай мэты падарожжа, але рашыў прыпыніцца ў Варшаве ды пашукаць знаёмых. Варшава зрабіла жудаснае ўражанне. Цэнтр горада дашчэнту знішчаны. Людзі перамяшчаліся па грамадных звалах разбітых да фундаментаў будынкаў знаёмых раней вуліц.

На адвячорку, шукаючы начлегу, даведаўся я ад жыхароў горада аб якімсь прытулку на вуліцы Навагрудскай. Суразмоўцы мае, ахопленыя псіхозам небяспекі з боку марадзёраў з арміі "вызваліцеляў", папярэдзілі аб пагражаючай небяспецы з іх боку на ахутаных цемрай вуліцах. Фактычна, вандруючы Навагрудскай вуліцай, не напаткаў я жывой душы і з цяжкасцю знайшоў начлежны дом, які аказаўся запоўнены людзьмі да той ступені, што цяжка было знайсці месца, каб прысесці. Сырое халоднае надвор'е наступнай раніцы і дапякаючы голад не заахвочвалі да дзеяння. Самапачуццё паправіла крыху міска гарохавага супу, спажытага ў сталовай багадзельні "CARITAS", дзе дзіўным выпадкам спаткаў Юрку Бусько - знаёмага з Навагрудка, удзельніка навагрудскай групы на II Усебеларускім кангрэсе, а актуальна студэнта медыцыны. На дамоўленае спатканне ў горадзе Юрка не з'явіўся. Усе іншыя мае спробы кантактаў з праваслаўнаю мітраполіяй, перапоўненай вандруючымі святарамі, ПУР, УНРРА (United Nations Relief and Rehabilitation - Арганізацыя Аб'яднаных Нацый для дапамогі і адбудовы) і іншымі акадэмічнымі ды рэпатрыяцыйнымі ўстановамі кончыліся няўдачна. Асабістых знаёмых, у маёй тадышняй сітуацыі, адведаць не асмеліўся. Аслаблены ад голаду і холаду арганізм пазбавіўся імуналагічнай здольнасці перад інфекцыямі. Абстаноўка здавалася безнадзейнай, што прымусіла мяне пакарыстацца атрыманым ад сп. Яна Палонскага лістом да яго брата з горада Радам і паехаць туды. Той, малодшы, пан Палонскі, таксама шавецкі майстар, утрымоўваў жонку і двое дзяцей з дробных, сведчаных людзям паслуг. Сям'я яго ледзь звязвала канцы з канцамі, але прыняла мяне - прыблуду - ветліва.

У такіх абставінах прыйшлося мне прадаць гадзіннік - апошнюю рэч, якая ўяўляла нейкую вартасць, каб не быць абузай для тых людзей, тым больш,

што мае фізічныя недамаганні змусілі да некалькіх дзён адпачынку. Балючы нарыў на левай руцэ змусіў да хірургічнай інтэрвенцыі ў пункце Чырвонага Крыжа, а холад - да адведзін УНРРы, дзе далі мне якоесь асенняе цеснаватае паліто-кімано. У такой, быццам маскараднай, вопратцы, з падвязанаю рукою і цякучымі ўжо іншымі нарывамі, прыйшлося прадоўжыць маё падарожжа ў невядомае. Мяснік у Жэшаве, які дэкляраваў мне працу, даведаўшыся аб продажы гадзінніка, наадрэз адмовіўся прыняць маю прапанову любога занятку. Такім чынам аказаўся я зноў у тупіку, з якога не бачыў выхаду і пачаў дапытвацца пра прытулак для рэпатрыянтаў. На вакзале чыгуначнікі параілі паехаць у гарадок Пшэворск, дзе каля чыгункі дзейнічаў такі рэпатрыяцыйны пункт.

**Зноў ПУР**

Неўзабаве надышоў цягнік, і пад натоўпам падарожных я апынуўся ў цяплушцы. У часе падарожжа нечакана, з жахам сканстатаваў я, што кішэня, у якой былі ўсе мае асабістыя дакументы і рэшта грошай, атрыманых за гадзіннік, аказалася пустою. Дарэмныя былі пошукі на падлозе вагона і просьба звярнуць мне кашалёк, калі хто выпадкова знайшоў яго. Нехта з пасажыраў, даведаўшыся, што я - "нетутэйшы", асвядоміў, што дакументы лічацца тут каштоўнай здабычай, на якую палююць партызаны з УПА (Украінскай паўстанчай арміі) і польскага НЗС (падпольнай арганізацыі Narodowe Sily Zbrojne). Занепакоены тою інфармацыяй, на вакзале ў Пшэворску я заявіў аб інцыдэнце каменданту чыгуначнай міліцыі, які не хаваў складанасці сітуацыі і накіраваў мяне ў начлежны барак ПУР, што каля таварнай чыгуначнай рампы, дзе затрымоўваліся таварныя цягнікі з вугалем са шлёнскіх капальняў. Дзеля гэтага транспарту былі адмыслова дастасаваны чыгуначныя рэйкі да савецкіх вагонаў, якімі безупынна, эшалон за эшалонам, адпраўляўся вугаль у СССР.

У бараку прыняла мяне вельмі ветліва гаспадыня прытулку, дала паесці і запрапанавала ўладзіцца ў пакоі, прызначанай для начлежнікаў.

Памяшканне аказалася прасторным. У куце яго ляжала каля тоны вугалю, непадалёку ад якога стаяла распаленая чыгуначная печка, дагляданая пажылым чалавекам, які гаварыў на мешанай польска-ўкраінскай мове і называў сябе Пятроўскім. Іншыя начлежнікі ўжо спалі на кучках саломы, без пасцелі, прыкрытыя кожны сваёю вопраткай альбо якою дзяружкаю. Пачуўшы новага прышэльца, адзін з хлапцоў падарваўся з логава, наскуб па крысе ад іншых саломы, разаслаў яе пад сцяною і запрапанаваў мне прылегчы. Прыкрыўшыся сваім "кімано", я launched маментальна паддаўся забыццю, але ненадоўга. Разбудзіла мяне мітусня сярод мужчын, якія апранутыя пабеглі з барака. Неўзабаве адзін за адным вярталіся яны з мяшкамі, напоўненымі вугалем, якім папоўнілі назапашаны ўжо раней у куце пакоя. Грукат высыпванага вугалю даносіўся і з суседняга памяшкання барака. За некалькі хвілін цяжка засоп паравоз, які набраўшы з гідранта, што насупраць барака, вады, пастанавіў прадоўжыць сваё падарожжа на ўсход з цяжкім каштоўным чорным грузам. Кончыўшы спраўна сваю акцыю, хлопцы маментальна вярнуліся на свае логавы, каб на досвітку з новымі сіламі выгрузіць здабыты вугаль на падагнаныя пад барак сялянскія падводы. "Трансакцыі" гэтыя, якія былі таямніцай палішынеля, паўтараліся кожную ноч. Час ад часу спадарожнічалі тым акцыям вінтовачныя выстралы чыгуначных міліцыянтаў, зразумела, у неба, скарэй дзеля паказухі перад якой-небудзь інспекцыяй, чым для пагрозы вугальшчыкам. Яны, наогул, карысталіся пашанай грамадзян, у тым ліку і міліцыі, за адвагу рабавання нарабаванага дужэйшымі ды за дабраахвотнае забяспечанне насельніцтва самым каларыйным вугалем - антрацытам.

Вугальным "прадпрымальнікам" залежала на папаўненні сіл і пасля некалькіх дзён, калі я пры дапамозе медыцынскай сястры сп. Зофіі Пільх крыху ачуняў з недамаганняў, запрапанавалі мне ўдзел у "прадпрыемстве". Адчуванні мае ў гэтай справе былі мешаныя. Я разумеў, што ні ў якім выпадку не магу трапіць у канфлікт з міліцыяй, з другога боку не было іншай магчымасці хутка зарабіць на неабходныя абутак і вопратку. Хлопцы вызначылі мне лягчэйшую работу, як слабейшаму фізічна, але затое больш небяспечную. Маім заданнем было ўзлезці на верх даволі высокага загружанага вагона перад самаю адпраўкаю цягніка, калі яго абслуга была занята сваімі тэхнічнымі праблемамі, хутка наскідаць вугалю (глыбы яго былі даволі вялікія) і, пакуль эшалон разгоніцца, выскачыць з яго. Хлопцы тым часам падбіралі скінугы вугаль у мяшкі і валаклі "на склад".

Набліжаліся Каляды 1945 года. Тым часам я здолеў сяк-так апрануцца за выручку з продажу чорнага так у літаральным, як і пераносным сэнсе, тавару.

На Куццю ўсе сужыцелі нашай кватэры разбягаліся да мясцовых жыхароў, з якімі здолелі пазнаёміцца. Застаўся адзін Пятроўскі, які лічыўся ненармальным, і я. Мы вычысцілі і дакладна вымылі пакой і, сеўшы каля печкі, прабавалі завесці гутарку аб нічым. Урэшце мой кампаньён таксама дзесь змыўся, а я застаўся са сваімі цяжкімі думкамі. Гаспадыня, сп. Эспеншыдт, аглядаючы барак, зацікавілася маім адзіноцтвам, прыклікала сваіх сыноў, і ўсе грамадою пачалі мяне намаўляць з'есці сумесна вячэру. Гэта была для ўсіх нас сумная, рэфлексійная Куцця. Муж гаспадыні згінуў на вайне (супраць каго ваяваў - не было гутаркі), дваццацігадовая дачка Зося страціла нагу, выскачыўшы (паводле яе слоў) з таварнага вагона, баронячыся перад згвалтаваннем савецкімі жаўнерамі. Сыны - 17, 14 і 7 гадоў - былі школьнікамі. Сям'я гнездзілася ў маленькім пакойчыку і харчавалася прадуктамі з дароў УНРРА. Цэлы той рэпатрыяцыйны пункт утрымоўваўся з дароў УНРРА. ПУР меў у бараку сваё невялічкае бюро, медыцынскую абслугу, харчовы, а пасля і прамысловы склад. Заданнем яго было прымаць і часова ўтрымоўваць рэпатрыянтаў, якія шукалі месца пасялення ў Польшчы, арганізаваць бясплатны транспарт перасяленцам у заходнія рэгіёны краіны, аказваць па меры магчымасці помач рэпатрыянтам, сведчыць медыцынскую і іншую дапамогу перасяленцам з усходу ў цягніках, якія затрымоўваліся на станцыі Пшэворск.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Барвіха і Хвістак**

А праз пару дзён быў ад’езд. Усё, як у вершы:
*Праз пушчу сасновую*
*выючы ішлі цяжкія джыэмсы (GMC).*
*Замець бегла развеяна*
*не вядома, куды і адкуль.*
*Малая станцыйка Дзівава...*

Доўга ішла пагрузка танкаў. Штабны транспарт атрымаў адзін пасажырскі вагон. Я залез на найвышэйшую багажную полку, хацеў спаць. Унізе, пры століку пару афіцэраў з нашага палка гулялі ў карты. А паміж імі і мной “мой” маёр размясціўся з жонкай пад коцам на шырокай полцы. Потым злез, схапіў яе за валасы і пачаў біць галавой аб дошкі. Вырвалася і ўдарыла яго ў твар. З рыкам схапіўся за рэвальвер. Спрабавалі яго супакоіць, не паддаваўся. На шчасце маёрша недзе знікла. Бегаў па ўсім вагоне, шукаючы яе з рэвальверам у руцэ, і сам Мерыцан, які ехаў у суседнім купэ, не мог яго супакоіць, хутчэй прасіў...

Пасля той сцэны сам выгляд няшчаснага і агіднага маёра прыводзіў мяне да млоснасці. Нявесела пачыналася выправа нашага палка...

Але на свеце было весела. Усю восень немцы адступалі на Украіне. Думаў, што зачэпяцца за Днепр, але рэкордна хутка Чырвоная Армія перайшла яго і на 6 лістапада Кіеў быў вызвалены. Потым былі новыя бітвы, здабыты Жытомір, немцы сабралі трохі танкаў, адбілі Жытомір, але якраз на Божае Нараджэнне, бадай, Жытомір зноў быў здабыты, яшчэ больш, савецкія войскі пайшлі наперад, сягаючы даўняй польскай мяжы.

Пэўна таму ўсе ў нас лічылі, што і мы гэтым разам пойдзем на Украіну. Адтуль было найбліжэй дадому.

Ніводзін з нас, канешне, не сумняваўся, што 44 год будзе апошнім годам вайны. Гэтая перспектыва ў першую чаргу спрычынілася да таго, што мы так гучна святкавалі Новы год.

Нашыя чаканні, здавалася, спраўджваюцца. Цягнік не пайшоў на Маскву, павярнуў на поўдзень. Мы былі на станцыі Тула III, калі з вялікім гвалтам пачалі бегаць па цягніку з крыкам: “Паручнік Путрамант, паручнік Путрамант!”

Уручылі мне дэпешу, якая загадвала неадкладна з’явіцца ў Маскву, у сядзібу СПП.

Паехаў туды з неспакойнай душой. Не меў паняцця, у чым справа, баяўся, што сталася нешта кепскае з сям’ёй, я ведаю, зрэшты...

Як звыкла ў такіх выпадках, поспех быў неабавязковы. Загадалі мне пасяліцца ў доме адпачынку, які СПП атрымаў пад Масквой, у Барвісе, пакуль справа даспее. Дом бы выдатны, кармілі знакаміта. Было затое нудна. З таварыства, якое там знаходзілася, памятаю Леана Хвістка. Знакаміты матэматык, скульптар, пісьменнік, дзеяч і філосаф быў якраз дастаўлены з Каўказа, дзе правёў пару гадоў вайны. Быў ужо ў дастатковым веку, але вельмі дзейны. Быў там з нябрыдкай дваццацігодкай, якую хутка прадставіў усім як пляменніцу. Ён спяваў сапраўдныя серэнады ў гонар барвіцкай кухні, што ж калі рэдка карыстаўся з яе высокай якасці: абжыраўся, атрымоўваў незварэнне, пяць дзён сядзеў выключна на адварах, потым папраўляўся, адразу абжыраўся і так далей. Акрамя таго быў вельмі крыўдлівы і, калі я нешта не так сказаў, выклікаў мяне на двубой. Пасля знаёмства з Хвісткам ураджанне, якое меў пра прафесараў універсітэта, узбагацілася шэрагам рысаў надзвычай маляўнічых.

Я тэлефанаваў у Маскву з прыспешваннямі. Сказана чакаць. Было што раз цяжэй: фронт ішоў у Польшчу. Баяўся, што не змагу...

Тым часам напісаў вялікую паэму, якая была выразам настрояў нашага выезду з Белаомута. Барэйша вельмі хваліў, надрукаваў нават у “Вольнай Польшчы”, выкінуўшы толькі адзін раздзельчык, сэнсава слабы і непатрэбны. Не мог стрымацца і звёў пры аказіі адзін парахунак на тэму мерапрыемстваў, рапартоў і насценных газетак. Мерыцан пазней страшна з гэтага пацяшаўся.

**Харкаў, Кіеў, Жытомір**

Але нецярплівасць не давала жыць: Сарны ўзятыя! Роўна ўзятае!

Выклікалі мяне нарэшце. Якраз справа ішла пра Сарны і Роўна.

На тую тэрыторыю пасылалі дэлегацыю Войска Польскага ў СССР у складзе 3 чалавек. На чале стаяў вусаты Люсек. Была яшчэ адна таварышка. Я быў трэці.

Місія мела некалькі заданняў. Перш за ўсё мела арганізаваць прызыў палякаў у нашую армію. Мы меліся, наогул, прадстаўляць гэтую армію на той тэрыторыі. Атрымаў яшчэ асабістае заданне ад Барэйшы: пісаць карэспандэнцыі ў “Вольную Польшчу”.

Не патрэбна дадаваць, што я быў у захапленні. Перш за ўсё: мы першыя, хто вяртаецца на тую зямлю. Марылася нам, што зімовае наступленне дойдзе прынамсі да Віслы. Гэта значыць Львоў, сям’я... Наогул, першыя на паслягітлераўскай тэрыторыі. Што там застанем?

Нічагуткі амаль не ведалі пра край, па-за абагульненнямі, што тэрор. Пісалі пра тое ў кожным

нумары "Новых гарызонтаў", але стэаратыпнасць тых нататак рабіла тое, што, нават, я найбольш даверлівы ва ўсёй рэдакцыі, таксама страціў здольнасць распазнаваць, што ў тым было праўдай. Зрэшты, тыя абагульненні былі лішне жудасныя. У хвілях роздуму гаварыў сам сабе: вайна, мусім тыя жудасці раздзімаць, каб падтрымліваць нянавісць да непрыяцеля.

Тым больш, нічога не ведалі пра палітычны твар польскага падполля, па-за фактам, што дзейнічала там Гвардыя Людова і ПРП, а таксама бліжэй не даследаваная арганізацыя лонданскай арыентацыі.

Нарэшце яшчэ адна прычына радасці: едзем туды, найбліжэй да фронту. Тое, што мяне дагэтуль абмінала, станавілася фактам. Убачу я тую вайну нарэшце зблізку. Бо ўжо ведалі, што другая дывізія пойдзе недзе пад Сумы, ці зусім далёка ад фронту.

Таму выезд з Масквы, хоць так запознены, радасны. Канец студзеня. Едзем на Тулу - Харкаў. Па дарозе аглядаем палі нядаўняй бітвы пад Курскам і Белгарадам. Памятаю на снежным полі вялікія зборышчы спаленых танкаў. Стосы нейкіх жалязяк. На чыстым снезе з тога стосу бліскае раптам найчысцейшы блакіт. Гэта крыло самалёта. Увесь стос - гэта рэшткі самалётаў. І гэтае крыло параўноўваецца ў мяне цяпер з адарваным крылом матыля.

Харкаў шэры. Галоўная вуліца выпалена. На велізарным пляцы досыць жахлівыя руіны велізарнага гмаха, які быў гонарам Харкава трыццатых гадоў: гмах дзяржаўнай прамысловасці. Расказваюць, што летам на тых выпаленых жалезных і каменных рыштаваннях жыла малпа, якая з'ўлялася з блізкага заапарку. Паказвалася раптам на папялішчах пятага ці дзясятага паверха. Пакідалі ёй на першым паверсе што-небудзь з яды.

Сядзім у Харкаве пару дзён: клопаты з білетамі. Вечарам трапляем у нейкую прыватную забягалаўку, адкрытую пры немцах і яшчэ не прычыненую. Нешта жудаснае. Два пакойчыкі, памаляваныя на бурачкова. Некалькі столікаў. Пуста, акрамя нас, бадай, пару чалавек. Але ёсць "джаз". Скрыпач, ён жа дырыжор, ураз нас распазнае, частуе серыяй куявякаў (куявяк - польскі народны танец, *перакл.*) Потым падходзіць, канешне, ён з Львова. Уцёк адтуль праз год пасля нас.

Аповесці яго былі ўражвальныя: расстрэлы, лагеры, голад... Мы слухаем, здзіўляемся і не давяраем.

З раніцы ад'езд. Ідзём праз выпалены Харкаў. Імгла, не відаць чорных вокнаў, дамы здаюцца цэлымі. Наша таварышка хапае раптам за руку Люська:

- Глядзі, глядзі, цалкам як Варшава!

Істотна, імгла зацерла "кантэкст". Пастараўшыся, можна было б сабе ўявіць нас каля помніка Каперніку...

Доўгая, павольная язда на Кіеў. Цягнік становіцца ў полі, адразу прыбягаюць жанчыны, ахвяруюць самагонку. Першы раз яе п'ю. Агідная - з буракоў.

Вечарам павольна едзем цераз Днепр. Каля нашага часовага моста будуецца з усёй хуткасцю новы, асвятляюць яго рэфлектарамі, хоць фронт за некалькі дзясяткаў кіламетраў.

Вялікая, бетонная каробка галоўнага вакзала. Падумаў бы, што цэлы: імгла, вечар. Спалены, толькі што муры стаяць.

Але горад здаецца досыць цэлым. Толькі Крашчаціка няма. Галоўная вуліца нават не спаленая, папросту разбурана дашчэнту.

У горадзе рух. Таксама ёсць яшчэ рэшткі нямецкай дзейнасці, прыватныя крамкі, шыночкі, "таўкучка" перанеслася ў цэнтр: тратуары забітыя гандлярамі ўжо ад пачатку няіснага Крашчаціка.

Хаджу па тым горадзе і прыпамінаю сабе пару папярэдніх візітаў. Якая розніца з атмасферай юбілею Тычыны! Тады гэта быў сыты, упарадкаваны, можа трохі правінцыйны, але і ўтульны, і свойскі горад. Цяпер у ім нейкая абшарпанасць, часовасць, ужо не кажучы пра холад і голад.

Зайходзім да Ванды. Яна тут з Карнейчуком ад пачатку лістапада, ад "адразу пасля вызвалення". Жыве ў вялікім, аднапавярховым доме ў цэнтры. Распавядае пра вайну, пра вызваленне горада, пра першыя дні Кіева...

Нехта іншы апавядаў нам пра Ванду з тых дзён наступную гісторыю.

Якраз прыехалі ў Кіеў. Бадай што, назаўтра званок з Масквы. Звоніць Молатаў. Гаворыць, што "гаспадар" на нейкі блізкі дзень запрашае да сябе дзеячоў СПП.

Ванда пытаецца:

- А такі і такі будзе?

Вельмі яго тады не любіла.

Молатаў адказвае:

- Але ж, канешне!

- Ну, то мяне не будзе.

- Але ж, Ванда Львоўна, у нас не прынята адмаўляць, калі гаспадар запрашае. У нас так не бывала!

- Ну, то будзе! - адразае Ванда.

Карняйчук арганізуе нам кантакты з уладамі вызваленых тэрыторый. Атрымоўваем накіраванне ў мясцовы партызанскі штаб. Гэта там яшчэ ўсё найбольш дзейная інстытуцыя.

Адным хмурным ранкам іду па такой свойскай вулічцы недалёка ад Саюза пісьменнікаў. Тут аднапавярховыя домікі. І каля аднаго, на ступеньках ганачка сядзіць нейкі дзядуля з бародкай. Не звярнуў на яго ўвагі, вельмі звычайны. Толькі, калі ўжо мінуў яго, нешта кажа мне аглянуцца. На грудзях, там дзе носяць ордэны, вісяць у яго дзве залатыя зоркі!

Двойчы Герой Савецкага Саюза. Канешне, адразу яго пазнаю. Гэта адзін з найслыннейшых партызан, Каўпак.

Сёння раніцай зразумеў, каго Каўпак задумліва нагадвае з твару: бачыў запаведнік зуброў. Зубра, маладога зубра. Мае абсалютна такую самую бародку і вельмі падобны, трохкутны твар з высунутым ілбом.

Назаўтра ад'язджаем з групай грузавікоў партызанскага штабу. Доўга чакаем, пакуль канвой будзе гатовы. Вязём харчы і боепрыпасы. На кожным возе пару партызан са зброяй. Вельмі маляўніча: вопратка паўвайсковая, паўцывільная, на футраных шапках кавалак чырвонай стужкі і зорка, часта высечаная з банкі ад кансерваў. Валёнкі, кажушкі. Шмат гранат на поясе.

Зімовы дзень. Снег. Хмурна: неба цямнейшае за зямлю. Ад самога віду хочацца спаць. Пад вечар прыязджаем у Жытомір. Горад цэнтр мае выпалены,

прадмесці цэлыя. На вуліцах натоўпы партызан і трохі менш вайскоўцаў.

Замёрзлыя і агаладалыя ўлазім у мясцовы партызанскі штаб, які размяшчаецца ў разлеглай аднапавярховай камяніцы. Атмасфера чароўнага балагану, свойскага першаснага камунізму: хто хоча, заходзіць, сядаецца за стол, есць выдатную, тлустую вараную капусту з кавалкамі варанага мяса і грэцкую кашу, трубіць спірт або самагонку, потым кладзецца спаць у суседнім пакоі, на падлозе. Ніякіх накіраванняў, ніякіх анкет, ніякага чакання...

На наступны дзень караван рушыць далей. Тут на кожным кроку сляды вайны: папаленыя вёскі, узарваныя масты, аб'езды. Страціўшы кожнага дзясятага Звягель ці Ноўгарад Валынскі, драўлянае мястэчка з вялізнымі каробкамі казармаў у прадмесцях.

А потым кажуць: Карэц. Старая граніца. Нешта нас падкідае ўверх. Вось хвіля, якой чакалі блізка тры гады. Якая яна ёсць, тая праўда пра пакінуты край.

**Роўна**

Адразу іншы пейзаж: вялікі белы касцёл і некалькі дзясяткаў малых хатак. Холадна. Стаім тут некалькі хвілін, саскакваем з грузавікоў, забягаем у першую, лепшую хату трохі абагрэцца.

Кабеціна ў малой, бруднай кухні. Глядзіць на нас, а потым нейкая сутарга сціскае ёй губы, крывіць твар, пачынае плакаць.

Глядзіць на нашыя няформенныя плашчы, нязграбныя орлікі, незнаёмыя твары і плача, без крыку, без істэрыкі. Але гэта не слёзы радасці.

Распавядае нам пазней: тут былі бульбаўцы. Першы раз чуў тады гэтае панурае слова.

Былі бульбаўцы, прыйшлі да яе - бо полька - сагналі з суседніх хат рэшту палякаў, дзевяць ці адзінаццаць, загадалі легчы на падлогу, прыкрылі іх усіх палатнянымі простынямі. І пасеклі сякерамі.

Простыні, каб кроў на іх не пырскала.

Выходзім да машын. Край прыгожы, дзень таксама. Іней на бярозах. Касцёл такі свойскі. Але радасць вяртання, радасць спаткання засталася ў той бруднай кухні. Ёсць толькі неспакой і нецярплівасць.

Колькі кіламетраў да Роўна? Трыццаць ці пяцьдзясят? Урадлівая зямля, лясоў зусім няма, цэлы час палі і сады. Але дамоў няма. Толькі коміны. Не было тут - амаль - вёсак, былі калоніі. Усе спаленыя. Бульбаўцы выразалі палякаў, рэшта ўцякла, то ім спалілі сядзібы. А пазней вынішчылі ўкраінцаў, ці немцы, ці палякі, ці самі ўкраінцы? Усе па-троху. Ацалелі толькі капмактныя вёскі. І там гінулі людзі, але нешта засталося.

Вечар цяплейшы. Падае мяккі сняжок. Гарызонт цямнее. У тым снезе ўязджаем у Роўна.

Мілае, цэлае мястэчка. Начуем у квартале аднародных домікаў, у палякаў. Прымаюць нас гжэчна, але з натугай. Назаўтра знайходзім выгаднейшую кватэру. перабіраемся да доктара Пятроўскага, шасцідзесяцігадовага дзядка, недалёка ад касцёла і чыгуначнай лініі. Тут знайходзім мілы, сямейны настрой. Пані доктарша, на шмат малодшая за мужа, бачыць, праўда, што мы не шыкоўныя, як перадваенныя афіцэры, але прымае нас гасцінна, ямо разам з усёй сям'ёй, укладаючы да кучкі нашыя слабыя вайсковыя дабаўкі. Ёсць таксама выхаванка, дзяўчына за дзесяць гадоў, якая падалася незвычайна прыгожай. Жыў таксама малады ксёндз, які "служыў" тут побач. Вядзём з ім размову дыпламатычна, але добразычліва.

Першае, што звалілася нам на галовы: нічога з жудасцяў, што мы чулі, не ёсць перабольшваннем. Апавядаюць пра ліквідацыю яўрэяў. Неяк у гэта, не тое, каб не верылася, не ўяўлялася, што гэта мажліва... Апавядаюць з дэталямі, але найстрашнейшае, гэта не дэталі, гэта тон іх апавяданняў. Тон натуральны, звычайны, чысты ад уражанняў і, нават, не вельмі асуджальны. Трэба з гэтым жыць, бачыць гэта штодзень, каб усё гэта прыняць да ведама, залічыць да з'яваў прыкрых, так, але звычайных.

Ходзім па горадзе. Запоўнены партызанамі. Яшчэ больш маляўнічыя, больш разадзетыя, стракатыя, узброеныя. На працягу двух гадоў Роўна - сядзіба высокіх акупацыйных уладаў - было для іх раўназначнае з нечым найбольш недаступным. Тым больш іх сцягаецца сюды зараз.

На платах яшчэ шмат нямецкіх абвестак. Чытаю, і нейкая сутарга сціскае мне горла. Вось перада мной чорным па белым тое, што найбольш ненавіджу. Гэта звесткі пра расстрэл закладнікаў за перашкоду "еўрапейскай барацьбе за лёс нямецкага народа..." Вось яшчэ нейкая, ужо толькі парадкавая абвестка. Але подпісы - гэтыя начальнікі паліцыі і СС, гэтыя рэйхсляйт...- як там называліся тыя варварскія тытулы? Дзікія, чужыя, адпіхваючыя, не да веры блізкія, руку працягнуць ...

**Макс**

Стаю так перад абвесткай, у доўгім плашчы, футранай шапцы, у якой тануў орлік з аранжавымі сцяжкамі на лацканах, апошнім знакам маёй прыналежнасці да танкавых войск - як раптам нехта ляпнуў мяне па плячы.

Адварочваюся: абсалютна незнаёмы партызан, у доўгіх ботах, вялікай шапцы, з-пад якой вылазілі космы забіяцкага чуба, трохі ніжэйшы за мяне, блакітнавокі, з вялікім, але бульбаватым носам.

- Як справы! - гукае. - Я - Макс!

Прывітаўся з пэўнай насцярожанасцю. Нічога мне гэтае імя не гаварыла. Быў выразна расчараваны.

- Як гэта, Макса не ведаеш?

Быў ён камандзірам польскага партызанскага атрада, які ўзаемадзейнічаў з Чырвонай Арміяй. Якраз выйшлі з нямецкіх тылоў. Атрад перажываў пэўную рэарганізацыю, частка людзей пайшла на цывільную працу, частка - па дамах.

Макс пацягнуў мяне з сабой у свой "штаб". Была гэта некалькіпавярховая камянічка, пустая, пасля ўцёкаў нейкага нямецкага амту. Але пакуль туды дабраліся, Макс арганізаваў такую сабе маленькую "tournee des grands ducs" па штабах сяброўскіх партызанскіх атрадаў. Аднаго з начальнікаў мы засталі ў вялізарным ложку разам з жонкай. Гаварыў, што быў хворы, жонка, пэўна, таксама. Але на наш від палез пад ложка і выцягнуў адтуль вялікую бутлю з буршты-

навай, празрыстай вадкасцю. Налілі ў кубак, падалі мне. Адчуваў падвох, але паколькі ўжо меў практыку палітычна-выхаваўчай працы, рэзнуў той келіх і ... страціў дыханне, а потым пачаў пішчаць, па-просту голас мне зарваўся і змяніўся ў рэзкі дыскант. Гэта быў неачышчаны спірт.

Макс сядзеў збоку, гаворачы без перапынку. Рушылі далей ужо салідна налітыя. “У сябе” склікаў штаб, нейкага лекара - яўрэя з атрада, страшна заўшывелага і пачаў з ім танцаваць. У шалёных паваротах дападаў да паліцы, дзе стаяла бедная аптэчка таго, і што раз хапаў то слоік, то бутэлечку і бац аб падлогу... Потым схапіў рэвальвер, паф, паф, паф, сем куль у столь....

Зрэшты, што я маю паўтараць, ужо ўсё гэта апісана пятнаццаць гадоў таму назад (апавяданне пад назвай “Пачатак эпасу” з тома “Выпадак у Красным Ставе”).

Апавядаў мне фрагменты свайго партызанскага жыцця. Апісаў іх у апавяданні, пачатак якога павольны і расплыўчаты, а ўвесь астатак стрэсавы.. Не было ў гэтым ніякага схаванага сэнсу, па-просту не меў у той час сіл на аповесцеву эпіку, а шкода. Ужо да той тэмы вярнуцца не патрафлю.

Макс, зрэшты, нядаўна выдаў цэлую кніжку сваіх успамінаў, якая мела вялікі поспех. Слушна. Тое, што пісаў, было, будзь што будзе, толькі літаратурнай апрацоўкай, а тэма - як тое, пра што апавядаў нам некалі Паўленка - вымагала канвенцыі мемуарнага аўтэнтызму.

Макс жыў з маладой дзяўчынай, яўрэйкай, якая цудам уратавалася з масакры і якую прыгарнуў у атрадзе. Была мілая, маўклівая, здаецца, рэпрэзентавала ў тым статку элемент развагі. Акрамя таго выдатна гатавала. Мы з Люськам хадзілі нейкі час да іх проста на знакамітую гарохаўку на бачку.

Макс - гэта была незвычайная адвага, але і запальчывасць. Аднаго дня паведаміў мне, што мае затрыманага бульбаўца і пачне яго зараз дапытваць. Увялі нейкага хлапчыну. Макс доўга спрабаваў даведацца, хто ў гэтым раёне начальнік бульбаўцаў. Тып выкручваўся, што нічога не ведае, кляўся. Макс раптам выбухнуў, пачаў крычаць, урэзаў яму раз і другі...

Я стаяў анямелы. Агіднае відовішча. А тым не менш, не ўмеў запратэставаць. Дзікі свет акупацыі і тэрору паралізаваў свядомасць, ужо не гаворачы пра гуманізм. Можа, калі б не бачыў той жанчыны ў бруднай кухні ў Корцы...

Макс рэарганізаваў свой атрад, які меўся стаць брыгадай. Дыскутавалі над назвай, у канцы спыніліся на “Грунвальдзе”. Быў гэта першы атрад, які, як бы цяпер сказалі, стаяў на платформе Народнай Польшчы.

Але не адзіны. На Валыні і паўднёвым Палессі дзейнічалі іншыя польскія атрады, незалежныя ад АК. Пазней сутыкнуўся з імі.

### ТАП

Гэта быў толькі адзін з аспектаў нашай дзейнасці, гэтыя кантакты з партызанамі. Асноўнае заданне палягала ў дапільнаванні, каб мабілізаваныя адтуль палякі трапілі ў Сумы, дзе цяпер лакалізавалася Першая Армія.

Мы разлічвалі, што зімовае наступленне пойдзе далей, але тыя разлікі тут не споўніліся. Занялі Луцк, акружылі Ковель, але на паўднёвым усходзе немцы стаялі яшчэ над Дняпром! Мы былі на самым чубку вузкай паўвыспы, як стылет убітай у “тысячагадовы Рэйх”.

Досыць хутка пачаліся налёты. Роўна і суседні Здалбунаў былі важнымі чыгуначнымі вузламі. Па меры набліжэння вясны немцы што раз больш баяліся, што з той паўвыспы рушыць новы магутны ўдар, які праз пару тыдняў можа аказацца над Віслай. Таму амаль ноч у ноч бамбавалі чыгуначную станцыю, “пры аказіі” разбураючы і горад. Хадзіў тут пануры каламбур: быццам бы немцы вырашылі Роўна зраўняць з зямлёй...

Трохі з той нагоды што вячэру мы пілі ў Пятроўскіх “сто грамаў”. Наступаў налёт, мы ішлі ў суседні дом, які быў не закончаны. Сам не ведаю чаму, здавалася, што там бяспечней. Мабыць, таму, каб нешта рабіць, неяк рэагаваць на налёт. Без гэтага было прыкрае пачуццё поўнай уласнай бездапаможнасці...

Памятаю хмурную ноч, ідзе дождж, стаім у тым паўпадвале ў плашчах, накінутых на піжамы. Угары вые самалёт. А Люсек гаворыць:

- Ведаеш, Тувім прыслаў нам падарункі...

Нам, гэта значыць тым некалькім пісьменнікам, звязаным з Войскам Польскім у СССР. Некалькі чалавек атрымалі вечныя пёры (аўтаручкі), я - гадзіннік... Быў мне вельмі патрэбны. Перад тым, згодна з дзіўным звычаем танкістаў, знялі мне гадзіннік з танка. Быў памераў будзільніка. Насіў яго ў кішэні на грудзях, з-за чаго мой бюст падаваўся турботна абшырным.

Жэст Тувіма быў першым, вядомым нам, унёскам з боку польскага літаратара па-за СССР нашай палітычнай плоскасці. Бо, канешне, падарункі былі толькі зачэпкай для больш абшырнага сведчання.

Люсек паехаў у Сарны. Прывёз адтуль адну жудасную гісторыю.

Затрымаўся ў ксендза-пробашча. Накрывалі вячэру. Даў банку мясных кансерваў. У кухні круцілася адзінаццацігадовая дзяўчынка. Калі банку адкрылі, выпадкова яе ўбачыла. Атрымала прыступ істэрыі.

Была сірата. Яе бацькоў бульбаўцы пабілі, а потым парэзалі на кавалкі, паклалі ў паўміскі, паўбівалі відэльцы. Дзяўчына сама мела некалькі колатых ран. Адсюль на выгляд мяса ...

Мы хадзілі на мабілізацыйныя пункты. Адразу нас акружалі. Не трэба было нават агучваць прамоваў, хапала даць сябе агледзець і адказваць на пытанні. Людзі дзівіліся на нашыя мундзіры. Пару фраз хапала для каментару. Ішлі ў войска ахвотна, настроі былі някепскія. Залішне шмат польскай крыві пралілі на Валыні немцы і бульбаўцы.

Распавядалі нам пра нязвыклую мешаніну партызанскіх атрадаў, якія блыталіся тут. Ніколі не было вядома, хто вечарам стукае ў акно хаты. Галоўныя дзейныя сілы былі чатыры: немцы, бульбаўцы, чырвоныя партызаны і тапаўцы. Так там называлі атрады лонданскай арыентацыі. Мела гэта абазначаць “Таемная армія польская”. Той крыптонім мы пераказалі ў

Маскву. Бадай што ў "Новых гарызонтах" ці ў "Вольнай Польшчы" нехта нават накрапаў страшна "прынцыпіяльны" артыкул на гэтую тэму.

Пры першай бытнасці ў Маскве мы зрабілі з гэтага вялікую прыгоду. Мы мелі вельмі няшмат дадзеных пра ТАП, але хапала таго, каб яскрава бачыць палітычнае глупства звядзення яе ў нішто.

Ужо сам факт, што арганізацыя была масавай, загадваў абачліва да яе адносіцца. З пэўнасцю гэта не была самаабарона польскіх маёнткаў, як гэта часта было на Віленшчыне. Падмацоўваны немцамі ўкраінскі тэрор быў скіраваны супраць усіх палякаў. Апавядалі нам, што паміж Сарнамі і Роўнам быў адзін польскі цэнтр, які ператрываў - гэта было малое мястэчка з броварам ці цагельняй, у якім дзейнічала мясцовая самаабарона, якая складалася галоўным чынам з рабочых. Гэта меў быць наш класавы вораг?

Усялякая масавая арганізацыя ўжо ў самой сваёй аснове закладвае апор на масы. Толькі дурань будзе рабіць з яе прадстаўніка непрыяцеля.

Нажаль, знайшліся такія. Не хацелі слухаць нашыя аргументы. Мелі на вуснах беспамылковую апрыярычную асуджальную машынку. А называлі сябе дыялектыкамі...

Валынская дыялектыка палягала на тым, што ў той час існаваў трохкутны ўклад галоўных дзейных сілаў. Абмінаючы ўжо агульныя погляды, у канкрэтным валынскім выпадку стасункі паміж асноўнымі сіламі былі зменныя і неадналітныя.

Перад пагрозай вынішчэння палякі без погляду на палітычную арыентацыю сваіх правадыроў. прымалі ўсялякую дапамогу, якая толькі надаралася. Шматразова тапаўскія атрады ратавалі савецкія партызаны. Ведаю выпадкі сумесных выступленняў супраць бульбаўцаў і немцаў. Зрэшты на весну цэлая - ужо акаўская - "дывізія", гэта значыць некалькі соцень чалавек, пасля бою прарвала нямецкі кардон, прыйшла да нас і была ўключана ў Першую армію.

Таму належала разглядаць кожны выпадак, кожны атрад індывідуальна. Належала адрозніваць людзей ад палітыкі. Палітыка была ні к чаму. Людзі часта былі для ўратавання.

Але ў рэдакцыях не вельмі нас слухалі. Тыя там "ведалі лепей"!

Гэтыя дарогі да Масквы! Аказійнай машынай да Кіева. Па дарозе амаль заўсёды прыпынак і начлег у Жытоміры. Аднаго дня, чакаючы на машыну, зайшлі на мясцовыя старыя могілкі, засаджаныя вялізнымі старымі дрэвамі. Колькі ж там польскіх прозвішчаў на надмагіллях!

Недалёка адтуль малая, напаўвясковая вулачка. Як жа называлася, ці не Каракуліна? Аднаго дня мы шукалі начлег. Нам сказалі, што там далей жывуць палякі. Мы зайшлі. Старая маці з дачкой за дваццаць гадоў. Называлія Шчапаноўскія, але па-польску ведалі толькі пару слоў. Колькі разоў мы начавалі ў Жытоміы, ішлі туды. Часам нас частавалі жудаснай поліўкай з ячменных крупаў і некалькіх бульбін. Мы ратавалі справу кансервамі.

Гэта было ўражвальна: Ад Карца на захад ні адной польскай сям'і па-за горадам. Ад Звягла былі ўсюды, у горадзе, на вёсцы. Панурая бандэраўская зараза не пераступіла даўняй мяжы, не знайшла за ёй для сябе пажывы. Нацыяналізм не ёсць хваробай невылечнай.

Кіеў. Ёсць пэўныя навіны. Рыхтуемся, каб там у Маскве распавесці ўсё, чым жылі гэтыя пару тыдняў. пераказаць яшчэ свежыя, яшчэ смярдзючыя сляды акупацыі, распавесці пра ТАП, прапанаваць тое і тое.

Масква. Ніхто не мае часу. Якраз урачысты сход. Альбо прыём. Альбо па-просту ўсе занятыя - дома, ва ўстанове. Трэба бегаць з высунутым языком, каб хто захацеў выслухаць.

Пачне слухаць, а потым перапыніць:

- А ведаеш, што было з Х? Гэта такая апярэтачная акторка. Ведаеш, быў банкет, увесь СПП, з савецкага боку такі генерал, такі генерал. Пачынаюцца тосты. Раптам ускаквае Х, урачыстым голасам выгуквае: а цяпер за здароўе нашага любімага, вялікага маршала Юзафа... Усе ўстаюць, датуль кірунак быў адзін, а тут прамоўніца памылілася: Пілсудскага! Людзі скамянелі, мой сусед, савецкі генерал такі і такі, шыпіць мне на вуха: правакатарка ці ідыётка? Прыціскаю руку да сэрца, клянуся, што ідыётка...

Досыць, што за кожным разам мы вяртаемся ў Роўна не без палёгкі. У каторы чарговы раз бачу, што не падходжу для штабной працы...

**Вуліца Белая**

У сакавіку вяртаюся ў Маскву. Еду той самай шашой за Корцам. Спаленыя сядзібы, тут і там не зачэпленыя сады. Поўны спакой. А перад тым недзе тут паміж Корцам і Роўнам бандэраўцы зрабілі засаду і смяртэльна ранілі аднаго з найлепшых савецкіх генералаў - Ватуціна. Якраз цяпер, у канцы сакавіка.

У Роўне ўключылі мяне ў сабраную толькі што камісію па вывучэнні нямецкіх злачынстваў. У яе ўваходзіць таксама наш сужыцель, малады ксёндз, як жа яго, ці не Лявіцкі?

Гэта, мабыць, найжудаснейшыя ўспаміны з вайны. І Майданак, і Асвенцым бачыў я ўжо пасля Роўна.

Едзеце галоўнай вуліцай, мінаеце чыгунку, паварочваеце направа. Горад тут кволы, агародны. Адна з апошніх вуліц называецца Белай.

Гэта адна з найвялікшых катакомб. Знаходзіцца тут звыш дзясятка велізарных групавых магіл. Прыязджаем, калі там працуюць нямецкія палонныя. Бачым толькі розныя стадыі людскога бытавання пасля смерці.

Штабялі разложаных цел. Жудасны пах. Жудасныя чорныя клубкі: валасы невядома з якіх целаў. У размоклай гліне палонныя з адвіслымі сківіцамі грабуцца, тупаюць нагамі. Мокра, адліга. На палях яшчэ снег.

Прыходзяць суседзі, апавядаюць пра незамудраную тэхніку экзекуцый: глыбокі роў, гнаныя туды распранутыя людзі. Адзін эсэсавец, які страляе чарговай ахвяры ў патыліцу.

Часам экзекуцыя трохі іншая: людзі скачуць у роў, а потым іх расстрэльваюць з аўтамата. Гэта тут расстраляныя дзвесце з нечым закладнікаў, пра што чытаў абвестку пасля прыезду.

Але найбольш тут савецкіх ваеннапалонных. Звыш дзясятка велізарных доўгіх равоў, некалькі дзясяткаў тысяч чалавек...

Тут найстрашнейшыя не словы, а міны, жэсты, тон тых, хто апавядае. Дзелавы, трохі прыглушаны. Ведаем ужо, што масавыя забойствы людзей тэхнічна магчымыя. Хочуць таго ці не, а засталося ім з той навукі нешта на дне свядомасці.

Потым едзем за горад. Рэдкія загайнікі, так зв. "сасёнкі", месца прагулак у перадваенным Роўне. Тут ліквідавана ровенскае гета. Але сляды менш прыкметныя: год таму назад немцы прыслалі сюды спецыяльны аддзел, які адкапаў трупы і спаліў. Лічыліся ўжо са сваім адступленнем, спрабавалі зацерці сляды.

Ідзём гразкім, валынскім чарназёмам. Палілі трупы ў чыстым полі. Велізарныя стосы: пласт паліва, пласт трупаў, усё зліта бензінам. Цяпер толькі невялікі ўзгорак попелу. Нехта з камісіі грабе ў ім кійком. Жалезны гузік, недапалены кавалак косткі...

Яшчэ ў турэмным падворку. Тут, у кутку каля муру, адкапалі няшмат, звыш дзясятка чалавек. Яшчэ мароз, расстрэльвалі ў спешцы, перад самымі ўцёкамі, таму трупы дасканала захаваліся.

Маладая дзяўчына. Вышэй калена мае вытатуіраваны надпіс па-расейску: "Мая любоў да мамы". Гаварылі мне пазней, што гэта лозунг нейкай разгалінаванай зладзейскай арганізацыі. Іншая, старэйшая, на пальцы мае залаты абручальны пярсцёнак. Яшчэ трэцяя, прыгожая, маладая дзяўчына, у дасканалым кажушку, ахутана фіялетавай суконнай хусткай з паўтузінам спадніц. Пад рукой паўбулкі хлеба. Савецкая лекарка, якая з'яўляецца сакратаром камісіі, лезе ёй у кішэню кашушка і раптам крычыць:

- Пашпарт!

Савецкі, знішчаны пашпарт. Адарка Гоман, з вёскі Оржаў, гадоў 22.

Стаю на тымі парэштkамі скамянелы. Бачыў пазней горы абутку Майданка ці Асвенцыма. Не засланілі мне той адной ахвяры.

Гэты хлеб, гэты абручальны пярсцёнак, гэтыя хусткі, кажушкі, спадніцы, гэты пашпарт, асабліва - усё гэта сведчыць пра адно: пра раптоўнасць экзекуцыі, пра яе агульнасць. Былая крымінальніца - і дзяўчына, апранутая, у што мела найлепшага, можа завярбаваная на працу ў Рэйху - абедзве пайшлі пад кулі...

**Вялікдзень і Крамянец**

Ішла вайна. На поўдні кіпелі цяжкія бітвы. Немцаў канчаткова адкінулі ад Дняпра, былі цяжкія баі пад Шапятоўкай, новы савецкі ўдар прарваўся аж за Днестр, дайшоў да Прута, да дзяржаўнай мяжы. Аснова нашай паўвыспы расшырылася і ўзмацнілася. Першую армію перакінулі бліжэй да фронту, пад Жытомір і Бярдзічаў. Мы паехалі туды з Люськам. Красавіцкае сонца, чысцюткія ўкраінскія вёскі. Уваходзіш у хату - агарняе цябе дзіўны пах - ні то мята, ні то лімон. А гэта толькі нейкія мясцовыя зёлкі, развешаныя гаспадыняй уласна для таго, каб міла пахла.

Армія была раскідана на значнай прасторы. Удалося мне вырваць некалькі дзён, пастанавіў адведаць танкі. Былі страшныя разлівы, за метр ад дарогі ўжо нельга было зрабіць кроку. Танкі стаялі ў вёсцы, акружанай высокімі таполямі. Гэта там здарылася ўсё, апісанае ў "Вялікадні". Усё або амаль...

У штабе арміі даведаўся, што фронт рушыў каля нас: узялі Дубна і Крамянец. Я адразу загарэўся, каб туды паехаць: з візіту ў 1940 годзе ведаў, што там знаходзіцца шмат мастакоў і, наогул, польскай інтэлігенцыі. Аказалася, што камандзір брыгады артылерыі Букаемскі, якому ўжо прысвоілі генерала, якраз туды выбіраецца. Я папрасіў, каб узяў мяне. Вельмі ахвотна згадзіўся.

У Роўне сярод розных людзей мы пазнаёміліся з маладым, высокім хлопцам - без нагі. Апавядаў шмат пра сябе, пра ўцёкі ад немцаў. Ногу меў страціць пры той аказіі. Гаварыў таксама шмат пра Крамянец. Выпытваў у яго пра знаёмых, якія там былі. Распавядаў. Пра Рымоўскага распавёў, што ўцякаў пяшком з горада, калі яго арыштавалі, трымалі нейкі час у вязніцы, а потым расстралялі.

Калі цяпер мы рыхтаваліся да падарожжа, я ўважаючы сябе за вялікага спецыяліста ў акупацыйных справах, калі ж Букаемскі ні на хвілю не зачапіўся за даўнія польскія землі, апавядаў яму пра Роўна, пра Крамянец. Слухаў цярпліва, але калі дайшоў да Рымоўскага, перапыніў:

- Усё гэта праўда, што ўцякаў, што арыштавалі. Але яго не расстралялі. У гестапа быў наш чалавек. Пастараўся яго вызваліць. Цяпер хаваецца ў Крамянцы.

Я паглядзеў на Букаемскага, як на вар'ята. Адкуль ён можа пра тое ведаць? Не быў тут, не сутыкаўся ні з кім адтуль... Паехалі. Як вядома, усё, што гаварыў, цалкам спраўдзілася. Наш хлопец ведаў толькі пачатак гісторыі, Букаемскі ведаў усю. Адкуль? Не маю паняцця...

Не быў усяведным, зрэшты, і беспамылковым. Калі я яму гаварыў, што ў Роўна вынішчаны кожны дзясяты, махаў рукой:

- Пане, я там ведаю кожны дом. Каб я ды не знайшоў знаёмых?

А аднак жа не знайшоў. Пасля вандроўкі праз Роўна прыйшоў да панства Пятроўскіх прыгнуты, раптам пастарэлы: гэты выехаў, таго забілі....

Паездку ў Крамянец не забуду. Не забуду галоўна таго пейзажу, а ўжо асабліва паху багатай, вялікай вясны, якую мы напаткалі адразу за Роўнам. Апісваў гэта з вялікім аўтаэнтызмам, хоць на лірычны лад у рэпартажы ў "Вольнай Польшчы" пад назвай "Дубна-Крамянец". Ведаеце, што ў 1953 годзе выдавецтва той рэпартаж выкінула са зборніка "Ад Волгі да Віслы"? Знайшоўся такі мудрэц, які прызнаў яго за палітычна памылковы, бо замала там гавару пра ўкраінскіх партызанаў.

Крамянец, зрэшты, той Крамянец з зімы 40 года ўжо не існаваў. Польская інтэлегенцыя раз'ехалася. Сам горад страціў найпрыгажэйшую частку цэнтра, у якім немцы зрабілі спачатку гета, а потым зраўнялі з зямлёй. Было страшна здаць сабе справу, якое цуда знікла з паверхні зямлі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў зборнік навуковых артыкулаў “Вялікае Княства Літоўскае: палітыка, эканоміка, культура”. У дзвюх частках. Частка 2. 500 ст., наклад 400 асобнікаў.**




**У Варшаве ў выдавецтве “Bellona” выйшла кніга Томаша Касінскага “Радавод славян”, 336 ст.**




**У Познаньскім выдавецтве “Bellona” выйшла кніга Вітольда Банаха “Радзівілы. Бурлівыя лёсы слыннага роду”, 584 ст.**




**У Менску ў выдавецтве Зміцера Коласа выйшла кніга Сымона Барыса “Каляндар гісторыі Беларусі”, 320 ст. Наклад 70 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга С.В. Пешына “Гонар зямлі беларускай”, 62 ст., наклад 4000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Харвест” выйшла кніга Кастуся Цвіркі “На скрыжалях вякоў”, 360 ст. Наклад 1500 асобнікаў.**



**Капліца св. Яна Хрысціцеля ў в. Пагародна Воранаўскага р-на, пабудавана ў XVII стагоддзі, знішчана ў 1950 г., адбудавана і асвечана ў 1996 г.**

*Здымак С. Судніка, 2018 г.*